





**Адам ГЛОБУС**

# агрэсія,

## або Колькі слоў пра роўнасць

Роўнасць? Не! І яшчэ раз — не!

Няма той роўнасці, пра якую столькі нагаворана праз сродкі масавай інфармацыі і панапісвана белым па чырвоным на кіламетровых лозунгах.

Глянь навокал, і ты ўбачыш: паракуленыя лаўкі і сметніцы, паразбіваныя шыбы і скульптуры, зняважаныя крыжы і помнікі на могілках, закінутыя напаўразбураныя саборы... Гэта ўсё сляды агрэсіўнасці тых, з кім я (спадзяюся, і ты) не хачу быць роўны, не жадаю быць братам, не магу быць разам.

А як жа ж тады: «Усе людзі — роўныя!!!»? Ніяк. Не роўныя яны ні ростам, ні розумам, ні ўзростам. Бо, дзякуй Богу, нараджаемся мы ў розны час, кахаем і любім па-рознаму, дый паміраем не ў адзін тэрмін, не па плану, не па лінейцы. І не паставіш, каб і захацеў (а колькі было такіх, што хацелі і нават ставілі?!), знак роўнасці паміж школьнікам і пенсіянерам, паміж немаўляццю і старым, паміж мужчынам і жанчынаю... Бо ўсе мы розныя, а не роўныя.

Калі я вучыўся ў інстытуце, дык усіх маіх аднагрупоўцаў можна было падзяліць на тых, хто еў ягады на могілках, і тых, хто не еў. А ў школе — на тых, хто мог забіць ката, і тых, хто не мог.

Я дык не мог піць гарэлку з накрытых лустаю хлеба стограмовікаў, што стаялі пад крыжам, не мог есці сакавітыя маліны з капцоў, і ката не мог павесіць. Не мог не таму, што не хацеў ці баяўся аповедаў, быццам рукі адсохнуць праз тое ўчыненне, а не мог, бо мяне ванітавала, пэўна прырода была супраць. Дзякуй ёй.

Але, дзіва-дзіўнае, тыя, хто забіваў катоў і сабак, былі за герояў. Іх лічылі не горшымі, а лепшымі, вось што самае жахлівае, як на мой розум. Яны — мужныя, смелыя, спрытныя, рашучыя, моцныя... Астатнія — кволыя, баязлівыя, слабыя...

Ты абурыўся? Спадзяюся, што абурыўся. Давай глянем шырэй...

Хто герой? Герой — гэта той, хто крадзе, руйнуе, забівае...

Герой Самсон разадраў пашчу льву. Герой Давід забіў Галіяфа. Герой Геракл спачатку выпадкова забіў свойго настаўніка, потым льва, потым сваіх дзяцей, потым гідру і Сцімфалійскіх птушак... Ілля Мурамец забіў Салаўя-разбойніка. Пярун забіў Велеса. Але гэта міфы і казкі, скажаш. Правільна, казкі, толькі па іх вобразах і лепяцца рэальныя героі, якія забіваюць не пачвар-цмокаў трохгаловых, а людзей. І чым больш герой забіў, узарваў, зруйнаваў, тым больш у яго розных узнагарод, тым вышэйшы ў яго статус. Можаш папытацца ў старэйшых, яны бачылі генералісімуса. А чым больш узнагарод за подзвігі, чым больш ахвяр, чым вышэйшае званне, тым далей герой ад роўных, ад слабых, ад астатніх.

Разумею. Яны і мы, ворагі і сябры, вандалы і цывілізацыя, нашыя і ня-нашыя... І так да бясконцасці можна ўсё і ўсіх падзяліць на два, на дзве каманды, на два войскі, на два лагеры.

І вось цяпер, калі я пераканаў цябе, што людзі не роўныя, зраблю нечаканы паварот. Сам я за роўнасць, за ідэал роўнасці, якога няма ў рэальнасці, але да якога трэба імкнуцца. Шлях да роўнасці ідзе праз пераадоленне ўласнай агрэсіўнасці і геройства.

Роўнасць? Так, роўнасць!

Фота Цімура ГРЫБА






Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

**Крыніца**

**№ 11 1989**

**ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС ЦК ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года



Выдаецца на рускай і беларускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ём якіх не перавышае 25 старонак машынапісу праз два інтэрвалы. Рукапісы рэдакцыя па пошце аўтарам не вяртае.

**ПІШЫЦЕ: 220807**
**г. Мінск, ГСП**
**вул. Кісялёва, 11**
**ЗВАНІЦЕ: 36-60-71, 36-61-13, 36-61-42**

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 15.09.89.
Падпісана да друку 24.10.89.
АТ 13465.
Фармат 60×90 1/8.
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 5,5.
Ум. фарб.-адб. 16.
Ул.-выд. арк. 8,4.
Тыраж 55 770 экз.
Зак. 387. Цана 25 к.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 79

На 1-й стар. вокладкі слайд Рыгора ЛІЎШЫЦА

люстраная
зала



Фота Яўгена СКУРАТОВІЧА

## Я І ЛАЙФ

**Жадаю ўсім адчуваць сябе так, як адчуваю я, разгортваючы чарговы нумар «Крыніцы»!**

**Паколькі вы маеце ў сваёй рэдакцыі шмат адпаведных спецыялістаў, дык, напэўна, дапаможаце мне.**

**Бачыце, усё жыццё нашага грамадства ўяўляецца мне своеасаблівым тэатрам, напоўненым акцёрамі, якія іграюць ролі «стоячы па стойцы смірна, у душы танцуючы брэйк-дэнс». У гэтых ілюзіях, народжаных лішкам ежы, ілюзіях, якія жывуць сарака сярэбрэнікамі вядомай вам асобы, мая роля мяне не задавальняе. Так — «У гэтым свеце таго, што хацелася б нам — няма!»**

**Ну гэта бог з ім — тут вось якая справа. Мала таго, што яно (грамадства) прыгнятае мяне карцінамі свайго ладу жыцця — яно не пытаючыся скоўвае сваім «адным ланцугом». На белай паласе дарогі проста так не пасядзіш — прыходзіцца плаціць сабою тым, хто «з нагамі забярэцца» ў твае думкі і надзеі.**

**Роздум на гэты конт прыводзіць да ўсведамлення таго, што аддаваць прыйдзецца і неадменна. А я і не супраць, аднак перспектыва ўбачыць за спінаю жыцця «адзін вялікі кампраміс» мяне не задавальняе.**

**Я ненавіджу грамадства — усё, не для «камуністаў» ці «нацы». Пра карані гавараць — сутнасць выслізне. Дык вось: я яго не люблю, ягоныя мэты ў тумане напышлівых слоў недасягальныя (мне здаецца, іх няма). Я хачу жыць толькі сваімі законамі (не прыносіць зла бліжнім — адзін з іх), хачу сказаць нарэшце, што я не з вамі, што не такі, як ёсць пад сваёй маскаю. Мяне дзяўблі дзесяць гадоў у школе і думалі, выпускаючы,— гатовы, маўляў, чарговы «будаўнік светлае будучыні». Ды не — вашыя догмы задужа радыеактыўныя, а таму гэтым разам вырас мутант.**

**Увогуле, я настолькі пагарджаю людзьмі, што гатовы аддаць ім усё, што ў мяне ёсць. І ў мяне ёсць прыкладны варыянт выхаду: я б, напрыклад, сеў у самалёт камікадзэ, выбраў бы дах чацвёртага блока і г. д. (У той час, як прасіўся ў Афган, нашыя ўжо пачалі вылазіць адтуль.)**

**Я наймаюся да вас у зомбі. Памятаеце: «А в подвалах и полуподвалах ребятишкам хотелось под танки»! Танкаў няма, вакол — распуста, а «пад танкі» хочацца па-ранейшаму.**

**Ці не маглі б вы падказаць мне — як лепей развітацца з LIFE, каб прынесці грамадству максімум карысці! Смела бярыце, той самы «бясцэнны дар» і хоць унітаз сабе з яго зрабіце, а я насмяшу ўсіх, скокнуўшы ўніз галавою з высокага паверха.**

**Прывітанне!**
**ШЧАРБАКОЎ Трафім,**
**17 гадоў, аператар ЭВМ**

**P. S. З часам разбяруся, але хочацца пачуць голас з боку.**

**P. P. S. Цытаты: А, «ДДТ», «Наўцілус Пампілівус», «Цуда-Юда», «ДДТ», У. Высоцкі.**

*Дарагая рэдакцыя «Люстраной залы»!*
*Вось ужо год, як я камсамолка, а нічога не зрабіла. Калі ўступала, думала: «Стану камсамолкаю, жыццё іншае пачнецца». А стала, і нічога не змянілася. Вядома, гэта павінна залежыць ад мяне, але... Я даслала вам гэты аповяд пра маё паступленне і прашу яго надрукаваць, бо не хачу, каб іншыя паўтарылі маю памылку.*

**З павагаю БЕЙЛІНА Святлана,**
**15 гадоў. 8-ы клас**

## ЯК Я ЎСТУПАЛА Ў КАМСАМОЛ

Як толькі мне споўнілася 14 гадоў, я адразу вырашыла ўступіць у камсамол.

Па-першае — перабудова ў радах ВЛКСМ — значыцца, уступаць цяжэй і цікавей будзе, па-другое, каб «актыўна ўдзельнічаць у справах камсамольскай арганізацыі школы, раёна, горада і г. д.» Ну і... (па-дзесятае) калі ты камсамолец, значыцца, табе больш за 14 гадоў, а гэта тады для мяне сёе-тое значыла. Карацей кажучы, купіла я «Статут» і стала чакаць. Вось тыдні праз два прыйшла да нас у клас сакратар камсамольскай арганізацыі школы — праводзіць «прафілактычную размову са зменаю камсамола — старшымі піянерамі».

І незнарок спыталася, як нас у старшыя піянеры прымалі. Нас і не прымалі зусім. Проста першага верасня ССА (старшыня савета атрада) значкі раздаў — і ўсё. Мы так і сказалі. А яна стала нас дакараць, потым раптам заспяшалася і сказала, што трэба будзе прайсці тры камісіі, а каго цікавіць, каб зайшоў да яе ў піянерскі пакой,— і ўцякла.

Я, паколькі цікавілася, ведала ўмовы прыёму, пра якія зараз расказваць не буду, раскажу адно аб працэсе.

Першая камісія — савет дружыны. Я да яе зусім не рыхтавалася — мяне аб ёй папярэдзілі за ўрок да назначанага часу.

Пыталіся там строга — і пра гісторыю Усесаюзнай піянерскай арганізацыі, і пра піянерыю Беларусі. Адказаўшы роўна на палову пытанняў, я прыступіла да наступнага этапа ўступлення — камітэта школы.

Да яго я рыхтавалася больш руплíва — за дзень прачытала ўсе газеты, якія мы выпісваем дома і ўважліва прагледзела «Час».

Але на камітэце школы ў мяне зусім нечакана спыталіся, кім я хачу быць. Я не ведаю, якое гэта мае дачыненне да камсамола і наўздагад адказала — настаўніцай. Потым яны спыталіся, кім працуюць мае бацькі — я з яшчэ большым здзіўленнем адказала. Але я была проста збянтэжаная, калі, спытаўшы ў мяне, ці чытаю я газеты і паглядзеўшы на гадзіннік, мяне адпусцілі.

Цяпер я пачала рыхтавацца да апошняе камісіі — камітэта камсамола. Выдатна разумеючы, што гэта самае сур'ёзнае «выпрабаванне», адпаведна рыхтавалася.

З жахам чаканы дзень настаў. Мы — пяцёра — дрыготкімі рукамі гарталі «Статут» перад піянерскім пакоем і з імпэтам запэўнівалі адно аднаго ў немагчымасці свайго ўступлення.

Нарэшце сталі ўводзіць па адным. І кожны выходзіў камсамольцам!

Асабіста мяне вельмі лёгка і нязмушана прынялі: двое членаў камітэта разгадвалі красворд, двое іншых аб чымсьці перашэптваліся, мною ж займаўся толькі старшыня камітэта і таварыш з райкома камсамола.

Адказаўшы бязладна на пару пытанняў і павесяліўшы тым самым публіку, я стала камсамольцам.

Урэшце застаўся апошні этап — непасрэднае атрыманне значка і білета.

Гэтага этапа мы чакалі месяц, нарэшце нас выклікалі ў райком камсамола.

У цёмным калідоры ўздоўж паўбелых-паўзялёных сцен, са шматлікімі дзвярыма, стаялі маленькія канапы, на якія мы і прыселі.

У кабінет выклікалі па адным, але выходзілі адтуль усе абыякавыя і супакоеныя.

Калі я ўвайшла, то дрыжэла перад невядомасцю, але тое, што я ўбачыла, проста шакіравала мяне. У кабінеце былі чатыры чалавекі — адзін хлопец і тры дзяўчыны. Усе яны засяроджана жавалі замарожаныя клубніцы ў пакеціках.

Мяне пасадзілі, далі «чарнільную асадку» (як на пошце, драўляную такую), працягнулі журнал, у якім я павінна была распісацца, падклалі білет і забыліся на мяне.

З цяжкасцю распісаўшыся — я ніколі не пісала такімі прымітыўнымі пёрамі, я пакутліва задумалася: «Што рабіць далей?» А гаспадыні кабінета гучна смяяліся з дурных жартаў адзінага прадстаўніка процілеглага полу. Раззлаваўшыся, я з трэскам зашпіліла куртку, хочучы, каб на мяне звярнулі ўвагу, аднак у новым выбуху здаровага маладога смеху патанулі і гэтыя гукі. Тады я ўстала і выйшла — наўздагон мне крыкнулі, каб я паклікала наступнага.

Выканаўшы просьбу, я далучылася да маіх сяброў, якія сядзелі на канапе і чакалі, калі іх паклічуць уручаць самі значкі і білеты. Чакаць нам прыйшлося доўга — каля дзвюх гадзін. За гэты час мы ледзь не заснулі і ледзь не забыліся, навошта сюды прыйшлі.

Але, праверыўшы нашую цярплівасць, нас усё-такі праводзілі на другі паверх, дзе ў невялікім, але утульным кабінеце нас вельмі доўга віншаваў сакратар райкома камсамола, папярэдне ўручыўшы значкі і білеты.

Такім чынам, я стала камсамолкаю. Назаўтра пасля ўступлення мне даручылі суправаджаць дзяцей з інтэрната для разумова адсталых у экскурсіі па горадзе.

Гэта было першае і апошняе маё камсамольскае даручэнне. Вось ужо год, як я камсамолка, а нічога не зрабіла.

Вы зусім справядліва скажаце, што я вельмі пасіўная, што трэба прапаноўваць свае рашэнні пытання, быць ініцыятыўнай, але ў мяне няма фантазіі. Раней, яшчэ будучы піянеркаю, я шмат прапаноўвала, але мяне не слухалі і мая фантазія вычарпалася.

Таму заклінаю тых, хто яшчэ не ўступіў у камсамол: не спяшайце! Без думак, прапаноў, без праграмы, калі хочаце, не імкніцеся туды, а то ў вас гэтаксама ж, як у мяне, будзе пакутаваць сумленне.

## ЯМА ПАМЯЦІ

**Святы любяць усе. Асабліва тыя, што ўзаконеныя як выхадныя дні. І калі б быў Дзень работнікаў сельскай гаспадаркі выхадным, здаецца, даравалі б ім, хоць часткова, і пустыя прылаўкі, і 80% атруты ў прадуктах іх арганізаванае вытворчасці. Мала каго хвалюе прычына свята, галоўнае — адпачынак. Калі да звычайных суботы і нядзелі рыхтуемся пачынаючы з аўторка, то пытанне правядзення святочных дзён паўстае непараўнальна раней.**

**І ўсё ж ёсць дзень, які сапраўды становіцца днём смутку і радасці, днём шчырых віншаванняў людзей, паважаных намі, якіх, на вялікі жаль, усё меней і меней. Дзень Перамогі — свята асобае.**

**У гэты дзень сотні людзей у Мінску ідуць да аднаго сціплага помніка — святога помніка тысяч ахвяр майго народу. «Яма» — помнік трагедыі яўрэйскага народу, які жорстка вынішчалі ў гады мінулае вайны. Ніводны народ не ведаў такога генацыду, ніводны народ не вынішчаўся так жорстка, пад корань. Няма ніводнае яўрэйскае сям'і, якую б вайна не закранула крывавай паласою, не вырвала б з жыцця любімых людзей. «Яма» — гэта магіла, святая магіла. Сюды ніхто не ідзе арганізаванымі дэманстрацыямі — сюды ідуць сем'ямі, кампаніямі сяброў, вядуць дзяцей.**

**Яма. Незасыпаная магіла. Жыхары яе глядзяць нямым абеліскам, моўчкі, на ўвесь голас заклінаючы: «Няхай не паўторыцца такое!» Народы не павінны вынішчаць адзін аднаго. Мы жывём на адной планеце, мы людзі і не можам паддавацца звярыным інстынктам, душыць сабе падобных.**

**Нацыянальныя адносіны дасягнулі цяпер ватэрлініі і ўжо пераплюхваюць цераз борт нашага карабля. Тое, што гадамі душылася маўчаннем і жалезам, цяпер выплюхнулася ў нацыянальныя пабоішчы, таварыства «Памяць», нарастаючы паток эміграцыі.**

**Эканамічны крах прывёў да таго, што пэўная катэгорыя людзей займаецца не рашэннем праблем, а пошукам вінаватых. «Ва ўсім вінаватыя сіяністы». Такія лозунгі не новыя. Раней я пра іх мог толькі чытаць. Але сціхлы сабака зноў пачаў гаўкаць на месяц. Гісторыя пайшла на новы віток, падобны на папярэдні.**

**Вінаватых шукаць лёгка. Яны побач. «Яўрэі давялі Расію-маці да ручкі». Подлы лозунг узнік даўно і цяпер зазіхацеў новымі фарбамі. Ёсць лозунг, ёсць і людзі, гатовыя яго з імпэтам падтрымліваць. Яны накіроўваюць паток незадаволенасці ў пракладзенае рэчышча. Таму не выклікае здзіўлення паток эміграцыі, пашырэнне наменклатуры нацый, якія спяшаюцца пакінуць СССР.**

**Я не хачу вылучаць сваю нацыю з агульнага кола праблем. Гэтыя праблемы не вырашаюцца ні за год, ні за дваццаць гадоў. Тут патрэбныя дзесяцігоддзі ломкі чалавечае псіхалогіі. І такая ломка можа адбыцца толькі на агульным фоне экалагічных, палітычных і прававых рэформ. Толькі эканамічна вольны чалавек можа думаць аб'ектыўна. А пакуль...**

**А. ДЫННІК,**
**інжынер-канструктар,**
**23 гады**


люстраная
зала

# на краі бездані

**Народны дэпутат СССР, пісьменнік Алесь АДАМОВІЧ адказвае на пытанні намесніка галоўнага рэдактара «Крыніцы» Леаніда ЕКЕЛЯ**

— Як цяпер перад вачыма — трэцяя паласа газеты «Знамя юности». Кідкі загаловак «Читайте Адамовича!» Выдатныя здымкі і рубрыка: «Координаты души». За знешняй кідкасцю матэрыяла мастацтвазнаўцы Уладзіміра Бойкі — глыбокае даследаванне найтанчэйшых нюансаў творчае лабараторыі пісьменніка, ягонага светапогляду і пазіцыі. Роздум, трывогі і жывы боль нашага сучасніка, ад чаго ў большасці сваёй мы даўно адвыклі. А можа, і не ўмелі ніколі...

Падпісваючы той нумар у друк, я цудоўна разумеў, якая будзе для мяне заўтрашняя раніца. І не памыліўся: сектар друку ЦК КПБ спрацаваў, як будзільнік. «Дык да чаго гэтая газета заклікае моладзь? Чытаць Адамовіча?! А чаму не Леніна!» Як можна было адказаць на гэтыя недарэчныя пытанні? Зрэшты, там і не чакалі адказаў. Прыйшла ў рух камнедрабільная машына — ну, як жа: не ўзгадніў, праявіў самастойнасць і непаслухмянасць. А ў такіх выпадках адміністратыўны шал не ведаў мяжы. Пагрозы, абразы ў адрас рэдактара — справа звычайная. Але гаворка не пра тое.

Было зусім відавочна, Алесь Міхайлавіч, што над вашай галавою збіраюцца хмары з даволі злавеснай начынкаю... Усе, у каго сапраўды баліць душа за беларускую культуру, каму не абыякавае духоўнае багацце нацыі, цудоўна разумелі, што ваш тэрміновы ад'езд у Маскву — ганаровая ссылка. Але, відавочна, вашыя злоснікі не ўлічылі тае акалічнасці, што дальнабойная артылерыя часам больш эфектыўная за прамую наводку. І наіўна было б разлічваць адарваць вашыя карані ад рэспублікі, яе народу. Выступленні па тэлебачанні і ў друку (асабліва публікацыя ў «Огоньке», дзе вы ідэалагічную сітуацыю ў рэспубліцы вызначаеце адным ёмістым паняццем «Вандэя» і называеце прозвішчы чыноўнікаў ад ідэалогіі, вінаватых у гэтым. У затхлай, падвальнай атмасферы адкрытага нацкоўвання рабочага класса на інтэлігенцыю гэтая публікацыя была сапраўды глытком чыстага паветра. І хацелася параіць кожнаму, у каго балела душа ад пакутлівых пытанняў і неадпаведнасцей нашага часу: «Чытайце Адамовіча!»). Бліскучы судовы працэс над сталінізмам, нарэшце вашыя словы як народнага дэпутата краіны, якія прагучалі з трыбуны З'езда, з усёй відавочнасцю казалі пра тое, што боль рэспублікі — гэта ваш боль. Ён неаддзельны ад вас, як памяць. І, дальбог, ужо ад адной думкі, што ў наш прагматычны, разліковы век ёсць такія змагары за праўду і справядлівасць, лягчэй дыхалася...

Напраміла бог, Алесь Міхайлавіч, не зразумейце мае словы як нейкую празмерную пахвалу на ваш адрас — любы нармальны чалавек у рэспубліцы, які шчыра верыць вам, я думаю, прамовіў бы іх у шмат разоў болей. Ведаеце, дагэтуль балюча і сорамна за спробы абвінаваціць вас у абразе беларускага народу, у нейкім злосным падбухторванні і панікёрстве. У ход супраць вас была пушчана прымітыўная, як дубіна пячорнага чалавека, зброя. Хоць чаму тут дзівіцца: якія байцы — такая і іхняя зброя... І ўсё-такі, Алесь Міхайлавіч, чым выклікана такое непрыязнае, калі не сказаць, варожае стаўленне да вас з боку кіраўнічага апарату? Наколькі мне вядома, пасля чарнобыльскай трагедыі вы звярталіся з лістом да Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова...

— Але, гэта менавіта так. Аднак перш чым адказаць, трэба прадставіць сам ліст. Тады, мажліва, і каментарый не спатрэбіцца.

**ГЛЫБОКАПАВАЖАНЫ МІХАІЛ СЯРГЕЕВІЧ!**

**Калі ласка, не адносьце тое, што Вы тут прачытаеце, на рахунак пісьменніцкай фантазіі Алеся Адамовіча. Я пішу тое, што ведаюць і думаюць многія буйнейшыя вучоныя Беларусі і некаторыя партыйныя работнікі, у нас былі самыя гарачыя абмеркаванні гэтых праблем.**

**Не станем уздымаць гвалт «на ўсю Еўропу», але мы ўжо разумеем, што Беларусь перажывае нешта такое, што можна супаставіць адно з яе трагедыяй у гады мінулай вайны.**

**Пад пытаннем самое існаванне (фізічнае) дзесяцімільённага народу. Радыяцыя ўдарыла перш за ўсё па нашай рэспубліцы. Як пісала адна цэнтральная газета, не разумеючы, што піша: «На шчасце, вецер дзьмуў не на Кіеў». Сапраўды, у самыя грозныя дні, з 26 па 30 красавіка (а потым яшчэ шмат дзён), вецер цягнуў радыеактыўныя ападкі на Гомель, Магілёў, Жлобін, Мазыр, Слаўгарад, Краснаполле, Рэчыцу, Хойнікі, Нароўлю, Брагін, Пінск, Слуцк, Брэст... Дасталося і Мінску. А паміж гэтымі гарадамі тысячы вёсак. Колькі людзей атрымалі розныя дозы радыяцыі і праз колькі дзён ці гадоў гэта паўплывае на кожнага, сказаць цяжка. Але калі мець на ўвазе, што БОЛЬШАЯ ПАЛОВА РЭСПУБЛІКІ была засыпана ёю (Гомельская, Брэсцкая вобласці і часткі Магілёўскай і Мінскай),— гаворка пойдзе пра лічбы найцяжэйшыя[1].**

**Але не пра гэта ўжо гаворка. Добра, што здарылася, тое здарылася, што здолелі, змаглі, а да чаго апынуліся не гатовымі (да вельмі многага) — таксама позна размахваць рукамі.**

**У рэспубліцы робіцца многае, каб лакалізаваць і перамагчы бяду ў беларускіх раёнах, якія непасрэдна мяжуюць з Чарнобылем, кіраўніцтва, людзі дзейнічаюць самаахвярна, вучацца на хаду.**

**Але не ўсё падуладна кіраўніцтву нашае рэспублікі.**

**За спінаю выспявае новая небяспека, можа, яшчэ больш грозная. Калі не будуць неадкладна прыняты меры, не будзе зроблена ў найкарацейшыя тэрміны тое, што абсалютна неабходна (на думку вучоных), яшчэ мільёны людзей на Беларусі будуць пакутаваць (а многія загінуць), і тады можна будзе сказаць, што здарылася трагедыя — страшнейшая за тую, якую наш народ перажыў у 1941—44 гг.**

**Усім гэтым людзям (у межах Беларусі і ў сумежных раёнах іншых рэспублік), таксама, як, відавочна, і на Украіне, цяпер пагражае РАДЫЯЦЫЙНАЕ АТРУЧВАННЕ ПРАЗ ПРАДУКТЫ ХАРЧАВАННЯ.**

**І кіраўніцтва рэспублікі, і вучоныя нашы могуць з гэтым справіцца, калі атрымаюць дапамогу і падтрымку. У НАС ФАКТЫЧНА НЯМА ПАТРЭБНАЕ КОЛЬКАСЦІ ПРЫБОРАЎ ДЛЯ ЗАМЕРУ РАДЫЯЦЫІ Ў ПРАДУКТАХ ХАРЧАВАННЯ. Старыя прыборы непрыдатныя, яны разлічаны на жорсткае выпраменьванне (на выпадак выбуху ядзернае бомбы), а тут патрэбныя прыборы, якія ўлоўліваюць мяккае выпраменьванне. Тэрмінова патрабуецца арганізаваць вытворчасць прыбораў КРВП-3 АБ. Беларусь, як лічаць спецыялісты, мае патрэбу на пачатку хаця б у 500 штуках.**

**Апрача таго, патрэбныя хоць бы 50 заходнегерманскіх ДL—MeSSeR—6150, для вымярэння альфа, бэта, гама-актыўнасці, каб дакладна вызначыць раёны і плошчы паражэння па ўсёй рэспубліцы. (Асабліва цяжкімі элементамі: стронцыем, плутоніем, уранам і г. д. і г. д.)**

**Патрэбныя, апрача таго, «Лічыльнікі імпульсаў чалавека» для абследавання тысяч і тысяч пацярпеўшых. Гэта мінімум неабходнага, а сёе-тое і яшчэ спатрэбіцца.**

**Без гэтых прыбораў Беларусь (і па-сапраўднаму, не адна нашая рэспубліка) застанецца фактычна безабаронная перад пагрозаю ўсё больш шырокага заражэння радыяцыяй праз прадукты харчавання. Лакалізаваць яго не ўдасца.**

**Апрача таго, патрэбная дапамога спецыялістамі па гэтай тэхніцы і дактарамі-спецыялістамі. Неабходнае прамое падключэнне да гэтае работы на Беларусі і на Украіне АН СССР і Акадэміі медыцынскіх навук СССР, стварэнне на мяжы пацярпеўшых рэспублік цэнтра па назіранні, вывучэнні доўгатэрміновых вынікаў радыяцыі і лячэнні хворых.**

**І яшчэ адна рэч, нібыта прыватная, але ва ўмовах паражэння радыяцыяй рэспублік яна мае першараднае значэнне. Пазбегчы бяды ад асабліва небяспечнага ў нашых умовах прадукта — малака — можна, калі кароў перавесці на стойлавае ўтрыманне. А для гэтага Беларусі і Украіне патрэбныя камбікармы, вядома, у колькасцях, якія раней ніколі не прадугледжваліся.**

**Патрэбна спецыялізаваная арганізацыя, «штаб», людзі, якія толькі гэтым і займаліся б — прадуктамі харчавання. Ад якіх можна было б патрабаваць канкрэтнага плёну працы, але ў якіх былі б усе правы і паўнамоцтвы патрабаваць самім, дазваляць, забараняць.**

**І вывозіць, вывозіць дзяцей, падлеткаў, цяжарных жанчын і ўвогуле ўсіх, каго можна. Шырока і за межы рэспублікі і не на месяц-два, а пакуль не нармалізуецца сітуацыя. Самая прыкметная чыноўная інертнасць і ўпушчэнні — тут. Радыяцыя імгненная, чыноўнік марудны, аглядлівы — такая ўжо ў іх прырода. Дый то сказаць: ЗАЛІШНЕ МАЛАЯ, ЯК ВЫЯВІЛАСЯ, НАШАЯ РЭСПУБЛІКА ДЛЯ ТАКОЙ вялікай бяды, сваіх «чыстых» раёнаў для эвакуацыі яўна не хапае. Ну, а тыя, хто нашых дзяцей прымаюць, таксама не заўсёды могуць пахваліцца спрытнасцю (за межамі рэспублікі). Час ужо усвядоміць усім, што кожны прамаруджаны дзень, кожная прамаруджаная гадзіна — недаравальны грэх перад будучым народу. Ніякія нашыя апраўданні і тлумачэнні хворыя нашчадкі не даруюць. І неапраўданых ахвяр мы самі сабе не даруем.**

**Зараз заадно ўжо: пра манаполію на ісціну ў навуцы, якая прынесла нам нямала бедаў раней (біялогія, меліярацыя), а цяпер прывяла да чарнобыльскай трагедыі. Былі ж, былі вучоныя-фізікі (акадэмік П. Л. Капіца і інш.), якія папярэджвалі, як небяспечна будаваць АЭС у густанаселеных раёнах. І яшчэ адно — ля вялікіх рэк, якія забяспечваюць вадою гарады. Але каб на Палессі, дзе вузел усяго нашага еўрапейскага водазабеспячэння, адкуль п'е ваду ўся Украіна, каб тут пяць блокаў АЭС — гэта ж трэба было прыдумаць і рашыцца!**

**І як часта ў нас бывае, апанентам не далі ні магчымасці кантраляваць практыку «пераможцаў-вучоных», ні апаніраваць у друку. Каб было інакш, яны маглі б перашкодзіць усім парушэнням нормаў правілаў, «спрашчэнням» і «патанненням», якія цяпер выявіліся і вунь да чаго прывялі.**

**Дарагі Міхаіл Сяргеевіч, гэта не проста станцыя ўзарвалася, але і ўвесь той комплекс безадказнасці, недысцыплінаванасці, бюракратызму, з якім Вы пачалі разам з партыяй і народам весці барацьбу. Гэта гісторыя: як і чаму здарылася, наколькі гатовыя (не гатовыя) былі і чыноўнікі, і многія ваенныя, а асабліва так званая «грамадзянская абарона» (не выпадкова ў народзе: «Паўтарылася 22 чэрвеня 1941 года!») — усё, усё патрабуе прынароднага высвятлення. І перш за ўсё — абгрунтаванасць наладжанай практыкі будаўніцтва АЭС.**

**Вось і за 30 км ад сталіцы Беларусі будуем свой Чарнобыль *. Не цяжка ўявіць, што пра гэтую будоўлю кажуць і думаюць сёння беларусы.**

**Краіна, народ не змогуць вытрымаць яшчэ нечага падобнага да Чарнобыля, таго, што сёння абвалілася на мільёны людзей. Трэба было б падумаць пра гэта энтузіястам з упраўлення ядзернай энергетыкай, якія разважаюць па тэлебачанні і ў прэсе пра тое, што ўсё будзе, як было, бо ўсё выдатна. Не пра тое гаворка, быць ці не быць атамнай энергетыцы (гэта адыход ад сутнасці спрэчкі), а як і дзе павінна будавацца і размяшчацца АЭС. Трэба было б даць зноў голас вучоным, здольным меркаваць аб рэчах з большым пачуццём адказнасці за фінальныя вынікі сваіх ідэй і прапаноў, рэкамендацый.**

**Даруйце, але Беларусь сапраўды на краі бездані! Патрэбна неадкладная дапамога народу, які сам заўсёды ахвяраваў у цяжкія для краіны гады. Беларусы рэдка плачуцца. Вы гэта маглі заўважыць і па цяперашніх паводзінах нашых людзей і кіраўнікоў. Але тут пытанне стаіць неадкладнае, жыццё незлічонае колькасці людзей залежыць ад таго, ці арганізуем мы дзейсны, прадуманы, а не проста фармальны кантроль за прадуктамі харчавання, ці забяспечым мы службу сучаснай апаратураю, падрыхтаваўшы неабходную колькасць спецыялістаў.**

**Як шмат залежыць ад рэчаў па-сутнасці нямногіх. Толькі б не ўпусціць час!**

**А. М. АДАМОВІЧ,**
**член-карэспандэнт АН БССР,**
**член Камітэта савецкіх вучоных у абарону міру і супраць ядзернай пагрозы,**
**пісьменнік.**

1 чэрвеня 1986 г.

— Вы маеце рацыю, Алесь Міхайлавіч, каментарыі тут непатрэбныя. Але тады з новай сілаю ўзнікае пытанне, якое, я думаю, не дае спакою мільёнам жыхароў рэспублікі: як жа так здарылася і хто ў гэтым вінаваты, што на велізарнай тэрыторыі Беларусі (апрача трох раёнаў) людзі і не чулі пра няшчасце, што абвалілася на іх? Чаму злачыннае маўчанне доўжылася тры гады?

— Цяжкія пытанні, але я паспрабую на іх адказаць. Здавалася б, рэакцыя на мой ліст была самая зычлівая. З чэрвеня Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў атрымаў ліст, а назаўтра зачытаў яго на Палітбюро, дзе прысутнічалі і кіраўнікі рэспублікі. А яшчэ праз два дні я вяртаўся ў Мінск у адным вагоне з прадстаўнічай камісіяй (натуральна, зусім выпадкова, дый даведаўся я пра гэта праз пэўны час). Так што рэакцыя была неадкладная, але здарылася нешта дзіўнае. Гэтую прадстаўнічую камісію ледзь не з вакзала гатовыя былі завярнуць назад. Яе ўсё-такі прынялі, але ўся размова звялася да таго, што аўтар ліста — чалавек несур'ёзны, некампетэнтны і ўвогуле — пісьменнік, у якога, як вядома, рэальнасць цесна пераплятаецца з вымыслам. Дык ці ж варта надаваць гэтаму значэнне? І гэта замест таго, каб паказаць увесь маштаб бяды і прасіць, прасіць неадкладнае дапамогі, як просяць добрыя людзі.

Калі мець на ўвазе, хто ўваходзіў у склад камісіі — старшыня Дзяржгідрамета, адказныя работнікі з міністэрства прыборабудаўніцтва і шэраг іншых наменклатурных работнікаў,— то, можна меркаваць, гэтую версію яны прынялі ахвотна і з адабрэннем. Яны ж самі — рычагі гэтае адпрацаванае адміністратыўна-бюракратычнае машыны.

Але атрымалася, аднак, не зусім гладка: на гутарцы прысутнічалі беларускія вучоныя Барысевіч М. А., Несцярэнка В. Б., якія не маглі пайсці супраць сумлення і выдаць жаданае кіраўніцтву рэспублікі за сапраўднае. Яны якраз і пацвердзілі факты, выкладзеныя ў маім лісце: ахвярамі радыяцыі сталі не тры раёны, як інфармавалі Маскву, і не толькі Гомельская вобласць. І мы зусім безабаронныя перад радыяцыяй — няма прыбораў...

Якія ж вынікі ўсяе гэтае гісторыі? Не стану сцвярджаць, што яны нулявыя. Нейкія ж прыборы з'явіліся, нешта робіцца і за межамі Брагінскага, Нараўлянскага, Хойніцкага раёнаў. Аднак сітуацыя на Беларусі лічылася больш-менш нармальнай. А чуткі і панікёрства — гэта, маўляў, ад некаторых вучоных і пісьменнікаў.

Быў у гэтай невясёлай гісторыі і вельмі канкрэтны вынік — усе, хто даваў інтэрв'ю для ліста, былі звольнены.

— І, ведама ж, Алесь Міхайлавіч, доўга не чакаючы разлічыліся і з вамі?

— Натуральна. Мяне выжылі з Беларусі... Тут я, бадай, перайду да некаторых абагульненняў. Я не стану абвінавачваць канкрэтных асоб, якія маюць непасрэднае дачыненне да вынікаў чарнобыльскай трагедыі. Часам з дужа блізкае адлегласці прыходзіцца мне назіраць за тымі, хто знаходзіцца на самай вяршыні адміністратыўна-бюракратычнае піраміды. На маю думку, іх асабістыя якасці не іграюць асобае ролі. Не ў іх сутнасць...

Я нават задумаў такую аповесць. Ахнула яшчэ некалькі Чарнобыляў, але нашая адміністратыўна-бюракратычная сістэма дзейнічае, як заўсёды. Як дзейнічала і з першым Чарнобылем. Паступова выміраюць людзі, а інфармацыя, як у краі-

[1] Намеснік дырэктара Інстытута імя Курчатава Л. П. Феактыстаў такую трагедыю прадказваў у маі 1983 г. на канферэнцыі савецкіх вучоных: «Як паказваюць больш дакладныя ацэнкі, па сукупнасці прычын радыеактыўнае заражэнне, выкліканае поўным разбурэннем аднае АЭС, можна супаставіць з радыеактыўнымі вынікамі прыземнага тэрмаядзернага выбуху ў 1 мгт у перыяд да 1 месяца...» (Адна мегатона, як вядома, гэта 50 Хірасім). «Непрыдатная для пражывання робіцца тэрыторыя, якая мяжуе з АЭС (у накірунку ветру), плошчаю ў дзесяткі тысяч квадратных кіламетраў».

Мы, Беларусь, апынуліся «ў накірунку ветру».

* Будаўніцтва АЭС пад Мінскам спынена. (Заўв. рэд.)

не, так і на ўвесь свет ідзе такая, што ў нас стала нават лепей, чым было да катастрофы. Усё функцыяніруе як раней, а людзей становіцца ўсё меней і меней. І хоць краіны, па-сутнасці, ужо няма, праціўнік па-ранейшаму лічыць нас самым небяспечным ворагам. У адзін з крызісных момантаў ён не вытрымлівае і наносіць ядзерны ўдар па краіне, якая не існуе, але дзе, аднак, бюракратычная сістэма так містыфікуе свет, што ніхто гэтага не заўважыў. Як, зрэшты, у свой час не заўважалі мільёнаў савецкіх людзей, якія сядзелі ў лагерах. І вось з-за няіснага ворага гіне ад радыяцыі і сам агрэсар. І ўвесь свет.

Назіраючы за дзеяннямі нашае бюракратычнае машыны ў сувязі з чарнобыльскай аварыяй, міжволі думаеш, што няма такога абсурду, які не можа стаць рэальнасцю. Мне адзін вялікі дзеяч, з якім я гутарыў пра сітуацыю на Беларусі, некалькі гадзін запар даводзіў, што ўсё ў нас робіцца правільна і добра. З захапленнем расказваў (Шчадрын гэта называў адміністратыўным захапленнем), як на гутарцы ў Рыжкова старшыня Савета Міністраў Украіны Ляшко паўтары гадзіны плакаў у камізэльку і прасіў дапамогі, а наш прадстаўнік адрапартаваў за 10 хвілін. І тады яго паляпалі па плячы і сказалі: «Вучыцеся, украінцы, у беларусаў». А я, слухаючы і назіраючы гэтае захапленне, з болем падумаў: «Дзеля вось такога паляпвання па плячы яны гатовыя спісаць хоць цэлы народ». Вось тады, бадай, і ўзнікала ў мяне ідэя тае аповесці.

— А такія ж «аб'ектывісты», Алесь Міхайлавіч, не выключэнне і ў вышэйшых эшалонах улады, куды яны трапілі за буйныя дасягненні ў сваіх рэспубліках і краях. У свой час яны актыўна тварылі застой, а цяпер, выходзіць, гэтаксама ж актыўна яго пераадольваюць? Нешта не надта верыцца ў такія цудадзейныя пераўтварэнні. Адміністратыўна-бюракратычныя метады кіраўніцтва жылі і жывуць у кожнай клетцы іхняга арганізму. Каб гэта было іначай, дык адкуль мог узнікнуць застой?

— Дык вось, каб у 85-ым годзе не пачалася спроба ломкі гэтае бюракратычнае сістэмы, то мы і сёння б ніякае інфармацыі пра Чарнобыль не мелі. Як дзесяткі гадоў не мелі ніякіх даных аб катастрофе пад Чалябінскам. І тое, што зроблена і робіцца для пацярпеўшых, што нарэшце загаварылі ўголас пра трагедыю на Беларусі, тлумачыцца не зменаю дрэнных кіраўнікоў на добрых. Стала даваць трэшчыны маналітная сістэма бюракратыі. І толькі зламаўшы яе канчаткова, можна спадзявацца на ўратаванне.









# Два імгненні мінулага лета

Мікола ГАЕЎСКІ

Журналісцкія нататнікі становяцца архаізмам. І праўда, ці варта губляць час на расшыфроўку таропка напісаных крамзоляў, калі можна дастаць касету, паставіць яе ў «Панасонік» і вярнуць «страчаны час»?

Можа, хутка ўвогуле не застанецца нататнікаў...

Мне, вядома, будзе шкада.

Бо прызвычаіўся ўсё цікавае дый проста хоць трохі значнае занатоўваць, а потым у вольны час ламаць галаву над тым, што напісаў дзе-небудзь у дрогкім аўтобусе ці купэ цягніка. Жудасна цікава бывае пакорпацца ў старым нататніку!

Праўда, вось гэтыя гісторыі, яны з новага, пазначанага чэрвенем і ліпенем гэтага года.

**Гісторыя першая:**
**«Квадратура круга».**

У самым пачатку лета мне патэлефанаваў знаёмы оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку.

— Мы вось неяк паспрачаліся з табою, што да Мінска не дакоціцца мода на рэкет і ўсё такое іншае. Памятаеш?

Я памятаў. Сапраўды, мне здавалася, што наўрад ці ў нас могуць з'явіцца «свае» ўзброеныя банды і ўсё з гэтым звязанае. Прафесіянал-вышукнік, пасмейваючыся, сказаў тады, што ў Мінск з Масквы ходзяць цягнікі, а значыцца, чакай тых самых працэсаў, якія захліснулі белакаменную. Тым больш, што сякія-такія даныя ў крымінальнага вышуку ўжо ёсць. Ён намякнуў на «злодзеяў у законе», на «кучкаванне» былых спартсменаў, а цяпер абібокаў, якія жадаюць далучыцца да прыгожага жыцця выключна за кошт сваіх моцных кулакоў. Так што падмурак для так званае арганізаванае злачыннасці ёсць. Можа, тады не ўсё мог сказаць оперупаўнаважаны, але мяне ён не пераканаў. Спрачаліся мы досыць горача, а засталіся кожны пры сваёй думцы.

І вось цяпер гэты званок.

— Ну дык вось,— сказаў старшы лейтэнант,— учора была перастрэлка. Паводле некаторых даных, дзве групы дзялілі ўладу. Карацей, дажылі да сваёй мафіі. Прыязджай, пагаворым. Эх ты, ідэаліст!

Я прыехаў у ягоны невялікі кабінет, дзе апрача партрэта Дзяржынскага і велізарнага сейфа нішто не прыцягвала ўвагі. Оперупаўнаважаны ззяў, як начышчаны да калядаў самавар.

— Узялі галубка. Зараз следчы «калоць» будзе.

Прафесійны слэнг майго прыяцеля ўжо даўно мяне не шакіраваў, бо за гэтым наносным я бачыў галоўнае — уменне працаваць суткамі, гатоўнасць лезці пад кулі і — самае дзіўнае — поўную адсутнасць паталагічнае злосці, што сустракаецца калі-нікалі ў прафесійных змагароў са злачыннасцю. Мікалай бываў раз'ятраны, але злы — ніколі.

Праз гадзіну мы гаварылі са следчым.

Вось якая вымалёўвалася карціна. У горадзе з'явіўся новы прэтэндэнт на званне «караля». Асноўная частка грамадзян, якая шануе закон, не падазравала пра «дынастычныя» прэтэнзіі, але ў колах, блізкіх да крымінагенных, вельмі жыва абмяркоўваўся «беспредел». Трэба, напэўна, растлумачыць, што пад гэтым словам крымінальная публіка разумее парушэнне «законаў» і «паняццяў», інакш кажучы, краевугольных камянёў, на якіх грунтуецца злачынная іерархія. «Беспределом» заняўся былы прызёр рэспублікі па боксе і барацьбе дзюдо, цяпер беспрацоўны Казлоў. Вось што ён прад'явіў крымінальнай публіцы ў якасці аргумента на каралеўскі тытул.

З гуртам такіх самых накачаных хлопцаў Казлоў прыйшоў у кафэ-більярдную, што ў гасцініцы «Беларусь», дзе зазвычай бавілі час «сінія» — працей кажучы, аб'яднаныя «паняццямі» крымінальнікі. На Казлова і ягоных бэйбусаў яны скасавурыліся, але занепакоенасці не выказалі. Чаго-чаго, а вытрымкі «сінім» хапае. Суровая школа лагераў навучыла іх спакойна сустракаць усялякія нечаканасці. Казлоў папрасіў спыніць гульню і звярнуўся да аднаго з важакоў «сініх», бамбізы па мянушцы Труна.

— Хадзем пакачаем правы!

Крымінальнікі загудзелі:

— У цябе што, кент, дах паехаў? Мы цябе ўходаем.

Нехта дастаў нож, а хтосьці сунуў руку ў кішэню, што азначала відавочна — у кішэні «валына», пісталет. «Напругу» аслабіў сам Труна:

— Добра,— сказаў ён сваім,— гэты воўк даўно хоча з намі пабазарыць. Я гатовы.

Сяржант, які дзяжурыў ля пад'езду, потым дапоўніў карціну. Толькі яны выйшлі, як Казлоў няўлоўным ударам збіў з ног Труну, ды так, што той прабіў галавою дзверцы таксоўкі, што стаяла непадалёк.

Так Казлоў заявіў усёмагутным «сінім» пра сваё права на годнасць «караля».

«Злодзеі ў законе» былі ў разгубленасці. Звычайна такі «беспредел» караўся неадкладна і бязлітасна. Аднак без дбайна спланаванае аперацыі змагацца з трэніраванымі спартсменамі яны не рашыліся.

У злачынным свеце горада склалася двоеўладдзе. Кааператары, прастытуткі і падпольныя гандляры «дур'ю» — анашою — плацілі даніну і «сінім», і ваярам Казлова. Такое становішча не магло быць вечнае, даннікі сталі падымаць голас і намякаць на магчымы зварот у міліцыю.

Атмасфера, аднак, разрадзілася сама па сабе.

Паверыўшы ў сілу сваіх кулакоў, Казлоў прыбыў у інтурыстаўскі рэстаран і ўбачыў, што ў някідка адзетага сярэдніх гадоў грамадзяніна з нагруднае кішэні тырчыць тоўсты пачак грошай.

— Хадзем спусцімся, справа ёсць,— сказаў Казлоў гэтаму чалавеку, а прама пад лесвіцай торкнуў яму ў бок ствол пісталета — давай грошы.

На яго здзіўленне, чалавек вельмі спакойна адрэагаваў:

— Адказваеш?

Калі б Казлоў быў больш «адукаваны», ён бы здагадаўся, што перад ім высокапастаўленая ў крымінальным асяроддзі персона. Адны татуіроўкі на ўказальным пальцы пра ўсё казалі: стрэлка да пазногця і некалькі кропак. Але Казлоў быў звычайны нахаба-«беспредельщик» і не здагадаўся, што перад ім самы сапраўдны «злодзей у законе», які заслужыў гэты высокі сан не абы дзе, а ў «крытцы», у турме. Казлоў забраў грошы і з лёгкаю душою паехаў.

З гэтае хвіліны ён стаў нябожчыкам. Бо няма нічога страшнейшага, чым «паставіць» «злодзея ў законе». На першай жа перасылцы, у першай жа зоне яго мусяць люта пакараць.

Тым самым вечарам доўгія рукі крымінальнае мафіі паспрабавалі дацягнуцца да Казлова. Пранесла. Ён паспеў выскачыць з аўтамабіля і адстраляцца. Але гэта была толькі прэлюдыя. Таму калі Казлова спачатку выклікалі ў следчы аддзел, а потым запраторылі ў адзіночную камеру, ён палічыў гэта за шчасце.

Але ўперадзе суд, этапы, зона. Што можа чакаць там Казлова, які замахнуўся на ўладу злодзеяў? Не ведаю.

А цяпер я чытаю запісы з нататніка. «Мафія», «сінія», спартсмены, «валыны»... Скажыце, калі ласка, што мы яшчэ год назад ведалі пра ўсё гэта, супакоеныя размовамі пра немагчымасць з'яўлення ў нас арганізаванае злачыннасці? Выяўляецца, яна ёсць і жыве паводле тых самых трох класічных законаў, што і высмеяная «Коза ностра». Тыя ж тайныя сувязі, культ сілы, гатоўнасць «замазаць» хабарам чалавека на пасадзе. Пра генезіс гэтага неверагодна небяспечнага сацыяльнага зла можна разважаць доўга. Я ж бачу, што адна з прычын — у нашым паталагічным імкненні кідацца з аднае крайнасці ў другую. Яшчэ тры гады назад часта выносілі прысуд аб пазбаўленні волі толькі за «дробнае хуліганства», што часцей за ўсё было банальнай п'янай лаянкаю. Агідна, вядома, аднак ці трэба было пазбаўляць за гэта чалавека волі? Пазбаўлялі. Пракуроры падпісвалі санкцыі на арышт па першым званку следчага, а тыя бачылі панацэю толькі ў адным — як мага хутчэй

узяць падазронага «пад штык». Турмы, калоніі і розныя «спецкамендатуры» былі забітыя дарэшты. І раптам задзьмулі іншыя вятры. Асуджаных пачалі вызваляць, а пракуроры адмаўляліся даваць санкцыю нават у тым выпадку, калі неабходнасць узяць «пад ахову» была відавочная. Судовыя працэсы ўсё часцей заканчваліся традыцыйным рашэннем «вярнуць справу на дадследаванне». Практычна гэта абазначала яе спыненне. Самы мацёры злачынца мог сказаць у судзе: «Следства прымусіла мяне ўзяць віну на сябе». І гэта азначала, што ён можа быць спакойны за будучыню. Справа даходзіла да парадоксаў — следчыя адмаўляліся расследаваць злачынствы, патрабуючы ад оперработнікаў такіх доказаў, што тыя махалі рукою і пісалі рапарты на звальненне.

Вось такія за апошнія тры гады назіраліся крайнасці.

Перш за ўсё яны прывялі да актывізацыі злачыннага элементу і рэзка павялічылі колькасць небяспечных правапарушэнняў. А ці ж магло быць інакш, калі, скажам, у Бабруйску сёння гуляе на волі некалькі сотняў асоб, прызнаных раней асоба небяспечнымі рэцыдывістамі? Раней дзесятак такіх суб'ектаў прыкоўваў увагу ўсяго асабістага саставу міліцыі, а цяпер іх — сотні. Усачыць, ведама ж, немагчыма. Само сабою, як грыбы пасля дажджу, разрасліся прытоны, «блатхаты» і ўсё спадарожнае арганізаванай злачыннасці.

Безумоўна, крайнасці небяспечныя, але наданне большае цвёрдасці следча-судовай практыцы проста неабходнае. Інакш страчваецца галоўнае — непазбежнасць пакарання. Гэта вядзе адно да «выкіду» цяжкіх злачынстваў супраць асобы.

Гляджу нататнік. Разважаю. На жаль, трэба прызнаць, што кааператыўная дзейнасць стала каталізатарам такога небяспечнага злачынства, як вымаганне. Пра гэта ўжо багата напісана. Я адно думаю пра лёс Казлова і яму падобных валанцёраў рэкету. Пагоня за рэкордамі, адмаўленне маральнага пачатку ў спорце, інкубатарныя метады падрыхтоўкі майстроў — усё гэта прывяло да таго, што ў нас з'явілася шмат фізічна моцных, але бездухоўных спартсменаў. Прычым на ўсіх паверхах. Калі нават такія зоркі, як хакеіст Магільны, дзеля грошай уцякаюць з краіны, што ўжо казаць пра іншых? Сёння былыя спартсмены, не прывучаныя да працы, гатовыя здабываць грошы адзіна вядомым ім спосабам — кулакамі. Хіба можна было пускаць на самацёк такія з'явы, як падпольнае навучанне каратэ, беспрытульныя «качалкі»? Адтуль пачалі рэкрутавацца мускулістыя кадры для аховы багатых кааператыўшчыкаў, для барацьбы за сферы ўплыву, для «выбівання» грошай. Ці думалі пра гэта трэнеры, «ставячы ўдар» хлопцу, у якога ўвесь свет у акенцы — «фірмовыя шмоткі» і «тачка». Наўрад ці.

Сёння мы п'ём горкі кубак нашага патурання і няўмення задумацца над новымі працэсамі. Дай, як кажуць, бог, каб усё гэта засталося хоць бы на тым узроўні, які існуе сёння. Калі міліцыя і КДБ сумесна возьмуцца за мафію, то зусім хутка гарадскія «каралі» адчуюць моц дзяржавы. Калі ж мы і далей будзем адно дзівіцца дзёрзкасці «сініх» і «спартсменаў», дык можна быць упэўненым, што яны неадменна пяройдуць ад шантажу кааператываў да палітычнае дзейнасці. Яны арганізаваныя, дасціпныя, узброеныя. І зусім не хочуць апынуцца за кратамі. «Беспредел» у любым маштабе — ім ратаванне. Знаходжу ў сваім нататніку запісы. «Масавыя беспарадкі ў Мінскай выпраўленча-працоўнай калоніі», бунт у Віцебскай працоўна-выхаваўчай калоніі...» Крымінальныя шабашы за калючым дротам — толькі размінка і сігнал на волю. Дарэчы, удумлівыя прафесіяналы знаходзяць прамую сувязь паміж ферганскімі падзеямі і «сходкамі» «злодзеяў у законе», якія праходзілі ў Фергане. Так што наўрад ці варта і далей праводзіць страусаву палітыку ў дачыненні да ўсё больш моцнай і развітай арганізаванай злачыннасці.

**Запіс другі:**
**«НЕПРЫКАЯНАСЦЬ».**

Ён тры дні чакаў, што бацька вернецца. Але маці адказвала аднолькава: «Тата паехаў у камандзіроўку. Вернецца нехутка. Думай, Міша, пра што-небудзь іншае. Уключы тэлевізар». Ён сунуўся да тэлевізара, а маці ішла ў суседні пакой, і ён чуў, як яна плача. А на трэці дзень ён выпадкова ўбачыў, як бацька зайшоў у суседні дом. Ён прасачыў. Потым ён не раз бачыў бацьку з іншай жанчынаю, і больш ні пра што ўжо ў маці ні пытаўся. Тады ён і рашыўся. Змайстраваў з тоўстага дроту круг, прымацаваў яго да вуды і дакрануўся да правадоў, якія вялі да дому, дзе цяпер пасяліўся бацька. З кустоў ён назіраў, як выбеглі людзі, замітусіліся, правады, спаленыя штучнай вольтавай дугою, валяліся на траве. Іх са страхам пераступаў, адсвечваючы сябе ліхтарыкам, бацька, ягоная новая жонка і яшчэ нейкія людзі. Ён ляжаў побач і ціха плакаў. Не, не так ён хацеў адпомсціць. Ён хацеў, каб згарэў дом разам з гэтай ненавіснай жанчынаю, якая адняла ад яго бацьку...

У пракуратуры, дзе я ўбачыў гэтую худзенькую папку з «адмоваю ўзбудзіць крымінальную справу па факце смерці непаўналетняга Міхаіла Казіміравіча Бялінскага», маёй цікавасці здзівіліся. З пункту погляду крыміналістаў, там не было нічога экстраардынарнага. Падлетак сам наклаў на сябе рукі. Усё гэта здарылася на фоне сямейна-пабытовай неўладкаванасці, разводу бацькоў. Шчыра кажучы, я таксама не шукаў у гэтай гісторыі нейкай дэтэктыўнае тайны. Але адна акалічнасць прымусіла задумацца. Самазабойства падлеткаў сёння становіцца тэндэнцыяй, якая мае «схільнасць» да росту. Прычын тут багата. Атручванне медыкаментамі Аксаны Б. выклікана, хутчэй за ўсё, прыродным нервовым захворваннем, што знаходзіцца ў прамой залежнасці з выпівакамі-бацькамі. Дзяўчынка адставала ў разумовым развіцці, дактары канстатавалі алігафрэнію. Вынік, як гэта ні сумна, можна лічыць заканамерным. Дзіцячыя псіхіятры прагназіруюць магчымыя «ўспышкі» самазабойстваў сярод падлеткаў, якія нарадзіліся ў сем'ях алкаголікаў. Калі гаворка ідзе пра статыстыку, то пэўны акадэмізм не дазваляе разгледзець за лічбамі чалавечае трагедыі. Але я ведаю бацьку і маці Аксаны, якія шчыра меркавалі, што ў іхніх папойках няма нічога страшнага. Цяпер яны засталіся адны... Але тое, што здарылася, ужо не паправіць. Геданізм бацькоў карае дзяцей. А бывае і наадварот. Знаходжу ў нататніку запіс аб смерці Марыны Д. Чатырнаццацігадовая школьніца павесілася ад таго, што ёй не адказаў на лісты Юра Шатуноў. Так, так, той самы саліст з «Ласкавага мая», які, як кажуць, штодня атрымлівае па тры торбы лістоў ад дзяўчынак з усіх канцоў нашага неабдымнага Саюза. Трэба думаць, што Юра не чытае гэтых палкіх прызнанняў у каханні. Але Марына не змагла перажыць маўчанне куміра і вырашыла пайсці з жыцця. Недарэчная смерць? Безумоўна. Але і за гэтым фактам стаяць пэўныя повады для сацыяльных вывадаў. Многія нашыя падлеткі, пазбаўленыя ад працы па доме і ад клопату пра здабыванне хлеба, дасягнулі поспехаў у іншым — стаўшы «фанамі». Адны без памяці любяць рок, іншыя аб'ядноўваюцца ў таварыствы тыпу «Клуб аматараў Алы Пугачовай», трэція, павязаўшы шыю шалікамі, раз'язджаюць услед за «Дынама» і «Спартаком». Фанам здаецца, што гэта і ёсць сапраўднае жыццё, з сапраўднымі страсцямі і хваляваннямі. Ці заўсёды дарослыя знаходзяць магчымасць растлумачыць ім, што гэта не так, што гэта проста сурагат сапраўднага жыцця? На жаль... Вось таму любое сутыкненне з рэальнымі праблемамі, нават такое, калі паштовае маўчанне куміра выклікае стрэс... Нядаўна я сустракаўся з бацькамі Марыны, пачуў ад маці вельмі шмат горкіх слоў пра «Ласкавы май». Я хацеў зразумець яе гора, але ніяк не мог падзяліць яе пачуцці. Не, не куміры вінаватыя, а мы, усе тыя, хто акружае падлеткаў, але не можа даць ім поўнага і правільнага ўяўлення аб рэальным, а не выдуманым імі самімі жыцці.

Але ёсць сярод дзіцячых самазабойстваў і самая горкая статыстыка. Міша Бялінскі сваім кароткім жыццём каменціруе яе. Дзеці гінуць у выніку распаду сем'яў, рост самазабойстваў прапарцыянальны колькасці разводаў. Што і казаць, сёння сямейныя вузы перасталі быць моцнымі і надзейнымі. Юныя таты і мамы ў поўнай адпаведнасці з сучаснымі норавамі працягваюць і пасля заключэння шлюбаў шукаць зручных «партнёраў», выгодныя партыі. Грамадскаю думкаю гэты дынамізм зусім не асуджаецца, наадварот, ён растлумачваецца практыцызмам і іншымі пазітыўнымі памкненнямі. Работнікі загсаў сведчаць: эпідэмія разводаў і стварэння новых сем'яў у самым разгары! І нехта забываецца тым часам, што ёсць няшчасны бок — дзеці. Міша Бялінскі быў адпраўлены маткаю ў школу-інтэрнат, бо стаў замінаць ёй у заключэнні новага шлюбу. У бацькі на былога сына часу не было, ён абмежаваўся аліментамі. Банальная гісторыя, ці ж не праўда? Колькі мы ведаем такіх. Але ў эпілогу гэтае гісторыі самазабойства Мішы, які толькі так і змог выказаць пратэст супраць тых, хто даў яму жыццё, а потым здрадзіў.

...Два запісы ў нататніку. Што паміж імі агульнага, хоць я занёс іх прыкладна ў адзін і той самы дзень, і адлегласць паміж імі ўсяго толькі ў адзін аркуш?.. Рост арганізаванае злачыннасці, спантанная жорсткасць і павелічэнне самазабойстваў сярод дзяцей. Вядома, напрамую гэтыя факты нашага сацыяльнага жыцця аб'яднаць цяжка. Але, як мне здаецца, сувязь ёсць. Яна ляжыць у плоскасці нашае бездухоўнасці, разрыву паміж дэкляраванымі ідэаламі і рэальным жыццём, які ўсё больш павялічваецца, у адсутнасці таго, што прынята называць маральнымі імператывамі.

А што пра гэта думаеце вы? Запрашаем да размовы пра балявыя кропкі сённяшняга дня. Давайце пагаворым пра іх, гэта ж вельмі важна для дня заўтрашняга.



Аляксей **АНДРЭЕЎ**

# памятаю тое, што хачу памятаць

Мы былі нармальнымі дзецьмі з нармальных сем'яў. Інспектары па справах непаўналетніх з мясцовага аддзялення міліцыі не ведалі нашых прозвішчаў, і бацькі па начах спалі спакойна. Мы вучыліся ў адной з лепшых школ горада. У ёй стараннямі ўмелых педагогаў стваралася нейкая асаблівая, парніковая атмасфера, у якой, нібыта гародніну на продаж, вырошчвалі высокаякасных абітурыентаў для тэхнічных ВНУ. То быў храм матэматыкі, і протаіерэем у ім — Аляксандр Маркавіч. Надзіва таленавіты выкладчык, які ўмудраўся з самых бесталковых вучняў зрабіць досыць прыстойных кандыдатаў на паступленне ў інстытуты. Лепшыя яго вучні траплялі ў маскоўскія ВНУ, з'яўляліся прадметам яго заслужанага гонару і прыкладам для нас. Ён быў маркаю і рэкламаю школы, з усіх канцоў горада з'язджаліся да яго жадаючыя спасцігнуць таямніцы вялікае навукі, іншы раз нават у аб'ёме, не прадугледжаным уступнымі экзаменамі. Але такіх было няшмат.

Адміністрацыя школы, як мне здавалася тады, уяўляла сабою нейкі апарат па падтрыманні ў школе неабходнай для нашага пасняховага выспявання тэмпературы і вільготнасці і аператыўна рэагавала на ўсялякія праявы некамсамольскіх паводзін сваіх падапечных. Трэба сказаць, што атрымлівалася ў яе гэта нядрэнна. Панкаў, рокераў і іншых «нефармалаў» на маёй памяці ў школе не было, а невялікі працэнт прыхільнікаў цяжкага року дазваляў адміністрацыі падтрымліваць спартыўную форму, такую неабходную ёй у барацьбе за чысціню нашага светаўспрымання.

У паўзах паміж спасціжэннем дакладных навук мы збіралі макулатуру, займаліся піянерскай, а пазней камсамольскай работаю, да якой я з тае пары адчуваю непераадольную гідкасць.

Памятаю дзяўчынку-камсамолку ў строгім касцюмчыку. Строгая прычосачка, строгія вочы. Поўная адсутнасць касметыкі на юным твары. Вызвалены сакратар камсамольскай арганізацыі нашай школы. Значок на грудзях і ўсведамленне высокага даверу старэйшых таварышаў у кожным слове і кожным жэсце.

Пакой камітэта ВЛКСМ. Брашуркі і брашурачкі, вымпелы і вымпельчыкі, папкі, ведамасці і сіняя пячатка. Сакратарка сядзіць з кімсьці з перспектыўных актывістаў за сталом, на які я няцвёрдай рукою выкладваю пачак білетаў бог ведае на які канцэрт, якія ніхто не хоча купляць. Я адмаўляюся распаўсюджваць іх сярод давераных мне камасольцаў у знак пратэсту. Партыя дэфіцытных кубікаў Рубіка, якая была дастаўлена ў школу на продаж з крамы, стараннямі вызваленага камсамольска-піянерскага актыву разышлася па загадзя складзеных спісах сярод выкладчыкаў школы. Дрыготкім ад хвалявання голасам я спрабую растлумачыць нашым камсамольскім багам, што гэта несправядліва, што мы вельмі доўга чакалі ў фае і нават сталі ў чаргу.

На мяне глядзяць спачувальна, усміхаюцца: «Разумеем, разумеем» — і мякка папракаюць за несвядомасць. Білеты я, здаецца, забіраю назад. Мне пятнаццаць гадоў. Я трохі наіўны, трохі нявытрыманы, але няблага вучуся, акуратна плачу ўзносы і таму часта засядаю ў прэзідыумах.

Памятаю ўрокі гісторыі, на якіх мы вывучалі кароткі курс ВКП(б) у інтэрпрэтацыі школьнага падручніка, пераказвалі праграму «Час», ганілі акадэміка Сахарава, які абвяргае нашыя ідэалы, і верылі калі не ўсяму, дык многаму з таго, у чым спрабавала нас пераканаць немаладая ўжо настаўніца, якая, мусібыць, таксама шчыра памылялася. Дарэчы, я быў у яе прыкладным і любімым вучнем. Усё-такі гісторыя, нават у тым паўсталінскім-паўбрэжнеўскім выкладанні была мне бліжэйшая за матэматыку. Паэтыкі прадмета Аляксандра Маркавіча я так і не здолеў спасцігнуць...

Гэта быў дзіўны час, які супаў з нашым навучаннем у старэйшых класах. Час, калі адмена заняткаў у школе з нагоды сканання чарговага лідэра дзяржавы была справаю такою ж звычайнаю, як летнія вакацыі. Час апагею таго маразму, у які мы павольна, але пэўна пагружаліся, не перастаючы, аднак, абвяшчаць усё новыя і новыя лозунгі. Але ні дзіўнасці гэтага часу, ні ягонага фарсу, ні, тым больш, ягонае трагедыі мы не ўсведамлялі. Усё вакол, і мы ў тым ліку, знаходзілася ў стане паўсну. Ён быў для нас такі натуральны, як і ўпэўненасць у тым, што мы жывём у развітым сацыялізме і жывём, несумненна, лепей за нашых равеснікаў за акіянам. Але была і іншая школа. Як ні дзіўна, непарыўна звязаная з тою, шчаслівa-матэматычнай, якая стала яе неаддзельнай часткаю і знаходзілася з ёю ў тым адзінстве і супярэчлівасці, усвядоміць якія я і сёння няздольны.

Былі ўрокі рускае літаратуры. Адзіныя, бадай, якія не выклікалі ў мяне агіды. І не толькі таму, што з дзяцінства я шмат і ахвотна чытаў. І нават не столькі таму. Святлана Сцяпанаўна, Святлана, як мы яе звалі тады, патрабавала ад нас, патрабавала настойліва і ўпарта, апрача ўсяго іншага, умення самастойна мысліць. Яна шчыра і непадробна ненавідзела навучальныя дапаможнікі па рускай літаратуры, якія прапаноўвалі нам стандартныя і ўбогія трактоўкі светаўспрыняццяў класікаў і створаных імі вобразаў. Не, яна была далёкая ад таго, каб падвесці нас да разумення таго, што адбывалася вакол. Але ўменнем звязна выкладаць свае думкі, адстойваць свой пункт погляду ў спрэчцы, разбірацца ў характарах і абставінах, мы самі, мажліва, таго не ўсведамляючы, абавязаныя ў першую чаргу ёй.

Будучы чалавекам строгіх поглядаў, яна, хоць і любіла самаадданa не толькі літаратуру, але і сваіх вучняў, не магла, аднак, да канца зразумець нас. Жорсткія, мы так часта не даравалі ёй гэтага...

Памятаю кабінет, за парогам якога нас заўсёды чакала свята. Гэта быў кабінет вылічальнай матэматыкі, выкладала яе Таццяна Зіноўеўна. Яна адзіная, бадай, з усіх настаўнікаў умела пераадолець той бар'ер неразумення, які з-за шэрагу прычын амаль заўсёды ўзнікае паміж настаўнікам і вучнем. З ёю было лёгка і проста. Мы гаварылі на ўроках пра новыя фільмы і модныя анучы, елі тарты, па якія бегалі ў суседні гастраном, і пры гэтым ведалі праграміраванне нашмат лепш за тых, хто вучыўся ў іншых падгрупах. Мы не маглі ведаць яго горш, бо нашыя веды былі адзіным козырам супраць довадаў тых, хто лічыў яе метады выхавання недапушчальнымі. А такіх было шмат. Але яна не выхоўвала нас, прынамсі, у звычным сэнсе гэтага слова. Яна давала нам пэўны аб'ём ведаў, дзялілася сваім добрым настроем і ніколі не падманвала. Я толькі цяпер пачынаю разумець, як гэта шмат...

Яе любілі шчыра і самааддана. Захапляліся яе маладосцю, прыгажосцю і незалежнасцю і ніколі не спрабавалі перайсці тую рысу, за якой сяброўскія адносіны маглі ператварыцца ў хамства.

На святы мы заўсёды куплялі белыя гваздзікі — яе любімыя кветкі. У маёй памяці яны непарыўна звязаны з той незвычайнай атмасфераю свята і волі, якія панавалі на ўроках вылічальнай матэматыкі.

Памятаю спартыўна-турысцкі клуб, які разам з Аляксандрам Маркавічам ствараў школе аўтарытэт. Праз гэты клуб прайшлі амаль усе нашыя дзяўчынкі, і, абышоўшы ўсю краіну, занялі процьму прызавых месцаў на спаборніцтвах па спартыўным арыенціраванні. Там таксама была свая педагогіка, простая і канкрэтная, не падобная на сярэдня-школьную гэтаксама ж, як не падобная кава, пададзеная ў рэстаране, на згатаваную ў кацялку гарбату. Там нас выхоўвалі дым вогнішча, песні пад гітару і салёны пот, які засціў вочы, калі, згінаючыся пад цяжарам рукзака, ідзеш па маршруце.

Памятаю наш выпускны вечар. У вачах стракаціць ад кветак і надзіва прыгожых дзяўчат у казачных сукенках. Недзе ля сценак ціснуцца нашыя чамусьці сумныя бацькі і неяк умомант састарэлыя настаўнікі.

У кабінеце рускай літаратуры стараннямі бацькоўскага камітэта сабраны стол. Гарбата ў самавары, хатнія цуды кулінарыі. На вуліцы задушны чэрвеньскі вечар. Па звычцы мы бегаем курыць далей ад уваходных дзвярэй школы і чамусьці вельмі хвалюемся. Нам па семнаццаць гадоў, і будучыня ўяўляецца нам цудоўнаю і значнаю. Мы п'ём шампанскае і насуперак забаронам сустракаем золак першага «няшкольнага» дня.

Я ўдзячны школе за ўсё — дрэннае і добрае. За тое, што яна дала мне мноства ведаў, непатрэбных і таму забытых. Я ўдзячны ёй за тое, што яна засцерагала мяне ад крайнасцей, у якія кідаліся мае аднагодкі ў той цьмяны «перадперабудовачны» час. Урэшце, я ўдзячны ёй за тое, што я такі, які ёсць — з усімі сваімі вартасцямі і недахопамі. У гэтым яе немалая заслуга.

**Альбер КАМЮ**

# праметэй у апраметнай

**«Мне здавалася, што нечага не ставала гэтаму боству, бо не было нічога, каб яму проціпаставіць».**

**Лукіян, «Праметэй, або Каўказ».**

Што азначае Праметэй для чалавека нашага часу? Без сумнення можна сказаць, што гэты бунтар, які паўстаў супраць багоў,— узор сучаснага чалавека, і што гэты пратэст, які ўзнёсся тысячагоддзі назад над пустэльнямі Скіфіі, канчаецца сёння ні з чым не параўнальнымі канвульсіямі гісторыі. Але ў той жа час нешта падказвае нам, што гэты вечны выгнаннік і цяпер яшчэ сярод нас і мы па-ранейшаму глухія да яго самотнага крыку, які заклікае ўсё чалавецтва паўстаць.

Сапраўды, чалавек нашых дзён — гэта той, хто ў незлічоных натоўпах пакутуе на гэтай цеснай зямлі, чалавек, пазбаўлены агню і ежы, свабода для якога — усяго толькі раскоша, якая можа і пачакаць; і гаворка для гэтага чалавека ідзе толькі пра тое, каб пакутаваць трошкі больш, як не можа быць іншай гаворкі для свабоды і астатніх яе праяў, як трошкі больш знікнуць. Праметэй — той герой, які досыць моцна палюбіў людзей, каб падарыць ім адначасова агонь і свабоду, тэхнічны прагрэс і мастацтва. Сёння ў чалавецтва адзінай патрэбай і клопатам застаўся тэхнічны прагрэс. Яно паўстае ў машынах і лічыць мастацтва і ўсё, што яно пад сабой разумее, за перашкоду і адзнаку нявольніцтва. Праметэй, наадварот, вызначае тое, што ён не можа аддзяліць машыну ад мастацтва. Ён мяркуе, што цела і душу можна вызваліць адначасова. Цяперашні чалавек — верыць, што спачатку трэба вызваліць цела, нават калі дух часова мусіць памерці. Але ці можа дух памерці часова? Сапраўды, калі б Праметэй вярнуўся, сучасныя людзі зрабілі б з ім тое, што некалі зрабілі багі: яны прыкавалі б яго да скалы — у імя таго самага гуманізму, першы сімвал якога ён сабою ўвасабляе. І варожыя галасы, якія кідалі б абразы пераможанаму, былі б тыя самыя, што гучалі на пачатку эсхілавае трагедыі,— галасы Сілы і Гвалту.

Ці не падпадаю я тут прагнаму часу, голым дрэвам, зіме, што пануе над светам? Але сам настальгічны смутак па святле даводзіць, што я маю рацыю: ён гаворыць мне пра другі, іншы свет, пра маю сапраўдную бацькаўшчыну. Ці мае яна яшчэ для каго-небудзь сэнс? У гады вайны я павінен быў узысці на карабель і паўтарыць падарожжа Уліса. У тыя часы нават бедны юнак мог дазволіць сабе раскошную мару пераплыць цераз мора, каб сустрэцца са святлом. Але я тады зрабіў, як усе. Я не сеў на карабель. Я заняў сваё месца ў чарзе, што тапталася перад адчыненай брамай у пекла. Пакрысе мы туды ўвайшлі. І з першым крыкам забітай бязвіннасці брама з грукатам зачынілася за намі. Мы былі ў пекле, з таго часу мы адтуль ужо не выходзілі. Шэсць доўгіх гадоў мы намагаемся прызвычаіцца. Пякучыя міражы заможных, шчаслівых выспаў майнуюцца нам за мроівам іншых доўгіх гадоў, якія яшчэ трэба пражыць— без сонца і без агню.

Як жа можам мы, у гэтай сырой і змрочнай Еўропе, не ўспрымаць са шчымлівай тугой і цяжкай спагадай той вокліч старога Шатабрыяна, які кажа Амперу, што выпраўляецца ў Грэцыю: «Вы не знойдзеце ані лісточка алівы, ані вінаграднага зернетка, што я бачыў у Атыцы. Я смуткую нават па той траве, што расла там у мой час. Мне не хапіла сілы захаваць жыццё верасу». І мы таксама, заражаныя, нягледзячы на нашу юную кроў, пачварнаю старасцю гэтага астатняга веку,— мы часам таксама смуткуем па траве ўсіх часоў, па лісточку алівы, на які мы ўжо не выправімся паглядзець дзеля самога ж яго, і па вінаградных гронках свабоды. Чалавек пранікае паўсюль, паўсюль яго крыкі, боль і пагрозы. Сярод плоймы скупленых разам стварэнняў ужо няма месца для цвыркуноў. Гісторыя — неўрадлівая глеба, на якой верасы не растуць. Сучасны чалавек выбраў, аднак, гісторыю, і ён не мог і не павінен быў ад яе адвярнуцца. Але замест таго, каб падпарадкаваць яе сабе, ён кожны дзень усё больш пагаджаецца служыць ёй рабом. І ў гэтым ён здраджвае Праметэю, гэтаму сыну «з дзёрзкаю думкай і бесклапотным сэрцам». Гэтым ён зноў вяртае сябе да мізэрнасці тых людзей, якіх хацеў уратаваць Праметэй. «Яны глядзелі і не бачылі, слухалі і не чулі, як сонныя прывіды»...

Так, досыць аднаго вечара ў Правансе, аднаго бездакорнага ўзгорка, водару солі, каб заўважыць, што ўсё яшчэ трэба зрабіць. Мы мусім зноў вынаходзіць агонь, зноў наладжваць рамёствы, каб наталіць голад цела. Атыка і свабода з яе зборамі вінаграду, хлебам душы адкладаюцца на пасля. Што мы можам яшчэ, калі не крыкнуць адзін аднаму: «Іх болей не будзе ніколі ці яны будуць для іншых»,— і рабіць усё неабходнае, каб хоць іншыя не былі іх пазбаўленыя. Мы — тыя, хто адчувае ўсё гэта з болем і, тым не менш, стараецца сустракаць без горычы ў сэрцы,— ці не спазніліся мы, ці, можа, апярэджваем час? Ці стане ў нас сілы адрадзіць жыццё верасу?

На гэтае пытанне, што ўздымаецца ў нашым стагоддзі, можна ўявіць адказ Праметэя. Зрэшты, ён ужо яго даў: «О, смяротныя, я абяцаю вам перабудову і аднаўленне, калі вы будзеце дастаткова ўмелыя, дастаткова мужныя, дастаткова дужыя, каб утварыць іх сваімі рукамі». І калі выратаванне сапраўды ў нашых руках, на пытанне стагоддзя я даю станоўчы адказ — абапіраючыся на тую разважную сілу і свядомую мужнасць, якія па-ранейшаму адчуваю ў некаторых знаёмых мне людзях. «О справядлівасць, о мая маці,— ускрыквае Праметэй,— ты бачыш пакуты, на якія мяне асуджаюць!» І Гэрмес кпіць з героя: «Дзіўна мне, што ты — празорца, а не прадбачыў той кары, што цябе напаткала».— «Я ўсё ведаў»,— адказвае бунтар. Людзі, пра якіх я кажу,— таксама сыны справядлівасці. Яны таксама, з поўным усведамленнем рэчаў, пакутуюць ад няшчасця ўсіх. І яны менавіта ведаюць, што сляпой справядлівасці не бывае, што бязвокая бывае гісторыя, а значыць, яе справядлівасць трэба адкінуць і замяніць, наколькі гэта магчыма, той, якую вызначаюць розум і дух. І тут Праметэй зноў уваходзіць у наша стагоддзе.

Міфы самі па сабе не жывуць. Яны чакаюць, каб іх увасобілі людзі. Няхай хоць адзін чалавек адгукнецца на іх покліч — і яны адораць нас сваім беззаганным жыватворным, сілкуючым сокам. І гэты міф мы абавязаны захаваць, мы мусім зрабіць усё, каб яго сон не аказаўся смяротным і яго адраджэнне было магчымае. Часам я сумняваюся, каб сучаснага чалавека можна было ўратаваць. Але яшчэ можна ўратаваць дзяцей гэтага чалавека — з іх душою і целам. Яшчэ можна падарыць ім шанц адначасова і на хараство, і на шчасце. І калі мы вымушаны пакорліва пагадзіцца жыць без хараства і свабоды, якую яно азначае, то міф пра Праметэя — адзін з тых, якія заўжды будуць нагадваць нам, што любое калецтва ў чалавеку — часовае і нішто не можа служыць чалавеку, калі не служыць яму ўсяму, ва ўсёй яго цэльнасці. Калі ён жадзён хлебу і верасу і калі хлеб, напраўду, больш неабходны, навучымся захоўваць хоць бы ўспамін пра верас. У самым цёмным прадонні гісторыі Праметэевы людзі, не спыняючы сваёй цяжкае працы, будуць заўсёды глядзець на зямлю і на нястомныя травы. Пад маланкамі і перунамі багоў закуты герой не губляе сваёй спакойнае веры ў чалавека. Менавіта таму ён цвярдзейшы за сваю скалу і цярплівейшы за свайго грыфа. Больш за бунт супраць багоў для нас мае сэнс менавіта гэтая доўгая, нязломная ўпартасць. І гэтая дзіўная воля нічога не раздзяляць і не выключаць, якая заўсёды злучала і будзе яшчэ злучаць спакутаванае чалавечае сэрца і вясновае абуджэнне свету.

1946

**Пераклаў з французскай**
**Зміцер КОЛАС**



Віктар ЧАРОПКА

# шляхі ізгоя



Паходы і бітвы. Паражэнні. Уцёкі ўначы, калі конскі тупат рэхам нясецца па прыціхлай пушчы. Святло паходняў. Крывавая даніна полю сечы. Адчай і надзея. Хітры прыжмур Міндоўгавых вачэй. Уладарны твар Данілы Галіцкага. Яцвяжскія вогнішчы ў Белавежы. Наваградак, Варута, Цвірамет, Рыга. І вось Полацк. Зіхаціць злата купалоў на саборах і цэрквах. Шляхі ізгоя прывялі яго ў крыўскую сталіцу. Што тут чакае яго?

Колькі разоў здавалася: вось яна, перамога, яшчэ адзін удар — і Міндоўг пераможаны. А перамагаў Міндоўг. Дзе зброяй, дзе хітрасцю, дзе «сребром и дарми многыми». Гінулі верныя воі, здраджвалі сябры, пакідалі саюзнікі. Верным заставаўся меч...

Не думаў тады, калі Міндоўг з купкай сваіх баяраў «за ворожьство» з ім уцёк з Літвы, што ўся вайна яшчэ наперадзе. Што знойдзе той падтрымку ў наваградскіх феадалаў і з наваградскімі дружынамі вернецца назад. І будзе зваявана «вся земля Литовская». І ўжо ён, Таўцівіл, толькі ўцёкамі і выратуецца. Не прадбачыў. Вяртанне Міндоўга было нечаканасцю і для яго, і для брата Ердзівіла, і для дзядзькі іхняга Віканта. Хаця і змоцніліся супраць наваградскага князя, але прыйшлося прызнаць над сабою ягоную ўладу. Але хіба пакора магла выратаваць жыццё? Не падманула іх ветлая ўсмешка Міндоўга: у халодных ягоных вачах чыталі яны смяротны прысуд.

Міндоўг пасля нямала будзе шкадаваць, што выпусціў іх з Літвы. А разлічыў, здаецца, усё. Паслаў ваяваць Смаленскую зямлю, спадзяваўся, што рускія дружыны разаб'юць іх, а следам пусціў сваё войска, якое і павінна было расправіцца з супраціўнікамі ягонай улады. Не ўлічыў ён аднаго: што Таўцівіл, не спадзеючыся сабе ратунку, паверне не на Смаленск.

Шляхі ізгояў... Куды яны вядуць? Туды, дзе вораг твайго ворага. Галіцка-валынскі князь Даніла, які быў жанаты з Таўцівілавай сястрой, вось хто мог дапамагчы ім у барацьбе з Міндоўгам. Князь даўно з трывогай сачыў за падзеямі, што адбываліся на Чорнай Русі і Літве. Наваградак станавіўся новым палітычным цэнтрам Заходняй Русі. Да Данілы і прыбылі князі-ўцекачы.

Даніла не прамінуў нагоды скарыстаць літвінскія дружыны, і, не рассядлаўшы коні, Таўцівіл ідзе ў чэшскі паход. Пакончыўшы з дзеяннямі на Захадзе, Даніла заняўся Чорнай Руссю і Літвой. Адным моцным ударам раз і назаўжды пакончыць з новай дзяржавай. А для гэтага патрэбны войскі. Князь звяртаецца да Польшчы. Адасобленная ад Наваградка і Літвы Падляшскай зямлёй, Польшча не бачыла пагрозы сабе. Наадварот, Міндоўгава дзяржава разглядалася палякамі як сіла, здольная супрацьстаяць Галіцка-Валынскаму княству. І Польшча адмовілася падтрымаць Данілу. Так Міндоўг, яшчэ не ўступіўшы ў вайну, атрымаў важную перамогу. А для Таўцівіла гэта паражэнне. Тады Даніла пасылае ў доўгі ваяж Віканта. Яцвезь, Жамойць, Лівонія. «Сребром и дарми многыми» Віканту ўдаецца схіліць супраць Міндоўга яцвяжскіх і жамойцкіх князёў. Трохі складаней было з «рыцарамі Хрыстовымі». Тыя гандляваліся. Умова: прыміце хрысціянства. Ну як жа: слугі Хрыстовы і дапамагаюць паганцам. Дый памятны ім Шаўляйскі бой у 1236 г., дзе войскі на чале з Вікантам разбілі Лівонскі ордэн, а слаўнага магістра Волквіна адправілі на вечны супакой. Вікант прымае хрысціянства, і крыжакі забылі аб крыўдах на яго. Занепакоены Міндоўг шле Данілу дары, каб той расправіўся з Таўцівілам: «не чини има милости». Марная надзея. Даніла ўскладае на Таўцівіла немалыя спадзяванні.

І пачалася вайна. «И многое воевание бысть межи ими». Можна ўявіць, што хаваецца за гэтымі скупымі летапіснымі словамі. Галоўны ўдар наносіўся сіламі галіцка-валынскіх князёў, Данілы і Васількі Раманавічаў, на Ваўкавыск, Слонім, Здзітаў, а пасля «поидоша к Новугородку», які захапіць не ўдалося. Таўцівіл безвынікова ваяваў у Літве і павёў свае войскі ў Рыгу, пэўна, для таго, каб там папоўніць парадзелыя рады крыжакамі. Тут ён прымае хрысціянства. І пакуль каталіцкія святары пасвячалі новахрышчанага ў таемствы святой веры, магістр Андрэй Сцірландскі вёў перамовы з Міндоўгам. Таўцівіл у гэтай гульні аказаўся пешкай, якую мянялі на караля, праўда, яшчэ без кароны. Але што значыць выкаваць карону? Быў бы кароль, а карона знойдзецца. «Калі б ты быў хрысціянінам, дык я зрабіў бы табе яшчэ большы гонар і выпрасіў бы табе каралеўскую карону, клянуся жыццём»,— сказаў магістр Міндоўгу. Канечне, не толькі самому прыняць веру Хрыстову, але і сваіх падданых прывесці да яе (хоць Міндоўг і ягоныя баяры ўжо былі праваслаўнымі). Ну і за тружанне дараваць Ордэну некаторыя землі ў Жамойці і Яцвезі, а магістр падтрымае яго ў барацьбе з Таўцівілам і Данілам. Міндоўг ведаў, на што ідзе: раз'яднаць варожую кааліцыю, знайсці сярод ворагаў саюзнікаў.

У далёкі Рым разам з ордэнскімі пасламі адправіўся і Міндоўгаў баярын Парнус. Рымскі папа Інакенцій IV прыняў Літву пад абарону апостальскага пасаду і прызнаў Міндоўга каралём. Так Міндоўг дабіўся яшчэ адной важнай перамогі. У адчаі Таўцівіл пакідае Рыгу і вядзе сваю дружыну на Міндоўгаў град Варуту (сучасная Рута Карэліцкага раёна). А да Міндоўга на дапамогу прыйшоў нямецкі атрад. У адной з начных вылазак Міндоўг «разогнаша и Русь и Ятвязе». І зноў паражэнне. Таўцівіл адпраўляецца ў Жамойць да Віканта. А па ягоных слядах, «собрав силу велику», урываецца туды Міндоўг. І хаця ўдалося адбіць яго ад Вікантавага града, Цвірамета, але гэта не перамога. Удача адвярнулася ад Таўцівіла, а вось Міндоўгу лёс прыяе. Той у Наваградку каронуецца каралеўскім вянцом. Цяпер за яго Ордэн, бо яму Міндоўг аддаў жамойцкія і яцвяжскія землі.

Таўцівіл яшчэ гатоў змагацца. Уся надзея на Данілу Галіцкага, «Поди к Новугородку»,— просіць ён. У 1253 г. наваградскія землі зноў пустошылі галіцка-валынскія дружыны. «Плениши всю землю Новогородка» і «взяста Городен». Гэты ўдар вымусіў наваградскае баярства прасіць міру з Данілам Галіцкім. Войшалк, які на той час, пэўна, быў выбраны замест не апраўдаўшага іх надзеі Міндоўга, заключае мір з Галіцка-Валынскім княствам. А гэта ўжо канчатковае паражэнне Таўцівіла. Застаўшыся без саюзнікаў, ён амаль бездапаможны перад Міндоўгам. Срэбра Міндоўгава адвяло ад яго і яцвягаў, і жмудзь. Як ваяваць? Адчай гоніць яго з Жамойці на Валынь да Данілы. Таўцівіл заклінае таго змагацца з Міндоўгам, не браць міру. Але Даніла свайго дамогся: Наваградак і Літва раз'яднаны. Ад Чорнай Русі адарваны немалы кавалак. Трэба перадыхнуць, сабраць сілы. З поўдня пагражаюць татары, і пра гэта забывацца нельга. А тут яшчэ смаленскі князь са сваімі крывічамі авалодаў Галічам. Ніяк з Літвой не выходзіла ваяваць. Адзінае, што застаецца,— кінуць галіцкаму князю: «Миндовг убеди я серебром многим». Ды толькі ўгнявіў Данілу. І няма цяпер у Таўцівіла саюзнікаў, застаўся адзін. З чаго пачынаў, тым і скончыў: ізгой, без войска, без надзейных сяброў і паплечнікаў, без грошай. А па слядах крадзецца смерць. Міндоўг не супакоіцца, пакуль ён жывы. Князь пакідае Радзіму (магчыма, тапонім Таўтвелы ў Пружанскім раёне паказвае, што род Таўцівілаў паходзіў адтуль).

...І вось Полацк. Мужы-палачаны хочуць узяць яго за баявога князя. Выбару няма, і ён згодны.

Усю вайну 1248—1254 г. Полацк заставаўся ўбаку, староннім гледачом назіраў за падзеямі на заходніх і паўднёвых межах сваіх зямель. Што ў ягоным позірку? Зацікаўленасць? Трывога? Абыякавасць? Чаканне? Многа загадкавага і незразумелага ў гэтым бяздзейным маўчанні. Што скажа Полацк? Літва ж даўняя данніца, яго саюзнік, зямля, якую вось якое стагоддзе каланізуюць крывічы разам з дрыгавічамі. Так з'явілася Ізяслаўская воласць, Нясвіжская, Гарадоцкая. Нават у самы цэнтр Літвы пранiклі палачане і ставяць там свае грады-фарпосты Крыўград (Вільня), Крэва, Лоск.

Дык чаму бяздзейнічае Полацк? Страціў Смаленск — свой даўні прыгарад, страціў Лівонію — данніцу сваю, вось і Літву аддае на волю галіцкіх князёў. Няўжо аслабела, сцякла крывёю ў міжусобных сечах пагрозлівая Полацкая Русь і няма каму пазвінець мячамі аб варожыя шаломы? Аднак вось выклікаў да сябе Таўцівіла, ізгоя і літвіна, мог жа свайго Ізяславіча пасадзіць, дык спатрэбіўся літвін. Навошта? Якія такія падзеі звязваюць з ім палачане?

Не ў інтарэсах Полацка было ўзвышэнне Навагарадка і далучэнне да яго Літвы. Полацк і сам быў не супроць аб'яднаць Чорную Русь і Літву пад сваёй зверхнасцю. Вайна Данілы Галіцкага з Міндоўгам Полацку на руку. Хай кідаюць у пашчу смерці лепшых сваіх вояў, а ён пачакае, і калі Літва і Чорная Русь звернуцца да яго па дапамогу, вось тады і выставіць свае ўмовы, навяжа сваю ўладу. Можа, на гэта спадзяваўся Полацк? Аднак амаль уся Наваградчына перайшла да Галіцка-Валынскага княства. Літва аслаблена, але Міндоўг умацоўвае там сваю ўладу. Ці на гэта разлічваў Полацк? Не, не на гэта. Значыць вынікамі вайны незадаволены. Некалі ўцёкшага з Літвы Міндоўга прытулілі наваградскія баяры, хрысцілі яго ў веру праваслаўную, далі вояў і паслалі ваяваць Літву. А цяпер і Полацк вырашыў такім прыёмам пакарыстацца. Вось і запрашаюць Таўцівіла.

Чаму запрашаюць? «Хроніка Літоўская і Жамойцкая», хроніка Стрыйкоўскага сцвярджаюць, што Таўцівіл захапіў Полацк яшчэ ў час памятнага паходу на Смаленск, у які яго выправіў Міндоўг. І фальсіфікатары гісторыі ў адзін голас паўтараюць паведамленне гэтых хронік. Аднак не трэба забываць, што гэтыя творы — далёка не гістарычныя крыніцы, асабліва для XIII ст. Напісаныя значна пазней, у XVI ст., яны з'яўляюцца ў той частцы, дзе гаворка ідзе пра ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага і Рускага, фальсіфікацыяй, выкананай, як лічаць даследчыкі, па заказу жамойцкіх феадалаў дзеля абароны іх палітычных праў. Больш дакладныя крыніцы, як Іпатаўскі летапіс, ноўгарадскія і пскоўскія летапісы, нямецкія хронікі, нічога не кажуць аб Таўцівілавым захопе Полацка. Такая важная падзея не выпала б з-пад іхняй увагі.

А цяпер давайце зірнем на гэтую праблему вачамі вайскоўца. Полацк у XIII стагоддзі быў буйнейшым горадам Заходняй Русі (у дачыненні да таго часу можна ўжо казаць пра Белую Русь). У ім жыло каля васьмі тысяч жыхароў, г. зн. палачане маглі выставіць у апалчэнне дзесьці болей за тысячу вояў. Горад меў развітую сістэму абарончых умацаванняў і авалодаць ім заўсёды было цяжка. Аб гэтым сведчыць ісландская сага аб Дзідрыніку. «Горад гэты быў вельмі ўмацаваны, што яны (раці Ацілы — В. Ч.) не ведалі, як яго захапіць: там была моцная, каменная сцяна, былі там і вялікія вежы, шырокія і глыбокія рвы». Нагадаем, што князь Уладзімір Чырвонае Сонейка пайшоў у 980 г. на Полацк з «вои многи, варяги, словени, чюдь и кривичи», г. зн. з вайсковымі сіламі ўсёй Паўночна-Заходняй Русі. Вялікі князь кіеўскі Ізяслаў вёў на Полацк усе наяўныя сілы Паўднёвай Русі. Пазней неаднаразовыя спробы крыжацкіх армій авалодаць горадам заканчваліся няўдачай. У 1380 г. горад вытрымаў 16-тыднёвую аблогу крыжацкіх войскаў і Скіргайлавай дружыны, а ў 1386 г. былы полацкі князь Андрэй Альгердавіч з трыма арміямі крыжакоў так і не захапіў горад. Нялёгка было гэта зрабіць і калі з'явіўся вогненны нарад. Так, паходы рускіх палкоў пад Полацк у 1518, 1519, 1520, 1534, 1535 гг. не прынеслі перамогі. У 1563 г. Івану Грознаму, каб захапіць горад, спатрэбіліся два месяцы бесперапынных баёў, трыццацітысячнае войска і 200 гармат. Значыць, і Таўцівілу патрэбны былі значныя вайсковыя сілы. А іх і не было. Ноўгарадскі летапіс паведамляе, што пад час паходу аб'яднанага ноўгарад-полацкага войска на Юр'еў у 1262 г. Таўцівіл меў «полочан и литвы 500». Відаць, Таўцівілава дружына складалася прыблізна з 200—300 воінаў. Ці мог ён з такой колькасцю дружыннікаў авалодаць горадам? Нават калі ўлічыць, што з Таўцівілам былі ягоны брат Ердзівіл і дзядзька Вікант са сваімі дружынамі і агульная колькасць воінаў магла складаць каля тысячы і болей, дык і тады авалодаць крыўскай сталіцай было немагчыма. Аднак, калі ўсё ж дапусціць, што Таўцівілу ўдалося гэта зрабіць, тады ўзнікае пытанне: чаму бяздзейнічалі палачане, чаму скарыліся свайму заваёўніку, чаму не шукалі падтрымкі ў Ноўгарадзе, з якім трымалі мір (дачка былога полацкага князя Брачыслава была ў шлюбе з Аляксандрам Неўскім)? Чаму той жа Ноўгарадскі летапіс называе заваёўніка «добрым князем»? Чаму? Адказ адзін: Таўцівіла запрасіла веча, як рабіла гэта раней у дачыненні да ўсіх полацкіх князёў. Таму палачанам і не было неабходнасці змагацца супраць свайго князя. А паколькі Таўцівіл у многім апраўдаў іх спадзяванні, дык для палачан ён і быў «добры», а калі так, дык і для Ноўгарада — саюзніка полацкага — Таўцівіл таксама быў «добрым князем».

А цяпер погляд палітыка на гэтую ж праблему. Для Таўцівіла не было таямніцы ў тым, што Міндоўг задумаў забіць яго, разумеў, навошта той пасылае яго ваяваць Смаленск. Ці мог ён у такі складаны для сябе момант, калі следам ішло Міндоўгава войска, адважыцца на штурм Полацка?

І ўсё ж па волі фальсіфікатараў Таўцівіл «захапіў Полацк». Хай будзе так. А што ж Міндоўг? Саюзнікам Таўцівіла ён шле просьбы, каб тыя забілі князя-ізгоя. У такім разе куды болей верагодна, што і варожа настроеным супраць захопніка палачанам ён паслаў бы такую прапанову. Не паслаў. Чаму? Зразумела, у той час у Полацку і духу Таўцівілавага не было. Не знаходзім мы ў крыніцах звестак і пра тое, што палачане дзейнічаюць на баку Таўцівіла супраць Міндоўга. Трэба думаць, калі б Таўцівіл быў гаспадаром у Полацку, дык ён прымусіў бы і полацкіх вояў змагацца са сваім ворагам. Незразумела, чаму спатрэбілася заваёўваць горад, калі адразу ж пасля гэтага Таўцівіл імчыць шукаць абароны ў Данілы Галіцкага. Навошта тады непатрэбныя ахвяры?

У фальсіфікатараў з'явілася новая версія захопу Таўцівілам Полацка: маўляў, крыжакі дапамагалі яму. Зноў хлусня. Адразу бачна, што фальсіфікатары дрэнна ведалі гісторыю дыпламатычных зносін Полацкай зямлі і Ордэна, а калі і ведалі, дык праігнаравалі яе. А праўда такая: паміж Ордэнам і Полацкам, Віцебскам і Смаленскам у 1229 г. было заключана пагадненне аб міры, пра што сведчыць угодчая грамата смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча. У ордэнскіх хроніках 1229—1262 гг. мы не знаходзім паведамленняў аб паходах на Полацк, у тым ліку і ў падтрымку Таўцівіла.

Калі б Таўцівіл і сапраўды быў заваёўнікам, ён, вядома, пакончыў бы з вечам, якое абмяжоўвала б ягоную ўладу. А ці проста было зрабіць гэта з буянным і ўладарным вечам? З тым вечам, з якім раіўся князь Брачыслаў, калі прымаў на службу варажскую дружыну, з тым вечам, якое ў 1151 г. «яша» князя Рагвалода Барысавіча і трымала яго ў «велице нужи», з вечам, якое праз сем гадоў князя «Глеба Ростиславича выгнаша, и двор его разграбиша», з тым вечам, аб сіле якога папярэджвае князя Расціслава ягоны слуга: «Не езди, княже, вече ти в городе, а дружину ти избивають, и тебя хотят яти», з тым вечам, перад якім не рашаюцца адказваць за ваенныя паражэнні князі Рагвалод Барысавіч і Усяслаў («к Полотьску не сме ити»), з тым вечам, якое пазней не пусціла ў горад Ягайлавага брата Скіргайлу, а, прывязаўшы да кабылы, адправіла яго ў прочкі, з тым вечам, якое адмовілася адчыніць браму свайму былому ўлюбёнцу князю Андрэю Альгердавічу за ягоны саюз з крыжакамі, з тым вечам, якое валодала ў Полацку заканадаўчай уладай аж да 1499 г., да надання гораду магдэбургскага права, з тым вечам, з якім лічыліся і вялікія князі літоўскія («чалом б'ем»)? Калі дапусціць, што і тут Таўцівіл перамог, падначаліў сваёй уладзе і веча, дык ён становіцца паўнаўладным князем Полацка. Значыць, уся эканамічна-вайсковая моц Полаччыны пастаўлена была на службу літвінскаму князю, служыла ягоным інтарэсам — барацьбе з Міндоўгам.

Было ўжо нагадана, што дакладныя крыніцы маўчаць аб удзеле палачан у гэтай барацьбе. А цяпер зірнем, чым жа займаўся гэты «незалежны ад веча ўладар Полацка», чыім інтарэсам ён служыў. Летапіс паведамляе, што ў 1258 г. (прыблізна ў гэты час і быў запрошаны або ўцёк у Полацк Таўцівіл) «Литва з полочаны» (відаць, пад звернасцю Таўцівіла) ха-

дзілі на Смаленск, спустошылі Таржок і захапілі Войшчыну. Каму быў выгадны гэты паход? Таўцівілу, які павінен быў збіраць новыя сілы для вайны з Міндоўгам? Ці палачанам? У тым жа годзе Таўцівіл разам з Войшалкам вызваляе Наваградчыну ад галіцка-валынскай залежнасці. Зноў-такі, ці было на руку Таўцівілу ўзмацненне Войшалка? Не. У Полацку ведалі, што наваградскія феадалы не адмовіліся ад задумы зноў далучыць да Наваградка Літву, ведалі, што Войшалк «отца своего не любивашеть вельми», і вызваленнем ад залежнасці ад Данілы Галіцкага толькі падштурхоўвалі яго на вайну з Міндоўгам, спадзеючыся скарыстаць яе ў сваіх інтарэсах. Пытаецца, навошта было Таўцівілу ў 1262 г. уступаць у саюз з Міндоўгам і ўдзельнічаць у паходзе на Лівонію, калі перамога над Ордэнам толькі ўмацоўвала Міндоўгаву ўладу на Літве, якую перад пагрозай крыжацкага нашэсця прызнала і Жамойць? А таму, што гэты паход быў выгадны палачанам, якія спадзяваліся агульнымі сіламі Літвы, Ноўгарада і Полацка разбіць Ордэн і аднавіць свае пазіцыі ў Лівоніі. Як бачым, Таўцівіл з'яўляўся выканаўцам волі полацкага веча, а дакладней — баярства, якое верхаводзіла на вечы.

Што гэта так, сведчаць і падзеі, якія адбываліся пасля Міндоўгавай смерці. На запрашэнне Траняты — удзельніка забойства — прыехаць падзяліць «добыток Миндовгов» Таўцівіл адпраўляецца з полацкімі баярамі. І той факт, што адзін з іх — Пракопій — ведаў аб намеры Таўцівіла забіць Траняту, пацвярджае, што гэта была ініцыятыва полацкіх баяраў: такім чынам яны хацелі пасадзіць на Літве свайго князя, падпарадкаваць Наваградак Полацку. Калі б Таўцівіл быў заваёўнікам, ён не стаў бы акружаць сябе прадстаўнікамі заваяванага боку. Поруч з ім былі б літвінскія баяры. Не стаў бы ён і дзяліцца з палачанамі сваімі задумамі.

Сцвярджэнне, нібыта Таўцівіл сілай зброі стаў полацкім князем, аб літоўскім панаванні ў Полацку беспадстаўнае. Таўцівілаў лёс падобны на лёс другога літвінскага ізгоя — нальшчанскага князя Даўмонта, які таксама быў вымушаны шукаць ратунку ў рускім горадзе і якога псковічы ў палітычных мэтах абралі на свой пасад.

Каб зразумець становішча «літвінскіх заваёўнікаў» у Полацку, давайце зазірнём у тагачасныя дакументы.

Транята адразу пасля забойства Таўцівіла «исковаша» полацкіх баяраў, «просише у полочан сына Тавтивилова убити же», на што не атрымаў дазволу. І Гердзеня (паводле Васкрасенскага летапісу, нашчадка полацкіх князёў), свайго стаўленіка, пасадзіў у Полацку са згоды веча (по «ряду»), перад тым «мир взяша» з палачанамі і вызваліўшы захопленых у палон полацкіх баяраў. Але навязаны сілай князь пратрымаўся ў горадзе не больш як год. А вось сведчанне ўгодчай граматы Полацка з Рыгай. Гердзень заключае мір з Лівоніяй не ад свайго імя, як паўнаўладны гаспадар горада, а ад імя тых, чыю волю ён выконваў: «как мир есмы створили промежи местеря и с ратьманы рижьскыми, и с полочаны и вицьбляны таке». Князь па-ранейшаму валодаў у Полацку толькі выканаўчай уладай, па-ранейшаму выступаў выканаўцам рашэнняў полацкага веча. На што ўказвае і пазнейшая (1338 г.) угодчая грамата вялікага князя Гедыміна з Рыгай: «Дамова заключана са згоды караля Літвы і яго дзяцей, і ўсіх яго баяраў... І са згоды біскупа Полацка, караля і горада Полацка, і караля Віцебска, і горада Віцебска». Як бачым, роля веча не паменшылася і пры «літоўскіх заваёўніках»: па-ранейшаму князі, якія сядзелі ў Полацку, вымушаны былі лічыцца з ім. Гэты дакумент паказвае, што полацкая зямля ўваходзіла ў Вялікае княства Літоўскае і Рускае не як заваяваная, а як самастойная федэратыўная адзінка, што і было пацверджана спецыяльнымі прывілеямі Віцебску і Полацку ў 1503 і 1511 гг., у якіх дэкляраваны свабода веравызнання, назначэнне ваяводы «згодна са старым звычаем, каго захочуць», вызваленне ад мыта і іншыя выгоды.

Усё гэта абвяргае міф аб так званай «літоўскай заваёве» Полаччыны і «літоўскім панаванні» на ёй, які так даспадобы фальсіфікатарам беларускай гісторыі.

Аднак вернемся да князя Таўцівіла. Ён прыняў праваслаўе (насіў імя Феафіл), ажаніўся з дачкой былога князя Брачыслава і тым самым параднiўся з Аляксандрам Неўскім. Чым жа займаўся ён у Полацку? А тым, чым да яго займаліся ўсе полацкія князі: загадваў баявой дружынай, ахоўваў горад ад небяспекі, вадзіў полацкіх вояў у паходы, судзіў вырокі між палачанамі. Крыніцы захавалі нам звесткі толькі пра вайсковую дзейнасць Таўцівіла. Так, пад 1258 г. яны нагадваюць пра паход «литвы с полочаны» на смаленскія землі. Магчыма, гэты паход узначаліў Таўцівіл. У тым жа годзе ён на чале полацкай дружыны разам з наваградскім князем Войшалкам удзельнічае ў вызваленні Наваградка ад галіцка-валынскай залежнасці і распраўляецца з былым сваім саюзнікам князем Раманам Данілавічам. У 1262 г. вядзе полацка-віцебскае войска на Лівонію. Гэта была шырока задуманая вайсковая акцыя аб'яднаных сіл Літвы, Жамойці, Ноўгарада, цверскіх князёў і Полацкай зямлі супраць Ордэна. Дзеля гэтага Міндоўг і Аляксандр Неўскі «мир взяша». Аднак з-за няўзгодненых дзеянняў саюзнікаў паход не прынёс галоўнага выніку — перамогі над крыжакамі. Жамойцкі князь Транята, які палохаўся ўзмацнення Міндоўга, сваімі дзеяннямі вымусіў апошняга не чакаць руска-беларускага войска і адступіць з-пад ордэнскага замка Вендэн (сучасны Цесіс). Саюзнікі, не застаўшы Міндоўга, тым не меней не пакінулі Лівонію, а нечакана падышлі да старажытнага горада Юр'ева (Тарту), дзе ў 1226 г. мужна змагаўся з крыжакамі і загінуў полацкі васал князь Вячка. Аб'яднанае войска разбіла немцаў і захапіла горад, пасля чаго вярнулася дадому. А ў 1263 г. Траняту рукамі нальшчанскага князя Даўмонта ўдалося расправіцца з Міндоўгам і захапіць уладу на Літве і Жамойці. Новы ўладар разумеў сваё хісткае становішча ў акружэнні варожых сабе Войшалка і Таўцівіла: сілы, якія стаялі за іх спінамі, хацелі падначаліць Літву сабе. Таму і вырашыў ён расправіцца з наваградскім і полацкім князем. Да Таўцівіла, якога лічыў галоўнай сваёй пагрозай (што ўказвае на моц Полаччыны), прысылае запрашэнне дзяліць «землю и добыток Миндовгов». Не, полацкія баяры ведалі мэты Траняты, таму не дзяліць «добыток Миндогов» адпраўляліся яны, а пакончыць з літвінскім уладаром і далучыць Літву да Полаччыны. І гэта павінен быў зрабіць Таўцівіл з полацкаю дружынаю. Можна толькі гадаць, чаму баярын Пракопій выдаў задумы палачан Траняту. І Транята не стаў марудзіць. «Попередив» Таўцівіла, ён забіў свайго супрацўніка.



## кола знаёмстваў

**Мне 19 гадоў. Жыву ў раённым гарадку, працую цырульнікам. Была замужам, але сумеснае жыццё не склалася. Хацелася б сустрэць такога чалавека, з якім можна было б звязаць свой лёс.**
**Мой адрас: 222660, г. Стаўбцы-2, 30/27, ЗАЛІВАКА Алене.**

**Мне 35 гадоў. Па прафесіі я мастак. Працую ў кааператыве. Жыву ва ўласным прыватным доме. Хацеў бы перапісвацца са шчырай і простай дзяўчынаю.**
**Мой адрас: 258900, г. Умань, а/с 30, ШАЎЧЭНКА Юрыю.**

**З дапамогаю часопіса хацелася б пашырыць кола знаёмых, якія цікавяцца ваеннай гісторыяй, гісторыяй другой сусветнай вайны. Калекцыяніpую. Магу дапамагчы ў знаёмстве з калекцыянерамі розных накірункаў. Для гэтага неабходна ўказаць у лісце свой узрост, захапленне і ўкласці канверт са зваротным адрасам.**
**Мой адрас: 334242, Крымская вобл., Сімеіз, Да запатрабавання, НІКІШЫНУ Алегу.**

**Мы — самадзейная музычная група. Спрабуем пісаць сваю музыку. Кажуць, нічога. Толькі вось наконт вершаў цяжкавата. Таму звяртаемся да ўсіх, хто піша вершы. Узрост аўтараў не мае значэння. Пішыце, прапануйце! З нецярпеннем чакаем вашых лістоў.**
**Пішыце па адрасе: 220094, г. Мінск, працп. Ракасоўскага, д. 77, кв. 343, Дзмітрыю ТУМІЛОВІЧУ.**

**Хацелася б пазнаёміцца з дзяўчынай (жанчынай), якая любіла б дзяцей і магла замяніць маёй чатырохгадовай дачцэ Віялеце маці. Мне 26 гадоў. Працую старшым інжынерам у канструктарскім бюро. Быў жанаты. Маю добрую кватэру, машыну.**
**Мой адрас: 222120, Мінская вобл., г. Барысаў, вул. Чапаева, д. 40, кв. 62. ЧЫЧЫНУ Валерыю.**

**Працую ў рэспубліканскім Доме мадэляў трыкатажных вырабаў. Работа мая цікавая. У калектыве мяне паважаюць за працавітасць і добры характар. Але вось у асабістым жыцці мне адзінока, можа быць таму, што ў 18 год асабліва неабходна адчуваць сябе любімай. Цаню ў людзях добразычлівасць і шчырасць. Хачу пазнаёміцца з добрым, надзейным чалавекам.**

**ВОЛЬГА Б.**

**Мне 22 гады. Працую ў трамвайна-тралейбусным упраўленні г. Мінска. У вольны час люблю наведваць тэатры, выставы, слухаць музыку. Галоўнае маё захапленне — радыётэхніка. Вельмі хацелася б пазнаёміцца з дзяўчынаю 18—22 гадоў. Веру, што хто-небудзь адгукнецца на мой ліст.**

**ІГАР У.**

**Мне 21 год, рост 185 см, сімпатычны. Характар спакойны, ураўнаважаны. Працую на заводзе «Дыяпраектар» наладчыкам станкоў з ЧПК, зарплата 230 руб. У бліжэйшы час буду забяспечаны жыллём. Захапляюся атлетызмам. Ёсць неблагія вынікі. Шкодных звычак не маю. Люблю дзяцей. Буду добрым мужам і бацькам.**

**СЯРГЕЙ К.**

**Мне 26 гадоў. Адукацыя вышэйшая.**
**Аднастайнасць у жыцці прымушае пра многае задумацца. Мінулае стараюся не ўспамінаць, а цяперашняе праходзіць па адным маршруце: дом, садок, школа. Вось ужо два гады як пайшла ад мужа, здымаю з дачкою пакой. Ёсць сябры, сяброўкі, але з незамужнімі сяброўкамі мне цяжка часта сустракацца, а ў коле сямейных пачуваю сябе непаўнацэннай. Дзень пры дні страчваю ўпэўненасць у сабе, баюся канчаткова замкнуцца. Стамілася быць моцнай, хочацца быць слабай, проста жанчынаю.**

**ГАЛІНА Ш.**







**Яны ніколі не чулі звону ляснога ручая, урачыстых грымотаў вясновай навальніцы. Яны не ведаюць, як гучыць матчын голас...**

**Ці мажліва дапамагчы гэтым дзецям, ці мажліва вярнуць ім слых — унікальны колер жыцця! У Мінскай школе-інтэрнаце № 13 гэтым займаюцца ўрачы і настаўнікі. Ім дапамагаюць сучаснае абсталяванне і дасканала распрацаваная методыка. Але, галоўнае, вядома,— чуласць, міласэрнасць, клопат.**

**Фота Цімура ГРЫБА**






Ніна ГАЛІНОВА

# дома ў Анны ГЕРМАН

**Перш за ўсё, прыехаўшы ў Варшаву, я патэлефанавала ў адрасны стол, і ветлівая тэлефаністка абяцала мне дапамагчы адшукаць пана Збігнева Тухольскага — мужа Анны Герман, бо я хацела перадаць яму альбом «Анна Герман», які з'явіўся ў нас у продажы літаральна напярэдадні нашай турыстычнай паездкі выхаднога дня ў ПНР. І ўжо праз 5 хвілін мне патэлефанаваў пан Тухольскі. Дамовіліся аб сустрэчы. Дакладна ў назначаны час прыехалі Збышкі — сын і бацька. Абодва высокія, ветліва, сарамліва ўсміхнуліся. Сыну споўнілася 14 гадоў, але гэта толькі па твары можна здагадацца — у хлопца гвардзейскі рост і размах плячэй. Збышак-малодшы вучыцца ў сёмым класе, паспяхова вывучае рускую мову, любіць гісторыю, бясконца чытае гістарычную літаратуру. Тухольскія былі вельмі ўдзячныя за альбом, за тое, што ў нас любяць і памятаюць Анну Герман і запрасілі мяне паехаць да пані Ірмы — маці Анны, да якой яны ехалі ў госці. Але ў гэты дзень з-за дэфіцыту часу і праграмы нашай паездкі прыйшлося перанесці сустрэчу з пані Ірмаю назаўтра. Увечары яна мне патэлефанавала і запрасіла да сябе.**

**Гэтая цёплая сустрэча застанецца ў маім сэрцы назаўжды. Праз некалькі хвілін знаёмства мне здавалася, што я ведаю гэтую жанчыну вельмі даўно, як старога сябра. Мудрасць і дабрыню выпраменьвалі яе вочы. І яшчэ няспынны смутак. Фатаграфіі Анны былі ўсюды — і ў рамках, і не ў рамках, і амаль на ўсіх фатаграфіях яна весела ці сумна ўсміхалася.**

**— Без фатаграфій, без пласцінак з яе песнямі жыццё для мяне не мае сэнсу,— кажа пані Ірма.— У бяссонныя ночы я заўсёды стаўлю пласцінку і слухаю, слухаю, як спявае мая дачушка...**

**Пані Ірме вельмі хацелася прыехаць да нас у Саюз, пабываць у Сярэдняй Азіі, дзе прайшлі цяжкія гады яе маладосці, на Каўказе, дзе яна нарадзілася, пабываць у нас, на Беларусі, толькі б здароўе не падвяло. А здароўе ўжо няважнае. Вельмі шмат прыйшлося перажыць гэтай мужнай, працалюбівай жанчыне і ў гады рэпрэсій, і ў гады Вялікай Айчыннай вайны, і ў пасляваенны час, але гэта не зламала яе дух, не зрабіла чэрствай: з ёй былі яе дачка і маці, для якіх яна была надзеяй і апораю.**

**Пані Ірма нарадзілася і выхоўвалася ў Савецкім Саюзе. У 1933 годзе скончыла Адэскі універсітэт. У Польшчы пані Ірма жыве з 1946 года — гэта радзіма яе мужа — яе другая радзіма. За сваю плённую працу выкладчыка ў Польшчы пані Ірма ўзнагароджана «Залатым Крыжом». Цяпер яна на заслужаным адпачынку. Зяць і ўнук наведваюць яе, дапамагаюць.**

**Пані Ірма вельмі любіць паэзію, таму і дачка яе Анна любіла лірычныя песні, якія і дагэтуль жывуць у сэрцах мільёнаў прыхільнікаў яе таленту.**

**Я падаравала пані Ірме некалькі радкоў, якія напісала ў час экскурсіі па Варшаве:**

**Пани Анна!**
**Пусть неравный стих,**
**стиль шершавый,**
**Но сейчас я здесь —**
**в Варшаве.**
**Где была, где жила**
**пани Анна**
**Та, чья песня жива**
**постоянно.**
**И звучит ее голос**
**чудесный.**

**Так дзякуючы песні, дакладней, яе выканаўцу, душэўнаму, мужнаму чалавеку, яе родныя сталі блізкімі мне людзьмі. Хочацца, каб усё ў іх было добра.**





Уладзіслаў АХРОМЕНКА

# рок-н-рол памёр — няхай жыве рок-н-рол!

**Роздум пасля VII-га фестывалю ленінградскага рок-клубу**



Барыс ГРАБЕНШЧЫКОЎ

Фота Наташы ВАСІЛЬЕВАЙ (Ленінград)

## 1. «КАМЯНІ» САНКТ-ПЕЦЯРБУРГА.

Была калісь на «гнілым і дзікім» Захадзе адмысловая каманда — «Ролінг Стоўнз», што азначае «Камяні, якія коцяцца». Галоўны «камень» — Мік Джагер — цынічны паўп'яны, спачатку хлопец, потым дзядзька, злосны крытык усяго і ўсіх наўкол, стаў воляю лёсу ў канцы 60-х — пачатку 70-х адным з сімвалаў маладзёжнага пратэсту — разам з «фры лав», марыхуанаю, дзэнаўскімі медытацыямі, камунамі хіпі, маркузіянствам і лозунгамі накшталт «Рэвалюцыю — неадкладна!». З дзікім грукатам каталіся «стоўнзы» (а разам з імі «Бітлз», «Дорз», «Ярдбёрдз», «Ху» і многія іншыя) па гарадах Еўропы і Амерыкі, шакіруючы прыхільнікаў закасцянелых асноў. На пачатку 70-х, праўда, усе яны запаволілі свой бег, а многія дык і зусім зніклі, патануўшы ў мутным балоце камерцыі.

«Ролінгі» сталі эпахальнай з'явою ў еўрапейскай культуры, як адзін з найярчэйшых прыкладаў сінтэзу сацыяльнага пачатку і музыкі. У сваёй першай якасці «Ролінг Стоўнз» уяўляе сабою «пратэст» у зусім небывалай дагэтуль форме, у другой — чысты, цнатлівы рок.

«Камяні» нарабілі сваім з'яўленнем у Еўропе шмат гвалту, і ў канцы шасцідзесятых гвалт гэты стаў чутны і ў Пітэры — горадзе не тое каб заходнім, аднак і не зусім рускім. Увогуле Пецярбург — Петраград — Ленінград ва ўсе часы адлюстроўваў і трансфармаваў ідэі, якія прыходзілі з-за мяжы, быў своеасаблівым люстраным домам, дзе «один с изумлением смотрит на Запад, а другой — с восторгом глядит на Восток», толькі вось у доме гэтым — «все зеркала — из глины»...

Дык вось, грукат «камянёў» дасягнуў люстраное паверхні Нявы, і тут — пачалося...

Спярша з'явіліся «Фламінга», «Арганаўты» (не блытаць з кісялёўскім «Санкт-Пецярбургам-2»), «Міфы», «Зямляне» (не блытаць з мяснікоўскімі), «Задыяк» і многія іншыя. Першыя айчынныя рок-н-рольшчыкі насілі доўгія валасы, падраныя джынсовыя рызманы (Хіпі! Пратэст! Свабода!), курылі «Беламор» фабрыкі імя Урыцкага і больш-менш жахліва «здымалі» «Бітлз», «Ролінг Стоўнз», «Лэд Зэпелін» і «Дорз».

Так пачынаўся урбаністычны фальклор нашага тэхнакратычнага часу. Паступова з'ява пашыралася ў аб'ёме, трансфармавалася на іншых узроўнях, і, дасягнуўшы крытычнае масы, згодна з законамі марксісцка-ленінскай дыялектыкі, перайшла з колькаснага паказчыка ў якасны. На пачатку 80-х у горадзе з'явілася каля шасцідзесяці непадобных адзін на адзін гуртоў, з якіх вылучаліся «Расіяне» на чале з Георгіем Арданоўскім, якога ўжо няма ў жывых, «Дзіўныя гульні» з Аляксандрам Давыдавым, якога таксама няма цяпер з намі, «Заапарк» з Майкам Навуменкам, які адышоў у цень, і «Тэрарыум» са знакамітым сёння Бобам Грабеншчыковым.

Пасля доўгіх і працяглых канфліктаў з усімі інстанцыямі, якія лічылі з'яўленне рок-музыкі ў горадзе на Няве палітычнай памылкаю,— ад артадоксаў з аддзелаў культуры да прыбіральшчыц грамадскіх туалетаў, якія саскрэбвалі па вечарах са сцен імёны буржуазнамоўных ідалаў,— рок-н-рольшчыкі змаглі ўсё ж такі аб'яднацца і стварылі сваю першую афіцыйную тусоўку — Ленінградскі рок-клуб. Адбылася гэтая гістарычная падзея 7 сакавіка далёкага застойнага 1981 года, у Тэатры народнай творчасці, што на Рубінштэйна, 13. Менавіта там працягваўся працэс і менавіта адтуль пачалася «гліняна-люстраная» рэтрансляцыя ўсяе з'явы, але ўжо — «па ўсёй Русі вялікай».

З 1983 года рок-клуб пачаў праводзіць уласныя фестывалі, якія называліся тады сціпла — «аглядамі». У розны час там выступалі «Лінолеум», «Заапарк», «Тэлевізар», «ДДТ», «Аб'ект насмешак», «Аліса», «Кіно», «Джунглі» і іншыя.

Далей — як пісалася ў цітрах старых кінастужак — «прайшлі гады...» Былыя лідэры «альтэрнатыўнае культуры» падняліся ў цане, і, зразумеўшы, што андэграўнд сёння стаў больш выгадны, чым некалі небяспечны, накіравалі свой музычны пратэст супраць змрочных сіл таталітарнае мінуўшчыны на службу Мамоне. Прадпрымальныя дзялкі ад кінематографа, хутка ўцяміўшы задачы дня сённяшняга, пагналі нудную «попсу», якая наводзіла пачуццё татальнага жаху,— «Узломшчык», «Аса», «Іголка» і іншае (абывацель дзе-небудзь ва Ўрупінску ці Кондраве паглядзіць такія стужкі, а потым і зусім вырашыць, што гэта — «рок»). У рок-клубе пачалося расслаенне: «зоркі» пакінулі яго і разбегліся па кааператыўных канторах — «Майк» і «Заапарк» існуюць пры Ленінградскім Тэатры Эстрады, Шаўчук паспяхова сумяшчае цяжкую барацьбу — адзін на адзін — з зялёным змеем і працу ў МЦ «Купчына», БГ (Боб Грабеншчыкоў) катаецца па Штатах, дзе рэкламуе свой новы дыск, а ў перапынках п'е віскі з Ігі Попам і Дэвідам Боўі. Менш вядомыя — «Нуль», «Аб'ект насмешак», «Рок-штат» — жывуць, праўда, больш сціпла.

Змяніўся і сам рок-клуб. Сёння гэтая самавітая гасразліковая кантора з уласнай гербавай пячаткаю, рахункам у Дзяржбанку і рок-дзялком Н. Міхайлавым на чале, больш нагадвае музычны трэст, чым былую рамантычную суполку беспрытульных музыкаў-бессярэбрэнікаў. Што ж, часы класічнага андэграўнду скончыліся — былыя хіпі 60-х носяць цяпер касцюмы-тройкі, шыюць у кааператывах «мармуркі» і возяць дзяцей у школу на ўласных «Жыгулях». А рэдактары маладзёжных выданняў, былыя непахісныя роканенавіснікі, друкуюць на сваіх старонках тэксты Башлачова і Кармільцава.

## II. «ЯНЫ ПЛЫЛІ ПА ЦЯЧЭННІ, ЯНО ІХ ПРЫНЕСЛА...»

Я не ўбачыў на гэтым фестывалі цвіцення калісь апазіцыйнага рок-андэ-

граўнду. Я заспеў адно ягоныя рэшткі, якія выкалікалі пачуццё вострае шкадобы, як выгляд расціснутай машынаю кошкі.

Рок-клуб, які даслаў мне запрашэнне, не пасаромеўся, аднак, садраць з мяне 28 рублёў за права прысутнасці на фестывалі і яго асвятленне ў прэсе — факт досыць красамоўны. Яшчэ больш засмуціў выгляд рок-клубаўскага фае — спецыяльная рок-сімволіка, значкі з «Рок-штатам», майкі з «ДДТ», плакаты «Акварыума», «Алісы», «Кіно» — і ўсё па цэнах кааператараў з роднай мінскай Камароўкі. Тыя ж каапературы з імпэтам гандлявалі і закускаю (рок-клуб, здаецца, і існуе сёння адно дзеля таго, каб у ягоных сценах прадавалі майкі па 15 рублёў і бутэрброды па 60 капеек). Не, не ў грошах справа, а ў самым падыходзе да ідэі: любая камерцыялізацыя непазбежна вядзе мастацтва ў тупік. Адна справа — іграць музыку, каб зарабляць грошы, і зусім іншая — мець пражытачны мінімум, неабходны, каб займацца музыкаю. Згадайце гогалеўскага Чарткова!

Я доўга хадзіў паміж сталоў з глянцавымі рок-героямі і паўтараў сам сабе словы з «бэгэўскага» хіту пачатку 80-х: «В этом городе должен быть кто-то живой...», бо меў сякія-такія ілюзіі наконт блізкага фестывалю...

— Эксперименту — 70 лет! — гаркнуў лідэр «Выпадковае кампаніі», паправіў на шыі бутафорскую пятлю, якая сімвалізавала ці то сутнасць, ці то вынік эксперыменту, і павярнуўся да гітарыста. Той, уздыхнуўшы, сутаргава ўчапіўся ў драйв, і «ВК» пакаціла свой жудасны «хард» — у пітэрскім выкананні ён выглядаў адным з варыянтаў «піўнога року». Публіка, выхаваная на кнігах Рыбакова і часопісе «Огонек», «уехала» ўмомант — з залы раз-пораз крычалі: «А пра Сталіна будзе? А пра Лёню?»

Панкушы з «Літары «О» амаль не адрозніваліся ад «ВК» ні манераю падачы, ні музычнай моваю (хіба што наяўнасцю ў складзе балалаечніка), ні тэкстамі. Я даслухоўваў іх, седзячы ў буфеце.

Наступныя на сцэну вылезлі рэвалюцыянеры з «Дыктатуры» — у чырвоных кашулях з закасанымі рукавамі. Сцэнічнае аблічча, відаць, было з'арыетавана на Малюту Скуратава — першага рускага тэрарыста «ў законе» эпохі дыктатуры Івана Грознага. Гук быў такі мярзотны, што народ на вытрымаў і ціха пацягнуўся ў фае — есці каапэратыўныя прысмакі і глядзець па бясплатным «відзіку» «Лэд Зэпелін» і «Токін Хэдз». Мне было цікава — «а што ж будзе далей?» — і я застаўся. А далей было вось што: вакаліст «дыктатараў» Цімафееў карцінна адставіў руку і зароў ва ўсю сваю рэвалюцыйную глотку:

Ну что говорить об этом,
Коль все у нас хреново,
Когда у нас нечаво жрать!

(Асартымент буфета, зрэшты, пераконваў у адваротным.)

— Божа, зноў пра каўбасу! — прастагнаў мой сусед Саша Старцаў, рэдактар самвыдатаўскага часопіса «Роксі», і пайшоў на выхад. Я рушыў за ім з мэтаю высветліць — што ён пра ўсё гэта думае.

— Цемразь! — адказаў падпольны рэдактар.— Піцерскі рок-клуб, безумоўна, знаходзіцца сёння ў глыбокім творчым крызісе — амаль ні ў кога няма свежых ідэй (за вылікамі хіба што «Нуля» і «Аб'екта насмешак»), амаль ніхто не можа ці не хоча выйсці з наезджанай каляіны — ні ў тэкстах, ні ў музыцы.

Праслухаўшы ў наступныя дні амаль усе фестывальныя праграмы, я пераканаўся ў справядлівасці слоў рок-клубаўскага летапісца: групы чаргаваліся на сцэне з механічнай паслядоўнасцю і гучалі нуднааднастайна. Часам мне здавалася, што выступае толькі адна каманда, якую кожны раз аб'яўляюць пад рознымі імёнамі. Металічны «Фронт» у гучанні мала чым адрозніваўся ад хардаўскага «Прэм'ера». «Прэм'ер» быў амаль ідэнтычны панкерам з «Токіо» і «Пятлі Несцерава», і тыя, і другія гучалі амаль гэтаксама ж, як «НЭП», які, у сваю чаргу, быў падобны на «Павуцінне». Запомніўся, бадай толькі «Рок-штат» — цудоўным вакалам Ігара Сямёнава і пісьменным, тэхнічным хардрокам.

Я яшчэ больш засумаваў і зноў рушыў у буфет, дзе заспеў Валодзю Рэкшана — былога вакаліста «Санкт-Пецярбурга-1», аўтара вядомай аповесці «Кайф», і яшчэ — члена Саюза пісьменнікаў СССР. Ветэран пітэрскіх «камянёў» першага склікання прыхварэў, і мне ўдалося выцягнуць з яго мінімум інфармацыі:

— Чаму так пагана, пытаешся? Рокмэны не ведаюць, што рабіць са свабодаю, якая невядома адкуль звалілася,— пець сёння можна практычна пра ўсё, і гэтым ужо нікога не здзівіш. Кажаш, думаць трэба не пра сацыяльную «круцізну», а пра ўласна музычныя каштоўнасці? Згодны цалкам. Думаю, што рана ці позна гэта зразумеюць усе. А потым, хочам мы ці не, але народ аб'еўся рокам, аб'еўся блага арганізаванымі канцэртамі першакласных груп і добра арганізаванымі — пасрэдных, аб'еўся перыёдыкай, попсавым кінематографам і калярокавай попсай, тыпу «Санкт-Пецярбург-2». Дарэчы, напішы, што я не маю да яго ніякага дачынення. А цяпер у рок-спажыўцоў адбілі слых.

Рэкшан пайшоў «адцягвацца» далей, я ж вярнуўся ў залу, дзе выступалі «Оле-Лукойе» — лепшая, бадай, фестывальная група. Кампазіцыі «О-Л» выгадна адрозніваліся ад усіх, якія я чуў тут, перш за ўсё гукавай культураю і выразнай логікаю. Музыка групы — чыста інструментальны рок, які нагадваў мне адначасна «Кінг Крымсан» эпохі «Рэда» і «Лэд Зэпелін» сярэдзіны 70-х. Музыканты, якія медытавалі на сцэне пад астральнымі знакамі, выкананымі на палатне, былі сапраўды музыкантамі, а не «адцягнутымі» хлопцамі з пад'езда, якія брэнькаюць на «швайках» свае доўгія і безнадзейныя песні. На жаль, шырокія народныя масы горада на Няве такую музыку не разумеюць.

Выступленне панкаў з «Благога ўплыву» ледзь не загубіў Доктар Кінчаў. Пасля другой песні «БУ» па зале прайшла пагалоска — «Косця ў фае!» — і публіка пасунулася туды. Кінчаў, прыціснуты да сцяны сваімі ж фанамі, раздаваў з асуджаным выглядам аўтографы. Дзяўчынка побач са мною, атрымаўшы роспіс самога Доктара, разгублена ўшчыкнула сябе за падбароддзе — «няўжо не сон?». Аўтографаманы валілі са страшнай сілаю — я ўжо пачаў было баяцца, што ўлюбёнца натоўпу могуць раздушыць — што ж тады рабіць каапэратарам, якія рэалізуюць «алісаўскія» плакаты па чатыры рублі? Аднак усё закончылася без эксцэсаў.

Запомніліся мне і дзве «секс-рокавыя» (ёсць і такія) каманды — «Час кахаць» і «Наце!».

Вакаліст «Часу кахаць» Міхаіл Бернікаў паставіў залу «на вушы» дзвюма кампазіцыямі: «Бесполезно жабу рвать!»



«Аукцыён»



Канстанцін Кінчаў



Ягор ЛЕТАЎ. «Грамадзянская абарона»

Фота Алега ЗОТАВА (Ленінград)





Вячаслаў ЗАДЗЕРЫЙ. «Наце»



Ігар СЯМЕНАЎ. «Рок-штат»



«Пятля Несцерава»

(пра марнасць і хуткаплыннасць чалавечага быцця) і «Крошкаю Цахес» (пра гіперсексуальнага падлетка, «зацыкленага» на ананізме). У стылёвым плане музыка больш традыцыйная — стары рытм-эндблюз.

Заснавальнік «Алісы» Слава Задзерый, які адкрыў у 1986 годзе гасразліковую (у стылі часу) брыгаду пад футурыстычнай шыльдаю «Наце!», выступаў у рамках уласнае жыццёвае канцэпцыі «Гэта павінен ведаць і ўмець кожны!», у якой першым нумарам стаіць барацьба з сексуальнай заняволенасцю задзерыеўскага пакалення. Секс-прарок, заклікаючы-зававбліваючы, рухаў сцёгнамі і веставаў у залу: «Не бойся...» У публікі, здзіўленай прынцыпова новым падыходам да вечнае тэмы ўзаемаадносін мужчын і жанчын, сківіцы паадвісалі.

Ужо на «Час кахаць» у апошнія рады панабіваліся панкі — усе ў дэрмацінавых куртках, з грабеньчыкамі на нямытых галовах і з унітазнымі ланцугамі цераз плячо. Яны нясмела тузалі адно аднаго, аднак са з'яўленнем у зале міліцыі ўцяклі ў рок-клубаўскі туалет, дзе вар'яцелі колькі хацелі.

У апошні дзень фестывалю выступілі «Брыльянты ад Некермэна», «Аркестр А», «Духі», «Трыліснік», «Аліса» і «Аукцыён». Пра першыя дзве групы я ўвогуле не буду пісаць, бо іхнія назвы нашмат больш арыгінальныя, чым музыка, якую яны выконваюць.

Пост-панкаўскія «Духі», якія выконваюць на саксе неаўтэнтычны фальклор (відаць, менавіта з гэтае прычыны яны залічылі сябе ў прадстаўнікі «рускага нацыянальнага року»), прафаніравалі, як на маю думку, само паняцце «нацыянальнага» ў мастацтве, паняцце, аб паўсюдным забыванні якога гэтак меланхалічна ўздыхаюць Ю. Бондараў і В. Распуцін. А механічнае зняцце з «Хрестоматии русского народного творчества» фальклорных матываў — яшчэ не нацыянальная музыка. Сувязь не абавязкова бывае непасрэдная — я параіў бы «Духам» паслухаць нашую «Мрою»... Гадоў дзевяноста таму Аляксандр Мікалаевіч Скрабін запісаў у сваім дзённіку: «Няўжо мяне не лічаць рускім кампазітарам толькі таму, што я не пішу квартэты на народныя тэмы?» А Скрабін жа, якога «не лічылі», нашмат больш рускі музыкант, чым «Духі», якія сябе «лічаць».

«Трыліснік», які вырас на сцэне ўслед за «Духамі», слухаць дужа забаўна — складзены ён напалову з «акварыумістаў» апошніх прызываў. Пакуль БГ у ЗША, «Дзюша» (А. Раманаў), «Фан» (М. Васільеў) і «Майкл» (М. Кардзюкоў) вырашылі «адцягнуцца» на акустычных праграмках, згадаўшы «нефармальнае сваё юнацтва». Што ж, калі бацькі па вечарах пакідаюць дзяцей адных у кватэры, тыя гуляюць «у дарослых»... «Трыліснік» пайшоў «на ура», хоць ні стылем, ні тэкстамі ад «Акварыума» не адрозніваўся.

Прагрукатала сваім «таталітарным рэпам» зусім ужо «апапселая» «Аліса», трохі развесяліў народ «Аукцыён» — шоу і праўда першакласнае, калі глядзець яго па «відзіку» і на мінімальнай гучнасці.

Фестываль закончыўся. Публіка з пакупнымі выявамі сваіх ідалаў разыходзіцца па дамах. Фанатыкі, засеўшы з «Беламорам» на камунальных кухнях, доўга спрачаліся, «хто круцейшы» — «НЭП» ці «Лэд Зэпелін». Дворнікі вуліцы Рубінштэйна, праклінаючы айчынны рок і галоснасць з усімі яе свабодамі, змяталі з маставой груды парваных білетаў, абрыўкаў





праграмак і акуркі. Міліцыя, з палёгкаю ўздыхнуўшы, зняла з рок-клуба баявое ачапленне.

Я ж, вызваніўшы Федзю Чысцякова з «Нуля», спрабаваў даведацца, што ён думае пра сучасны піцерскі рок-н-рол.

— Разумееш,— сказаў мне «дзядзька Фёдар»,— музыкантам у кайф іграць у добрых залах, на першакласнай апаратуры і за добрыя грошы. Не ў кайф — у гнусных залах, на гнуснай апаратуры і за «дзякуй».

— Але ж рок ператвараецца ў адгалінаванне шоу-бізнеса, таму і губляе і ва ўласна мастацкім, і нават у сацыяльным аспекце! — паспрабаваў спрачацца я.

— Згодны, але з другога боку, кожны плаціць групе тыя грошы, якія гэтая група каштуе,— адрэзаў Федзя.

Вядома, «інвалід нулёвай групы» Ф. Чысцякоў па-свойму мае рацыю. Але вось ніяк не выходзіць з галавы гогалеўскі Чарткоў, што прадаў талент за рублі.

І, перш чым закончыць свае фестывальныя разважанні, рызыкну выказаць крамольную думку: для прагрэсу ў любым мастацтве неабходна афіцыйнае процістаянне гэтаму мастацтву нечага руціннага і тупога — дзяржапарату, бюракратыі, «афіцыйнай прыдворнай культуры» ці чаго-небудзь іншага. Так было ў СССР у пачатку — сярэдзіне 80-х — і ў нас з'явілася сузор'е — «Акварыум», «ДДТ», «Кіно», «Заапарк», «Гукі Му»... А хто з'явіўся цяпер? «Дыктатура» і «Духі»? Смешна.

Так што дзякуй «Нашему современнику», «Молодой гвардии» и «Политическому собеседнику», дзякуй Б. Гунько, М. Дунаеву і В. Краўцову! Яны падтрымліваюць мае надзеі на тое, што некамерцыйны рок калі-небудзь адродзіцца ў нашай краіне.

Не выключана, што мы паўторым заходнюю схему, дзе пасля творчага застою «камянёў» эпохі 60-х з'явіўся панк-рок 70-х. А пакуль — РОК-Н-РОЛ ПАМЁР — НЯХАЙ ЖЫВЕ РОК-Н-РОЛ!

# нататкі аб творчасці Тодара КОПШЫ





Мы пачалі каяцца ва ўласных грахах. Фіяска «суслаўскай» антырокавай і антыавангарднай палітыкі спарадзіла ўзлёт і року, і ўвогуле авангарду ў мастацтве. У тым ліку і беларускага. І, назіраючы сёння, як у адчыненыя шлюзы хлынулі і авангардысты-наватары, тыя, хто хвосткія пластычныя цытаты выдае за наваццыі, ці ставім мы пытанне, а хто быў першы?

Прынцып «альбо — альбо», ці авангард, ці класічна-акадэмічнае мастацтва, які меў у аснове сваёй не толькі адміністратыўны шал, але і масавую нецалерантнасць, і аддаваў прэрагатыву акадэмізму, загнаў цэлую плеяду мастакоў ва ўнутраную эміграцыю. І выйсце з яе, неабходнае і ім, і нам,— складана знайсці абодвум бакам. Мы — масавая аўдыторыя — не прызвычаіліся да дыялогу з імі. У іх зазвычай таксама няма такога ўмення. Тут нават горш: шматгадовы прэсінг не мог не выклікаць у адказ і балявыя рэакцыі, і ўстаноўку на «незразумеласць».

Тодар Копша, ці «дзядзька Тодар» — адзін з іх, жывая гісторыя эвалюцыі «тутэйшага» авангарду, пачынаючы з часоў хрушчоўскае «адлігі». Бліжэйшы паплечнік і сябра Віктара Паўлоўскага, які жыве цяпер у Парыжы, Тодар Копша сёння, напэўна, апошні з тагачаснага беларускага авангарду. Хто яшчэ, пачаўшы тады, у атмасферы пад'ёму і натхнення, пранёс «свой крыж», не здрадзіўшы ні сабе, ні сваім прынцыпам?

У атмасферы мастацкага жыцця, якая хілілася да сну і парушалася адно ўсплёскамі сваркі вакол дзяльбы пірага ці скандальным выкрыццём іншадумцы, ён напружана працаваў, штодня пераадольваючы абразлівую пабытовую неўладкаванасць і пастаянную галечу. На нашых занудных выставах таго часу, якія дэманстравалі свету ўсю ўбогасць мыслення і пошуку, адны «шэдэўры», якія эпічна ўвасаблялі ўручэнне таварышам Брэжневым ордэна чарговаму падлізніку, змяняліся іншымі. Ягоныя равеснікі дамагаліся месца ў грамадстве, рабіліся прадажнымі канфармістамі, іншыя, як Паўлоўскі, пакідалі Радзіму.

Тодар застаўся такі, які быў. Ён ніколі не прымаў цынічнага стаўлення да мастацтва як да сродку росту дабрабыту. Тым больш немагчыма ўявіць сябе, каб ён прыстасоўваў сваё майстэрства да аднадзённых патрэб грамадскае кан'юнктуры. Чысціня ягоных намераў і ўчынкаў нібыта пастаянны дакор тым, хто працуе па прынцыпе «чаго жадаеце?» У ягоных работах сінтэз ідэальна-узвышанага і рэальна-пабытовага атрымлівае ўскладненае «змястоўна-насычанае» тлумачэнне, захоўваючы рацыянальна выбудаваную, але досыць паэтычную і пластычную структуру. Можна папракнуць такую вобразную сістэму ў пэўнай эстэтычнай умоўнасці, але нельга адмовіць ёй у праграмнай закончанасці і пераканаўчасці пластычнага ўвасаблення. Дыяпазон ягоных пошукаў шырокі. Дзе б ён ні працаваў — у галіне калажу, поп-арту, абстракцыянізму, метафізічнага жывапісу ці оп-арту,— ён усюды знаходзіць амаль што абсалютныя спалучэнні колераў і формаў, надзяляючы іх адносінамі, у якіх кожная асобная частка існуе нібыта дзеля таго, каб падкрэсліць элегантнасць астатняга. І нічога ад тае псеўдапрыгажосці, у якой заўсёды адчувальны элемент рабства — няхай гэта будзе залежнасць мастака ад капіравання прыроды, ад моды ці рэпрадукцый, ад задавальнення наіўных уяўленняў аб раскошы ці прагрэсе. Пастаянны напружлівы пошук новых ідэй, новых выяўленчых сродкаў — у гэтым увесь Копша. Бадай, ён «чэмпіён» Мінска па кватэрных выставах, на якія прыходзілі ягоныя сябры, беларускія пісьменнікі і мастакі. А нядаўна мастацкі салон «Вернісаж» ДК прафсаюзаў запрасіў аматараў авангарду на ягоную першую афіцыйную экспазіцыю. Больш за чвэрць стагоддзя ў мастацтве, а ўжо «персаналка»! Фантастыка. Вось што значыць перабудова. І больш за ўсіх астатніх здзіўлены сам аўтар. Тым, хто трапіў на гэтую выставу, здавалася, што пагружаешся ў нейкі незвычайны свет, пабудаваны на складаных кантрастах руху і статыкі, эпічнасці і вострага драматызму. Асабліва ўражвалі ягоныя калажы. Менавіта ў гэтай, нетрадыцыйнай для нас тэхніцы, з'ядноўвае ён аналітычны, адчужаны погляд даследчыка і нястрымную чулівасць творцы. Кожная работа, асабліва ў спалучэнні з назваю, выклікае бясконцае мноства асацыяцый і алегорый. Цалкам пабудаваныя на тонкіх адценнях, на гармоніі велічынь, на мудрагелістай гульні то матавай, то бліскучай паверхні карціны, многія ягоныя творы (а ў яго іх сотні) зусім непадуладныя рэпрадукцыіраванню і ўспрымаюцца толькі ў кантэксце з астатнімі работамі на выставе.

Вядома, мастацтва развіваецца супярэчліва. І калі няма барацьбы і суперніцтва плыняў, стыляў, індывідуальнасцей, настае застой — той добра вядомы перыяд нашага мастацтва, які шмат гадоў уштукоўваў мастака ў стан бясплённага анабіёзу. Думаю, што для нашага мастацкага клімату і часу, у якім мы жывём, усё больш уласцівыя шматстайнасць і шматаблічча, сума яркіх індывідуальнасцей, такіх, як Тодар Копша, а не рознасць пасрэднасцей.

**Алесь ТАРАНОВІЧ**











Віта РАМАНЕНКА

# «рок-дыялог-89»

На гала-канцэрце на сцэну выйшаў старшыня журы і сказаў, што сёлеташні фестываль у Магілёве «Рок-дыялог-ІІ» атрымаўся больш разнастайны, больш насычаны і больш напружаны, чым «Дыялог-І». І адразу пацягнула водарам добра знаёмых праштампаваных фразак, што гаворацца пад любыя варункі. І адразу тым, хто быў на леташнім фестывалі, стала сумна, бо яны не паверылі, бо яны ведаюць, што больш насычаны на падзеі, навіны і знаёмствы быў якраз «Дыялог-І». Магчыма, праз тое, што стаў першым на Беларусі саюзным фестывалем. Магчыма, праз тое, што праграмы канцэртаў былі шырэйшыя. А магчыма, праз тое, што летась гледачы і ўдзельнікі мелі магчымасць сустрэцца з відэавыпускамі слыннага часопіса «Рокси».

І ўсё ж, адметнае і цікавае знайшло сабе месца і на «Дыялогу-89». Найперш, фестываль паказаў, што развагі пра спад цікаўнасці да року беспадстаўныя. Сёлета вольных месцаў было меней, а слухачы ўсё яшчэ чуйна рэагуюць на выступленні музыкаў і зусім не саромеюцца выказваць сваю задаволенасць свістам, воплескамі, авацыямі.

Парадаваў фестываль і нечаканай непадобнасцю гуртоў. Адным з найбольш яскравых быў гурт з Адэсы «Кошкін дом». Прыгожая група. Чацвёра музыкаў — бубнач, клавішнік, гітарыст і гукааператар (да, менавіта музыка) — робяць цудоўны псіхадэлічны хард. У гурце адметнае ўсё: валоданне інструментамі і апаратарская праца, незвычайны тэмбр нізкага вакалу і прыгожыя фальцэтныя падпеўкі, здзіўляючая зладжанасць і ўзаемаразуменне і свой, непадобны ні на каго імідж, арыгінальныя тэксты. Група гіпнатызуе. Група здзіўляе. Група падабаецца.

Асноўная частка ўдзельнікаў ужо знаёмая беларускаму гледачу. Маскоўскае «Алиби» неаднаразова брала ўдзел у нашых фестывалях, шоу, ленінградскі «Прииск» і «Цемент» з Рыгі выступалі на сцэне Бабруйскага фестывалю ў 1988 годзе.

«Прииск» — гурт малады, мае толькі адно лета, але ўжо трывала стаіць на нагах і вельмі ўпэўнены ў сваёй творчай рацыі.

Латышскі гурт сталы. Больш бачыў цяжкасцей, чым чуў узнёслых слоў на свой рахунак. Магчыма, таму, што нават знешнім выглядам выклікае вясёлае ўзрушанне ў зале, а неардынарнымі паводзінамі, таленавітым выкананнем падкупае дарэшты.

Магілёў прадставіў каманды свайго маладога рок-клуба. Няблага граюць музыкі «Бомбея», але адчуваецца ў іх правінцыйная зацятасць, бракуе ўпэўненасці, якую мелі іншыя гурты. Яшчэ б трошкі намагання, і «Бомбей» арганічна зліўся б з плеядай — «Форпост», «Акцент», «Отражение», «Гранит», «Золотая середина»...

На пачатку выступлення здаўся не зусім звычайным «Проезд запрещен». Музыка аддалена нагадвала спевы жабракоў-вандроўнікаў, што само па сабе можа быць цікавым. Але гурт не дацягнуў. Ні музычна, ні сцэнічна. Зрэшты, пад канец выступлення яны стамілі слухача частым з'яўленнем у кампазіцыях матываў з «Пінк-Флойд» і Андрэя Макарэвіча.

Летась сваім саксафонам усіх зачараваў Алесь Камоцкі, наш вядомы бард і музыка групы «Зарціпо». А сёлета «зарціпаны» прыехалі без яго. Але выступленне ўсё адно выклікала бурныя авацыі. У групе сабраліся асобы. Кожны таленавіты і адметны. Яны цікава глядзяцца, добра валодаюць інструментамі, маюць здольнасці акцёраў. Тым не меней, у гурце ўзнікаюць непаразуменні, лунаюць плёткі пра развал. Таму музыкі выступалі не ў лепшым настроі. У дадатак «солі на раны» падсыпалі арганізатары фестывалю. Увогуле, арганізатары «Рок-дыялогу-89» паводзілі сябе не лепшым чынам.

Пад час дамаўлення пра ўдзел у фестывалі «Зарціпо» і арганізацыйнага камітэту не атрымалася адразу падпісаць кантракт на аплату. Тады гурту было абяцана, што ўсё будзе вырашана, як толькі яны прыедуць у Магілёў. Абяцанкі-цацанкі. Атрымалася непрыгожа. «Зарціпанам» адмовілі ў аплаце працы з нагоды таго, што... не падпісаны кантракт.

Арганізатары фестывалю блага парупіліся наконт рэкламы. Нягледзячы на тое, што неаднойчы над гэтым пытаннем ламаліся дзіды і прамаўляліся красамоўныя словы, у горадзе было цяжка напаткаць рэкламную афішу. Натуральна, што фестываль праз гэта мог атрымацца ўбыткавым. Спадзяюся, што толькі праз гэта арганізатары вырашылі «звесці канцы з канцамі» за кошт музыкаў. А каб смецце з хаты не выносіць, усё самае бруднае і гідкае было абрынута на тых, хто бліжэй: на «Зарціпо» і на «Мрою». Ох, ужо гэтая «Мроя»! Яе беспадстаўна абвінавацілі ў... крадзежы тысячы рублёў. І з гэтай нагоды адмовілі ў выплаце грошай за камандзіроўку. Ні мала, ні багата. Прыгожа? Затое проста і з густам.

Мусіць, арганізатары сышліся на думцы, што хлопцы з «Мроі» загартаваныя ў шматлікіх бойках за сваё права на існаванне, а таму вытрымаюць яшчэ адзін «удар лёсу»? Ды колькі ж можна, шаноўныя?

Але давайце зноў вернемся на сцэну, тым болей, што ў нас застаўся яшчэ адзін, вельмі цікавы ўдзельнік.

Ці спрабавалі вы ўявіць сабе спалучэнне фальклорных напеваў і рокавых рытмаў электрагітары? Не атрымліваецца? Тады паслухайце сібірска-маскоўскі «Калинов мост». Гэты гурт — найбольш сканцэнтраваны, найбольш удалы прыклад рускага року.

Дарэчы, тэндэнцыі да нацыяналізацыі музыкі заўважаюцца не толькі тут. Апошнім часам усё часцей у кампазіцыях пачалі з'яўляцца фальклорныя ноткі, народныя гармоніі. Жана Агузарава пакінула «Браво», каб не займацца рэтра, а шукаць у галіне народнае песні. Косця Кінчаў у сваёй новай праграме шырока карыстаецца тымі ж ідэямі.

І ўсё гэта радуе, бо гэта правільна.

А мы, замест таго, каб аб'яднаць намаганні ў пошуках свайго твару, якога нас старанна пазбаўлялі на працягу доўгіх гадоў, займаемся спрэчкамі пра тое, хто валодае тэхнікай, а хто — не. У мастацтве не можа быць схемы і шаблону.

«Калинов мост» выклікаў на фестывалі самыя прыхільныя стаўленні. Дарэчы, і «Мроя», якая паказала свае новыя кампазіцыі, узрушыла залу. Дык, можа, нездарма маскоўскі гурт «Порт-Артур» летась выказаў думку, што «Мроя» для Беларускі тое самае, што «Калинов мост» для Расіі? Можа, ім збоку лепей бачыць?

Няма на Беларусі больш фестывалю, каб быў падобны да «Рок-дыялогу». І не толькі таму, што збіраюцца ў Магілёве гурты з розных куткоў Саюза. Найбольш вабіць сюды добрая сяброўская атмасфера, насычаная шчырасцю. Магілёўскі фестываль цікавы тым, што пераважная большасць запрошаных удзельнікаў разумее, што Пітэр Габрыэль папулярны таму, што ўвесь час выходзіць і робіць нешта новае. А той, хто будзе толькі карыстацца ягонымі прыёмамі, няхай сабе і вельмі добра, не выклікае павагі.







«Залатая сярэдзіна»



Барабаншчык Сцюарт Коўплэнд стварыў новую групу. Яна называецца «Энімал Лоджык» («Жывёльная Логіка»), і ў яе склад апроч Коўплэнда ўваходзяць таксама бас-гітарыст Стэнлі Кларк і вакалістка Дэбора Холэнд. Група ўжо запісала свой першы сінгл — кампазіцыю «З'явіўся шпіён (у прытулку кахання)».

Прадзюсерам альбома савецкай групы «Гукі Му», які нядаўна выйшаў на англійскай фірме «Лэнд Рэкордз» (але быў запісаны ў адной маскоўскай студыі), стаў вядомы брытанскі музыкант і кампазітар Браян Іна. Музычная крытыка называе музыку масквічоў «лагічным працягам творчасці англійскае групы «Зэ Фол».

Новая работа вядомага англійскага вакаліста Пітэра Габрыэля — інструментальны альбом «Страсць», на якім запісана музыка, створаная ім да фільма рэжысёра Марціна Скарсэзэ «Апошняе спакушэнне Хрыста». Габрыэль плануе таксама выпусціць пласцінку «Вытокі страсці». Не выключана, што ў канцы гэтага года Габрыэль закончыць работу і над чарговым «песенным» альбомам.

Група «Дып Пёрпл» разарвала шматгадовы кантракт з фірмаю «Палідор» і перайшла «пад штандары» іншае знакамітае кампаніі грамзапісу «Ар. Сі. Эй». Першы альбом групы на гэтай фірме павінен выйсці ў свет 1 студзеня 1990 года.

Ва ўзросце 45 гадоў памёр англічанін Вінсэнт Крэйн, лідэр вядомае на пачатку 70-х гадоў групы «Этомік Рустэр».

З нецярплівасцю чакаюць прыхільнікі англійскага вакаліста Элтана Джона выхаду альбома, на якім будуць прадстаўлены шэсць кампазіцый гэтага музыканта, якія былі запісаны ім у 1977 годзе ў час студыйных «сэсій» разам са знакамітым рытм-энд-блюзавым музыкантам Томам Бэлам і раней не выдаваліся.

У запісе новага альбома знакамітага брытанскага музыканта Джэка Бруса прынялі ўдзел гітарыст Эрык Клэптан (калісьці яны выступалі разам у складзе легендарнае групы «Крым»), ірландскі вакаліст Ван Морысан, адзін з лепшых блюзавых гітарыстаў 80-х гадоў Робэрт Крэй, а таксама музыканты групы «Літл Фіт».

Былы гітарыст Мадоны — Мэнэс — працуе цяпер у студыі над сваім сольным альбомам. Пласцінку прадзюсіруе вядомы прадзюсер Біл Ласуэл.

У бліжэйшыя 2—3 гады наўрад ці можна чакаць новых альбомаў англійскае групы «Джэнісіз». Паводле слоў лідэра групы барабаншчыка Філа Колінза, перш чым зноў сабраць разам гэты ансамбль, ён мае намер запісаць свой чарговы (чацвёрты) сольны альбом, зняцца яшчэ ў адным фільме і зрабіць сольнае канцэртнае турнэ.

Гітарыст Стыв Стывенс, вядомы па сваёй працы разам з Білі Айдалам, стварыў свой уласны гурт. Ён называецца «Этамік Плэйбойз», і ў яе склад апроч Стывенса ўваходзяць таксама клавішнік Філ Эшлі і барабаншчык Томі Прайс.

Заканчвае працу над сваім новым альбомам амерыканка Ціна Тэрнэр. Прадзюсіруе альбом Дэн Хартман.

У Англіі выходзіць зборнік паэзіі Шэйн Мас Гаўэн, вакалісткі вядомае групы «Зэ Погз». У аснове яго ляжаць тэксты песень гэтага ансамбля, а пераканаць Шэйн паспрабаваць свае сілы на літаратурнай ніве ўдалося знакамітаму Піту Таўншэнду, які выступаў некалі ў легендарным гурце «Зэ Ху».

«Дыназаўры» рок-н-ролу «Ролінг Стоўнз» плануюць пачаць сваё турнэ па ЗША (першае за апошнія 8 гадоў) у верасні гэтага года. Запіс новага альбома (працавалі над ім Мік Джагер і Кіт Рычардс на востраве Барбадос) павінен быць закончаны да пачатку гастроляў. У адным з апошніх інтэрв'ю Кіт Рычардс абверг чуткі аб тым, што Біл Уайман збіраецца пайсці з ансамбля, што Рон Вуд «пяройдзе» на бас-гітару, а гітарыстам зноў стане Мік Тэйлар.



Пётр МАМОНАЎ. «Гукі Му»



Жураўлёў. «Альянс»



Вячаслаў БУТУСАЎ. «Навуцілус Пампіліўс»



«Воплі Відаплясава»

Паводле даных італьянскага часопіса «Рокстар» у 1988 годзе ў ЗША, Японіі і краінах Заходняе Еўропы было прададзена 390 млн. кампакт-дыскаў, 295 млн. пласцінак-альбомаў і 787 млн. запісаных касет. Мяркуецца, што ў 1992 годзе будзе прададзена 870 млн. кампакт-дыскаў, 147 млн. пласцінак і 720 млн. касет. Ужо ў 1990 годзе на долю кампакт-дыскаў прыйдзецца 35—40 % усяго музычнага рынка, і традыцыйныя пласцінкі будуць лічыцца «састарэлымі».

Падрыхтаваў
Аляксандр НАВІЦКІ

музычны тэлетайп

У Харкаве адбыўся фестываль «Рок супраць сталінізму», у якім прынялі ўдзел: кіеўскія «Лямант Відаплясава» («В. В.»), «Грамадзянская абарона» з Навасібірска, свярдлоўскі «Чай-ф», свярдлоўска-маскоўскі «Калінаў мост», проста маскоўскія «Вясёлыя малюнкі», мясцовыя «КПД», «Суткі-трое» і іншыя. На гэтым фоне камерцыйныя гастролі вядомага «Тэлевізара» прайшлі ў Харкаве без асаблівага поспеху.

Легендарны англійскі гурт «Юрая Хіп» у канцы сакавіка даў у Ленінградзе шэраг канцэртаў. Гэта не першы канцэрт заходніх рок-зорак у горадзе на Няве. У канцы лютага ленінградцы пачулі Інгві Мальмсціна, лепшага (па дадзеных часопіса «Метал хамер») гітарыста ў свеце. У кастрычніку мінулага года ў ленінградскім Доме Моладзі адбылося сумеснае выступленне «Юрытмікса» і Барыса Грабеншчыкова, прыкладна ў той жа час «ДДТ» дала канцэрт разам з брытанскім гуртам «Асацыяцыя па заваяванні свету».

У сакавіку — красавіку ў Ленінградзе зноў выступалі «Гукі Му» з Маскоўскай рок-лабараторыі. Акрамя вядомых песень — «Кожнадзённы герой», «Шэры голуб» і іншых — Пётр Мамонаў выканаў колькі рэчаў з новай праграмы.

Без асаблівага поспеху прайшлі ў Ленінградзе канцэрты «Лямента Відаплясава». Прычына — моўны бар'ер (згадаю, «В. В.» прынцыпова спяваюць толькі на ўкраінскай мове). Ленінградцы амаль не зразумелі тэкстаў. А шкада...

4—5 сакавіка ў Ленінградскім рок-клубе адбыліся канцэрты, якія былі прысвечаны памяці Георгія Арданоўскага, былога лідэра некалі папулярных «Расіян». Арданоўскі загадкава загінуў у 1984 годзе. Грошы ад збораў музыканты вырашылі пералічыць у Дзіцячы фонд імя У. І. Леніна.

7 сакавіка споўнілася восем гадоў з дня стварэння Ленінградскага рок-клуба. Адсвяткаваць юбілей рок-музыкі (сярод іх — «Небяспечныя суседзі», гітарыст «Акварыума» Ляпін, клавішнік з «Алісы» Самойлаў і вядомы панк-рок-музыка Андрэй Паноў) вырашылі ў рок-клубаўскім сутарэнні. «Не грайце так крута!» — прасіў рокмэнаў прэзідэнт клуба М. Міхайлаў, але на яго проста не звярнулі ўвагі. Назаўтра высветлілася, што ў час канцэрта нейкія злодзеі ўкралі сінтэзатар «Ямаху» — падарунак рок-клубу амерыканскай журналісткі і рок-выканаўцы Джоан Стынгрэй, жонкі Каспарана, музыканта з «Кіно». Міліцыя шукае зладзеяў, а рок-клуб тым часам бядуе без «Ямахі».

Першая ў нашай краіне рок-кавярня створана ў Ленінградзе. Плошча ў трыста квадратных метраў у гэтым будынку размалявана партрэтамі «Бітлз», «Лэд Зэпелін», «Ролінг Стоўнз», Джымі Хендрыкса, Джымі Морысана і іншых. На ўрачыстым адкрыцці ў якасці ганаровых гасцей прысутнічалі «Тэлевізар», «ДДТ», «Аліса», «Час кахаць» і Уладзімір Рэкшан.

Барыс Грабеншчыкоў абверг чуткі аб распадзе «Акварыума». З сярэдзіны красавіка па пачатак верасня Грабеншчыкоў знаходзіцца ў ЗША, дзе прыме ўдзел у рэкламнай кампаніі першай сваёй амерыканскай плыткі.

Новыя магнітаальбомы запісалі беларускія рок-гурты. Наваполацкі «Мясцовы час» скончыў працу над альбомам «Слота», віцебская «Грамада» запісала «Грамад-І», а мінская арт-рокавая каманда «Чыстае срэбра» падрыхтавала вялікі альбом «1989».

Падрыхтаваў
Уладзіслаў КВЯТКОВІЧ

## Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

### ЦАРКВА

Яна стаяла без званоў.
Казалі, звон зняў Іваноў.
Я добра помню Іванова.
Згасаў, як свечка, ён і сох,
Я чуў:
    «Яго карае бог...»
Шкада было мне Іванова.
Наш ганаровы піянер
Не проста быў пенсіянер:
Лічы, герой — былы камбед...
Дагэтуль помніць сельсавет:
«Царква — вось корань нашых бед!
Багоў мы пусцім
    на распыл...»
І звон ляцеў на шэры пыл —
Жах у вачах здзіўлённых стыў.
. . . . . . . . . . . . . .

Яе прыгадваю я зноў:
Яна маўчала без званоў.
Там быў прытулак кажаноў.
Памёр даўно ўжо Іваноў,
Даўно ў магіле святары
І толькі часам дзяк стары
Пасе на цвінтары казу
Ды ўспамінае праз слязу:
«Вячэрні звон, вячэрні звон
Як многа дум наводзіць ён».

### ПЛАНІДА

У кожнага зорка свая,
Кожнаму кубак наліты.
У кожнага доля свая,
Ці, як кажуць,
    планіда.
Усе мы ў гасцях на піру
І званыя ўсе мы нібыта.
Я свой кубак спакойна бяру:
Трэба піць —
    раз наліта.

* * *

На свеце так багата святаў,
Але найлепшае са свят —
Узяць білет да брата,
Цябе адведаць, брат.

На схіле веку прадуўнога
І мёд спазнаўшы, і палын,
Я зразумеў, як гэта многа,
Калі ты ў свеце не адзін!

...Мільгне бярэзнік заінелы,
Яго не раз у снах я зваў,
Бо я па чыстам і па белым
Ужо даўно засумаваў.

Ляцяць бярозавыя вёрсты
І я па іх — не маладзён...
І у маім жыцці няпростым
Ужо даволі чорных дзён.

* * *

Ёсць хлеб. І ёсць віно,
Але жывых
    шкада мне ўсё адно.
Шкада сірот, шкада калек,
Шкада празрыстых чыстых рэк,
Шкада цябе, мой тлумны век.
Хоць і сказаў я што па чым,
Але не быў ты мне айчым,
І сумаваць няма прычын.
Я радасць знаў, і знаў жанчын.
І еў я хлеб, і піў віно,
Але жывых
    шкада мне ўсё адно.

* * *

Яшчэ не раз спрачацца з лёсам,
Яшчэ я многа не спасціг.
Таму й чытаю назвы вёсак,
Як загалоўкі мудрых кніг:
Баронькі,
Барэйкі,
Журбін,
Студзянец,
Вётухна,
Правідэнец...

### МАЛЕНСТВА

Колькі мар навырост!
Сонца ў небе гарэзіць.
І вясёлкавы мост
Перакінут праз Бесядзь.

Колькі радасных дзіў
Светлы дзень нарадзіў!
Сакавіты наліў
І салодкі наліў...

І вясёлкавы мост
Перакінут праз Бесядзь.



Фота Ігара САЎЧАНКІ

## Іван РУБІН

### МАЦІ

Хто ўспомніць пра яе, а хто забудзе.
На покуце вісіць звычайны абразок.
Набожнай не была, ніколі ёй не будзе.
І што ад гэтага каму прыбудзе,
Што моліцца яна мо тысячу разоў.
Ўтрапёна шэпча: «Глянуць бы разок,
Бо нат і дзень дажыць ці стане сілы.
Хоць кропляю прыпасці б да яго магілы,
Абняць, абмыць гаючаю слязой...»
А цішыня курком узведзеным маўчыць —
Ні слова для прывету, ні адказу.
Што ёй параіць, супакоіць чым,
Ці моўчкі ціха плакаць з ёю разам!
На чорных крылах чорнае прынёс
Афганскі вецер аж да Беларусі.
За што, людцы, такі ёй выпаў лёс
Зязюлькай шэрай кукаваць у скрусе!
А сын ніколі ўжо не вернецца дамоў.
І на чужыне дзесь згубіліся сляды.
І моліцца яна за тысячы сыноў,
Каб тысячы матуль
Такой не зведалі бяды.

### ЖНІВЕНЬ

Пераспелі ночы.
Цяжкім крокам
Чараўнік ступае па палях.
Ападаюць знічкі прама ў вочы,
Перавяслам жоўтым Млечны шлях
Апавіў зямлю
    і нас з табою
У ржаной наспелай цішыні.
І гайдае лета стомленым прыбоем
Выраю прыцішаныя дні.

### УЯВА

Скончылася поле.
На просецы светлай
У лесе
П'ем разам
Волю цішыні
І цішыню волі.
Канчаецца лета.
У стагах шавеліцца сена.
Цёплы яблык,
Цёплая рука,
І погляд не строгі.
Пачынаецца рака
Серабром
Імклівай стронгі.
Баравікоў неруш
Світае ўявай,
Сніцца, як сон.
Зноў я дома.
Баюся прачнуцца,
Не паверыць.
Нічога
Пакуль
Невядома.







Фота Ігара САЎЧАНКІ

Нэлі КУРГАНАВА,
Павел МАРЦАЎ

# канвеер-37

З Ірынай Васільеўнай Коршун мы сустракаліся двойчы. У 1985 годзе, калі папрасілі расказаць пра сваё жыццё, лёс яе мужа, другога сакратара ЦК КП(б)Б Мікалая Дзенісkeвіча, пажылая жанчына доўга глядзела на нас, а потым з горыччу сказала: «Гэта нікому не трэба. Вы ж усё роўна не надрукуеце». Тады нам не было чаго адказаць. Толькі праз два гады публікацыя стала рэальнасцю. Народу дазволілі ведаць праўду пра сябе, і мы маглі пераканаць Ірыну Васільеўну.

Артыкул напісаны на аснове расказа І. В. Коршун і тых нямногіх даступных музейнаму работніку і журналісту дакументах. Мы выбралі форму аповяду ад трэцяй асобы, каб надаць матэрыялу дакументальны характар. Бо сведчанні ўдзельніка тых падзей сёння ўспрымаюцца намі менавіта так.

...Дзверы камеры адчыніліся нядзіва ціха. Ірына Коршун трохі затрымалася на парозе. Ахоўнік падштурхнуў яе: «Варушыся». Маладая жанчына ўвайшла і спынілася. Зверху праз вузкае акно з кратамі трыма касымі промнямі падала дзённае святло. «Ваш асабісты нумар — 902. Прозвішча не называць». Бразнуў замок. Ірына апусцілася на нары. Напружанне, якое ўзнікла ў час арышту, адразу неяк апала. Плечы затрэслі-

ся. Толькі тут, у «адзіночцы», яна зразумела, што яе мужа, Мікалая, таксама арыштавалі.

Некалькі гадзін назад да лецішча ў Гарадзішчы, дзе яны жылі, пад'ехалі тры чорныя легкавыя машыны. Дзевяць чалавек увайшлі ў дом. Сярод іх Ірына пазнала каменданта горада. «Паехалі».— «Куды?» — «У турму».— «Жартуеце?» — «Не».— «Дзяніскевіч ведае?» Старшы групы паціснуў плячыма. «З сённяшняга дня апошняя літара вашай прафесіі змянілася з «ч» на «г».— «Не разумею — пры чым тут «ч» і «г»?» — «Дагэтуль вы былі «врач», а цяпер сталі «враг». Тады першая думка Коршун была: яе арышт пашкодзіць Мікалаю. Яна не звярнула ўвагі, як трое корпаліся ў пісьмовым стале другога сакратара ЦК КП(б)Б, збіралі ўсе паперы і дакументы.

«Чырвоная змена» за 26 ліпеня 1937 года: «Сёння, у адну гадзіну 27 мінут ночы, у Негарэлае парыжскім «Норд-экспрэсам» прыбылі з заграніцы Героі Савецкага Саюза — героі другога Сталінскага маршрута, заваявальнікі транспалярнага шляху, завяршыўшыя бяспрыкладны ў гісторыі пералёт па маршруту: Масква — Паўночны Полюс — Паўночная Амерыка... Сакратар ЦК КП(б)Б тав. Дзяніскевіч адчыняе мітынг: ...«Беларускі народ... будзе вучыцца ў Чкалава, Байдукова і Белякова гераізму. Няхай жыве камуністычная партыя! Няхай жыве вялікі правадыр народаў, наш любімы Сталін!»

У той самы дзень у будынку ЦК Дзяніскевіч быў арыштаваны. Яго жонку арыштавалі на дзве гадзіны пазней...

Плач змяніла глыбокая дэпрэсія. Ірына не чула, як адчыняліся дзверы, не бачыла міскі з баландою, якую рэгулярна змяняў ахоўнік. Позірк жанчыны застыў на мёртвай турмовай сцяне. У памяці метадычна пракручваліся кадры яе ранейшага жыцця. 22-і год... Ад інфаркту памёр бацька-чыгуначнік. Маці — эканамістка — з таго часу працавала сама меней на дзвюх стаўках. 175 грамаў хлеба. Норма. Ірынка з пунсовым гальштукам на шыі — першая піянерка. Дзятва вакол яе. Яна — піянерважатая. Летні лагер у Фаніпалі. З сяброўкаю Нінай шчыравала над катламі. Варылі бульбу, моркву, забельвалі малаком... Голад... Універсітэт. Шурка ўгаварыла. Здалі экзамены на хіміка-тэхналагічны. Не прайшлі — не было 17 гадоў. Схавалі метрыкі — прынялі на медыцынскі факультэт... Божа, як дрэнна. Усё плыве перад вачыма.

Ірына не ела сем сутак. Абяссіленая, лягла. Пачаўся крывацёк. Ачуняўшы, убачыла над сабою твар жанчыны. Гэта — астрожная медсястра. Коршун пазнала яе: разам працавалі ў Доме дзіцяці. У вачах — слёзы. Яна таксама пазнала Ірыну. 902-і нумар не сказала ні слова. Цяпер



знаёмства з ёю — іншым гібель. У камеру нехта ўвайшоў, схіліўся над ёю. Яна адразу ж пазнала гэтыя мышыныя вочкі. Колісь ветлівы, намеснік наркома ўнутраных спраў Берман цяпер незадаволена прамовіў: «Што гэта вы? Галадоўку аб'явілі? Ваш муж — вораг народа. Мы павінны ўсё праверыць». Зноў правал...

Ірына ажыла, калі ў камеру да яе падсялілі Вольгу Лабадаеву, жонку памочніка першага сакратара ЦК КП(б)Б Шаранговіча. Яны гаварылі і не маглі нагаварыцца. Стала лягчэй. Але страшныя словы «вораг народа», пакутлівае пытанне «за што?» не давалі спакойна жыць. Розум іх гэтага не прымаў.

«Чырвоная змена» за 9 жніўня 1937 года. Артыкул «Выкурым ворагаў з усіх шчылін!»: «Подлая банда польскіх шпіёнаў і забойц, шкоднікаў, дыверсантаў, якая прабралася на кіруючыя пасты ў Беларусі — у ЦК КП(б)Б і СНК БССР, на працягу раду год праводзілі сваю контррэвалюцыйную работу ў нашай рэспубліцы. Гэта атрэп'е, вырадкі роду чалавечага рабілі ўсё для таго, каб адарваць нашу Савецкую Беларусь ад вялікага Савецкага Саюза. Але ворагі праличыліся. Органамі НКВД яны злоўлены на месцы злачынства і будуць пакараны з усёй бязлітасцю пралетарскага закона. Сабакам фашысцкіх псарняў — сабачая смерць,— такое патрабаванне беларускага народу ў адносінах да наймітаў польскага фашызму».

Праз некалькі дзён Коршун перавялі ў агульную камеру. Жанчыны самых розных узростаў і прафесій хадзілі паўголыя (спякота) уздоўж сцен. Большасць з іх не ведала, за што яны схоплены, у чым іхняя віна. Ірына добра запамятала 72-гадовую склератычную калгасніцу, якая забывалася на тое, што было пяць хвілін назад, і польскую палітэмігрантку, знясіленую жанчыну без узросту.

Са страхам чакалі ночы. Муры не маглі заглушыць енк і стогны зняволеных. Канвеер допытаў замаруджваў свой бег толькі ўдзень. Аднойчы забралі польку. Прайшло двое сутак. Яе перасталі чакаць. Праз тыдзень у камеру на насілках унеслі нейкую жанчыну, вывалілі яе на падлогу. Яе паднялі, паклалі на нары. Чатырохкутны апухлы ацёчны твар, такое ж цела, ногі. Уся ў крывападцёках. Ірына рабіла «новенькай» халодныя прымочкі, калі тая ачуняла і прамовіла яе імя, Коршун па голасе пазнала — полька! Амаль восем сутак яна прастаяла на допыце пад яркім святлом. Падала. Адлівалі вадою, падымалі. Білі па суставах піўнымі бутэлькамі. «Я назвала лепшых камуністаў Польшчы, здрадзіла мужу. Падпісала ўсё... Следчы за сталом... Не, не следчы... У яго галава нейкага звера. Галюцынацыі... Іра,— плакала ў камеры полька,— Іра, няўжо я ўсё падпісала? Так... я, здаецца, падпісала». Яна рыдала, пакуль не страціла прытомнасць.

Усёй камерай павялі ў лазню. У некалькіх месцах на сценах быў выдрапаны адзін і той самы надпіс: «Дарашэвіча забілі на допыце». Назаўтра выклікалі Ірыну...

Сацыяльны псіхоз, арганізаваны Сталіным, органамі НКУС, сталінскімі апаратам і прэсаю, ахапіў дзяржаву. Сляпая вера ў «вучня» Леніна і справядлівасць ягоных дзеянняў разагнала ўсе сумненні, пакуты сумлення па шматлікіх астраўках ГУЛАГа. Верыла і Ірына Васільеўна Коршун. Да тае пары, пакуль «ачышчальны» меч «бацькі народаў» не ўдарыў па мужу, па ёй. І тым больш жахлівы быў яе стан. Ведала, што Мікалай і яна не вінаватыя.

— Можа, гэта страшна гучыць,— кажа Ірына Васільеўна,— але мне тады неяк «шанцавала». На сітуацыі, на людзей... Мяне не дапытвалі. Ад мяне не патрабавалі якіхсьці паказанняў на мужа. Толькі адно — адмовіцца ад яго як ад ворага народа. Следчых было некалькі. Кожны допыт пачынаўся словамі: «Толькі што адлівалі вашага мужа». Я ведала Дзяніскевіча як сумленнага камуніста і не магла паверыць у тую лухту, якую яны вярзлі пра Мікалая. Мне паказвалі пратаколы ягоных допытаў. Божа, чаго там толькі не было! Контррэвалюцыйная змова, дыверсіі, тармажэнне калектывізацыі ў Віцебскай вобласці. Гэта ён — тармазіў?! На кожнай старонцы — подпіс Дзяніскевіча, але дзіўны: ці не ягоны, ці падпісаны ім у нейкім ненармальным стане. Я патрабавала вочнай стаўкі, і так заканчваліся ўсе мае допыты.

Неяк Ірына пачула гукі крокаў, якія даносіліся з астрожнага калідора. Яна пазнала Мікалаеву паходку — цяжкую, размашыстую. Падышла да дзвярэй і паклікала ахоўніка: «Дайце вады!» Нехта рвануўся. Паўза. Важданіна. Крык: «Ірынка!» Дзяніскевіч вырваўся, падбег да камеры: «Не можа быць! Ты тут?» Зноў гвалт, удары. Пацягнулі па калідоры. Два тыдні ягоных крокаў не было чуваць. «Дзяніскевіча пасадзілі ў карцэр»,— адстукаў праз сценку сусед — намеснік наркома земляробства.

Яны пазнаёміліся ў Лёзненскім раёне, дзе пасля заканчэння медінстытута Коршун працавала раённым педыятрам. Мікалай Дзяніскевіч быў накіраваны туды на «прарыў» у якасці першага сакратара райкома партыі. Лёзненскі раён да таго пастаянна завальваў план. Пасля чарговай змены кіраўніцтва за кароткі час ён з адсталага ператварыўся ў перадавы.

На допытах Коршун так нічога і не падпісала. Яе часова пакінулі ў спакоі.

Калі зноў сталі чуцца доўгачаканыя крокі, Мікалай з Ірынаю звярталіся толькі да дзяжурнага, калі той выводзіў яго з партыяй. Яны хацелі пачуць толькі голас адно аднаго.

Неяк удзень Ірына пачула ля дзвярэй сваёй камеры крык Дзяніскевіча: «Ірынка, родная!» — затым было чуваць, як ён вырваўся і бег па калідоры з крыкам: «Клянуся табою, ні ў чым не вінаваты!» Значыцца, гэта ягоныя апошнія крокі, вырашыла Ірына і стала стукаць у дзверы кулакамі, міскамі, конаўкамі. Яна істэрычна крычала: «Зверы, куды яго павялі, так не здзекуюцца у фашысцкіх турмах з палітзняволеных, як тут з нявінных людзей!» Дзяжурны, зычлівы хлопец, спрабаваў супакоіць раз'юшаную жанчыну: «Цішэй, прашу, вас забяруць у карцэр, перастаньце крычаць». Не дапамагло. Ірына, не памятаючы сябе, працягвала крычаць. Праз нейкі час акенца ў дзверы яе камеры адчынілася, і яна пачула голас Мікалая з ягонай адзіночнай камеры: «Ірынка, родная, супакойся, я — тут!» Коршун села на падлогу і заплакала. Ахоўнік з'явіўся зноў толькі праз тыдзень, схуднелы, і пры раздачы ежы пакрыўджана глядзеў на Ірыну. Ён і ягоны таварыш былі пакараныя. А Ірыну выклікаў да сябе начальнік следчай часці. Дакумент, які ён ей уручыў, паведамляў, што асобай нарадаю 28 лістапада 1937 года яна асуджана на восем гадоў лагераў без права перапіскі «як член сям'і здрадніка Радзімы». Ірына распісалася. Начальнік турмы дазволіў ёй паведаміць маці, каб тая пераслала цёплыя рэчы. І, о радасць!, маці напісала ў запісцы, што з такой самай просьбаю да яе звярнуўся Мікалай. Значыцца, і яго ў лагер, значыцца, жывы!

31 снежня 1937 года жанчын пагналі па этапе.

У Крамлі гарэла ліхтарыкамі святочная навагодняя ёлка. Кружыліся ў вальсе статныя вайскоўцы і іхнія жонкі ў прыгожых строях. За сталом звінелі келіхі з шампанскім. «З Новым Годам, таварыш Сталін!» Закончыўся канвеер 37-га года. Пачаўся канвеер 38-га...

Таварны цягнік з жонкамі ворагаў народа ішоў доўга ў невядомым напрамку. Неяк цёмнай ноччу жанчын вывелі з вагона без рэчаў і павялі, як яны даведаліся пазней, у лазню. Іх ахоўвалі дзве шарэнгі салдатаў з паходнямі і сабакамі-аўчаркамі, якія з брэхам вырываліся з рук канвойных.

Колы таварніка адстуквалі пачатак чарговага круга пакут Ірыны Васільеўны. Карагандзінскі лагер (Карлаг). Гарадок Акмолінск. Жудасны глухі стэп. Некалькі баракаў, абнесеных калючым дротам. Велізарны слуп, укапаны ў зямлю. На ім замацаваны круг са шматлікімі лопасцямі-крыламі. Паміж імі станавіліся жанчыны і гадзінамі хадзілі, вытоптваючы сумесь — так званы саман. З яго рабілі блокі, з блокаў — баракі.

Ірыне і тут «пашанцавала». Яна працавала па спецыяльнасці. Лячыць было каго. Зноў пашанцавала: здолела ўсё ж такі перадаць ліст на волю. Знайшоўся бясстрашны чалавек. Маці прыслала ў адказ радасны ліст і пасылку. Затым Ірына працавала ў Доме дзіцяці ў лагеры «Бытавічок», калі пачалася вайна і эвакуіраваныя сталі прыязджаць у Далінку («сталіца» Карлага), рэзка павялічыліся захворванні сярод дзяцей вольнанаёмных. Па загаду начальніка Карлага Жураўлёва Коршун была прызначана начальнікам дзіцячай бальніцы ў сяле Далінка. Працавала там з раніцы да вечара, калі былі цяжка хворыя дзеці, заставалася ў бальніцы і ўначы. З лагера выйшла Коршун своечасова — у 1945 годзе. Па яе прыехаў брат Сяргей, падпалкоўнік авіяцыі, дабіўшыся дазволу на выезд у Маскве — у ГУЛАГу.

Пачалася хрушчоўская «адліга». Коршун звярталася з запытамі, заявамі ва ўсе інстанцыі. Прышоў адказ: «Рашэннем ваеннага трыбунала Беларускай ваеннай акругі ад 10 снежня 1955 года справа ў дачыненні да вас спынена, і вы цалкам рэабілітаваны». Засталося адшукаць мужа. ГУЛАГ на запыты доўга не адказваў. Потым у розны час прыйшлі два дакументы — пасведчанні аб смерці. Адно паведамляла, што Дзяніскевіч памёр у лагеры ў 1942 годзе ад паралічу сэрца. Тады ўжо Ірына Васільеўна зразумела: абодва пасведчанні — хлусня.

Пазней яна атрымала даведку ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР ад 28 сакавіка 1956 года, у якой гаварылася: «Справа па абвінавачанні Дзяніскевіча М. М. перагледжана... 25 лютага 1956 года. Прысуд ваеннай калегіі ад 28 кастрычніка 1937 года ў дачыненні да Дзяніскевіча, з улікам нядаўна адкрытых абставін адменены, і справа за адсутнасцю складу злачынства спынена».

Гэтая даведка гаворыць пра многае. Справы, якія разглядаліся ў 30-я гады ваеннай калегіяй, заканчваліся расстрэлам. Праўда, у прысудзе звычай значылася: «10 гадоў без права перапіскі». Адсюль і просьба Дзяніскевіча да маці Коршун прыслаць цёплыя рэчы, і два пасведчанні аб смерці з рознымі датамі і дыягназамі, і чуткі ў турме пра тое, што Дзяніскевіча расстралялі назаўтра ж пасля вынясення прысуду — у час прагулкі.

Афіцыйная дата смерці ўказана ў Беларускай Савецкай энцыклапедыі (т. 4, стар. 193) — 29.10.37. Паводле гэтае версіі, 33-гадовага другога сакратара ЦК КП(б)Б не стала адразу ж пасля вынясення прысуду ягонай жонцы. Дзе ён расстраляны, невядома.



Дзмітрый
ПАДБЯРЭЗСКІ

апавяданне



# апошняя квадра



Калі афіцыянт прынёс марожанае, на зірнула Яму ў вочы, усміхнулася і сказала:

— Дык ты кажаш — чарадзей?

— Будучы,— паправіў Ен.

— Але ж ты ўжо на трэцім курсе. Спадзяюся, сёе-тое ўмееш? — зноў спытала Яна.

— Няшмат. Праўда, пакуль што ў мяне ўсяго дзве «чацвёркі». Па тэорыі. Затое ўсе спецсемінары — толькі на «выдатна».

— Дык зрабі што-небудзь, каб марожанае не рукамі есці,— з той жа халоднай усмешкай прапанавала Яна.

— Паспрабую...

Ен заплюшчыў вочы і на імгненне знерухомеў. Яна паглядзела на Яго з вялікім недаверам, зноў ледзь стрымана ўсміхнулася.

— Калі ласка,— адказаў Ен.— Зараз усё будзе.

Афіцыянт, які размаўляў каля стойкі з барменам, спалохана зірнуў у іх бок. Ен абарваў размову і хутка наблізіўся да століка.

— Прабачце,— сказаў афіцыянт і паклаў на стол дзве маленькія лыжачкі.— Яшчэ раз прабачце. Прыемнага апетыту.

Было відаць, што Яна вельмі любіла ўсміхацца.

— Ну, гэта зусім не цуд! Проста супадзенне. Ен азірнуўся і ўспомніў пра лыжкі.

— Ты так думаеш?

— Я ўпэўнена! І скончым на гэтым. Зрабі лепш што-небудзь такое, каб я пераканалася, што ты гаворыш сур'ёзна.

— Прабач, але маніць у нашай прафесіі ўвогуле нельга. Гэта ў цырку ілюзіяністы займаюцца падманам. А я вучуся рабіць іншае, вучуся быць чарадзеем.

— Цяжка паверыць,— адказала Яна.— Мне ўжо столькі людзей казалі падобнае, абяцалі ўсё, што толькі пажадаю. А самі думалі пра адно і тое ж...

— Пра што? — не зразумеў Ен.

— Ну пра што могуць думаць мужчыны, гледзячы на прыстойную, модна апранутую дзяўчыну? — засмяялася Яна.— Няўжо ты такі наіўны? Улічы, сама я не з такіх. І мяне куды больш цікавіць тое, што чалавек можа зрабіць рэальна,— дастаць, узгадніць, дамовіцца... Я не люблю слаўныя абяцанкі-цацанкі. Мне пакажы, чаго ты варты на справе.

— Добра! — сказаў Ен, падняўся з крэсла і выйшаў з кавярні на вуліцу.

Праз запацелую шыбу Яна ўбачыла, як Ен наблізіўся да дрэва, што расло каля ўваходу ў кавярню, адламаў невялікую галінку, асцярожна адарваў ад яе апошнія пажоўклыя лісточкі. Вярнуўшыся, Ен паклаў вільготную ад дажджу галінку на стол.

— Вось,— сказаў Ен.— Звярні ўвагу: гэта — ліпа. А на вуліцы — восень.

— І што з таго? — з цікаўнасцю ў голасе спытала Яна.

— Я, праўда, нічога не абяцаю... Толькі паспрабую.

Да століка ў той жа момант падляцеў афіцыянт.

— Што яшчэ? — выцягнуўся ён у струнку.

— Калі ласка, невялічкую шкляную вазачку з цёплай вадой і яшчэ адну чайную лыжачку,— сказаў Ен.

— А...— запнуўся афіцыянт.

— Не-не, больш нічога. Вады — палова вазачкі,— Ен уважліва паглядзеў афіцыянту ў вочы.— Цёплай вады...

— Адну хвілінку,— адказаў той і знік.

— Што ты збіраешся рабіць? — спытала Яна.

— Ты ж прасіла маленькі цуд. Вось і хачу паказаць, чаго варты я...

Афіцыянт моўчкі прынёс вазачку з вадой, паставіў яе на столік і стаў, напружана гледзячы на Яго.

— Дзякуй, пакуль усё,— сказаў Ен.

Афіцыянт не паварушыўся.

Ен апусціў галінку ў вазачку, набраў з сальніцы ў лыжачку солі і ссыпаў яе ў ваду. Потым дастаў з сумкі тоўсты сшытак, пагартаў яго, пакуль знайшоў патрэбную старонку.

— Вось дзе... Другі курс, другі семестр. Спецсемінар па раслінах. Заняткі пятыя... Ёсць!

Мінуты з тры Ен уважліва чытаў канспект. Яна з ранейшай усмешкай сачыла за ім, крыху хвалюючыся, таму што пачынала разумець: розыгрыш зацягваецца. Гэта было не ў яе правілах. Часцей за ўсё розыгрышамі займалася менавіта Яна, а не хто-небудзь іншы.

Ен схаваў сшытак у сумку.

— Цяпер сачы вельмі ўважліва,— сказаў Ен, адкінуўшыся на спінку крэсла, і спыніў свой позірк на вазачцы. У поўнай цішыні мінула мінут з пяць. Афіцыянт па-ранейшаму стаяў нерухома.

— Ну ўсё, дарагі, хопіць! — нарэшце не вытрымала Яна.— Час і дадому ісці.

— Увага! — сказаў Ен і выцер насоўкай спацелы твар.

Яна раптам заўважыла, як у вазачцы вада нібыта закіпела: спачатку з донца ўверх пабеглі тоненькія ніткі бурбалак, іх рабілася ўсё больш і больш, аж пакуль на паверхні не заскакалі буйныя бурбалкі. Імгненне — і кіпенне абарвалася, адно толькі над рыльцам вазачкі зашарэла лёгкая пара.

— Ведаеш што...— сказала Яна.— Нам гэта ў школе на ўроках хіміі паказвалі. А ў балаган я магу і без цябе трапіць. Кінь блазнаваць! Расплаціся — і пайшлі.

— Ну яшчэ хвілінку! — папрасіў Ен.— Пачакай, пакуль Васіль Глебавіч выпіша рахунак.

Афіцыянт засмяяўся.

— Я сапраўды Васіль Глебавіч,— сказаў ён.

— Ведаю. Гэта зусім нескладана. Мы гэта на першым курсе вывучаем,— растлумачыў Ен.

«Дурніца! — сама сабе прашаптала Яна.— Прапаў вечар. Вось жа, звязалася з блазнам...»

Афіцыянт паклаў на стол рахунак. Не гледзячы ў яго, Ен ссыпаў капейкі на паперку.

— Васіль Глебавіч! Калі вам заўтра прынясуць з суседняга гастранома філе траскі — а вы дамовіліся пра гэта,— уважце, на колькі яно пацягне. Праверце вагу. Кажу гэта таму, каб вы зразумелі, чаму я паклаў на стол на дванаццаць капеек менш, чым вы напісалі ў рахунку.

— Я абавязкова зважу рыбу,— горача запэўніў афіцыянт.

— Кінь! Не сорамна табе?! — прашаптала Яна.— Не думала, што ты такі скнара. А яшчэ — чарадзей!..

— Ашукваць людзей нельга нікому. Нас гэтаму вучаць перш за ўсё. А ён між тым з такіх вось капеек за дзень мае столькі ж, колькі і ты за дзень на сваёй рабоце.

— Хіба гэта заробак?! Пайшлі! — Яна ўскочыла з-за стала.— Мараліст, глядзі ты на яго! Ну, упершыню такі цуд сустракаю...

Афіцыянт раптам ціха войкнуў і акругліў вочы. Яна таксама паглядзела ў бок стала.

Пупышкі на галінцы набрынялі, зрабіліся вялікімі. І нечакана з іх пераможна вырвалася зялёнае, яркае, сакавітае лісце. Ёй здалося, што было нават чуваць, як лопнула лупіна, як лісточкі, смеючыся адзін аднаму, глынулі з асалодай цёплае паветра кавярні.

— Атрымалася,— задаволена сказаў Ен.

Лісце большала на вачах. І тут побач з некаторымі лісточкамі раптам успыхнулі вялікія жоўтыя гронкі цвету. І знік з кавярні пастаянны пах кавы і кухні, і людзі павярнулі галовы ў бок іх століка, на якім сваёй прыгажосцю дражнілася ліповая галінка.

— Божачка, які цуд! — не стрымалася Яна, узяла галінку ў рукі, апусціла твар у цвет.

— Чакай,— сказаў Ен, і ў той жа момант каля суквеццяў загула тоўстая, лянівая пчала.

— Атрымалася,— зноў шырока ўсміхнуўся Ен.

Яна, шчаслівая, прайшла праз усю залу да дзвярэй, адчуваючы на сабе зайздросныя позіркі ўражаных людзей, і ўжо на вуліцы спытала:

— Скажы, а ты ўсё гэтак можаш зрабіць?

— Усё — не ўсё, але ўмею многае. Я ж яшчэ вучуся, толькі трэці курс. Вось наш прафесар — той сапраўдныя цуды на практычных занятках робіць.

— А вось ты можаш зрабіць шматшмат кветак?

— На гэта час патрэбны,— адказаў Ен.— Для таго, каб восенню ўся гэтая вуліца расцвіла ружамі, мне

трэба яшчэ шмат чаго ведаць.

— Шчыра кажучы, я не паверыла спачатку, што ты — чарадзей. Думала, ты — як усе, проста пыл у вочы пускаеш. Тут мне адзін на днях абяцаўся зорку з неба дастаць. Але пры адной, праўда, умове...

— Якой?

— Пайсці з ім у ложак...

— І што ты?

— Я вельмі не люблю нерэальныя прапановы... Зорка з неба — гэта нерэальна!

Ён стрымана ўсміхнуўся.

— Мы не маем права хлусіць... А калі што абяцаем — абавязаны выканаць.

Яны доўга крочылі па вуліцы ў бок яе дома і маўчалі. Сцямнела, запаліліся вулічныя ліхтары, неба ачысцілася ад хмар, і месяц у апошняй квадры зірнуў на зямлю стомлена, самотна.

— Цікава,— сказала Яна.— Гэта ж можа быць столькі кветак!.. Калі ў студзені можна зрабіць мноства цюльпанаў ці гваздзікоў... Не па сабе нават робіцца...

— Не так проста, як табе здаецца. Але я гатовы зрабіць усё, каб табе было добра.

— Сапраўды? — узрадавалася Яна.— Дзякуй, лаўлю на слове. Я сабе ўяўляю твары маіх сябровак, калі на Новы год яны заваляцца да мяне. Заходзяць у пакой — а там поўна чорных цюльпанаў!..

— Чорных цюльпанаў не бывае,— сказаў Ён.

— Глупства! — запярэчыла Яна.— Будуць! Ты паклапоцішся і зробіш для мяне... трыста чорных цюльпанаў.

— Я чорныя не ўмею,— сказаў Ён.— Мы ўвогуле не робім таго, чаго ў прыродзе існаваць не можа.

— Чакай-чакай... Што гэта ты кажаш? А галінка ліпы? Яна ж не можа зацвісці ўвосень, так? А ты вось прымусіў яе.

— Тэарэтычна гэта магчыма. Ліпа восенню ўжо мае тыя сілы, каб выбухнуць кветкамі.

— Ну, добра... А вось як у казцы — за ноч дом збудаваць здолееш?

— Адзін — не. Гэта надзвычай складана... Ды і мець права на гэта буду толькі тады, калі атрымаю званне Майстра. А сярод чарадзееў такіх людзей няшмат. Мо адзін на тысячы.

— Гэта мне ўжо зусім нецікава слухаць,— сказала Яна.— А вось якія-небудзь канкрэтныя рэчы ты ўжо навучыўся рабіць?

— Напрыклад?

— Скажам, вялікую вазу з крышталю?...

— Калі вельмі-вельмі пастарацца, дык, думаю, змагу. Мы гэта ўжо вывучалі. Але ўлічы, што з нічога нічога і атрымаецца.

— Як так?

— Трэба шмат ведаць, я казаў ужо. Толькі тады будзе ўсё. І яшчэ — шмат працаваць.

— Я табе адно, а ты мне — зусім іншае! — раззлавалася Яна.— Ну вось глядзі: уявім сабе, што я згаджуся пайсці за цябе замуж. Уявім, будзе ў нас мядовы месяц, паедзем мы на мора. Не на цягніку ж, зразумела? Нам патрэбна будзе машына. Ты з гэтым згодны?

— Ты ўсё так адразу...— спыніўся Ён.— Я і прапановы яшчэ не паспеў зрабіць...

— Зноў ты пра нейкія фармальнасці!.. А што наконт машыны?

— На машыне, безумоўна, ехаць лепш. Думаю, я дамоўлюся з сябрамі.

— Слухай, што я кажу! Машыну ты зрабіць можаш? Зрабіць не ў сэнсе дамовіцца з сябрамі, а так, каб сёння яшчэ нічога няма, а заўтра — ключ ў кішэні ад уласнай машыны.

— Не. Прабач, але гэтак нам забаронена.

— Якое глупства! А ты ўсё зробіш так, каб ніхто ні пра што не даведаўся. Я ж усім скажу, што машыну бацькі мае прэзентавалі.

— Зразумей, не маю права. Нам забаронена рабіць што-небудзь такое, што паўплывае на лёс чалавека, на ход гісторыі, на абставіны.

— Ой, сціхні ты! Глупства вярзеш! — рэзка сказала Яна.—На мяне машына не можа паўплываць аніяк. Яна мне проста не пашкодзіць, але каго можа хваляваць, як я атрымаю яе!

— Ты памыляешся. Аўтамабіль — рэч прыкметная. Гэта не ліповая галінка.

Яна спынілася.

— У тым і справа. Чарадзей... Не, я табе ўсё ж не веру. Ты то адно кажаш, то зусім іншае. Навучыўся там недзе нейкім фокусам, а цяпер выстаўляешся перада мной. «Нас вучаць, мы не маем права...» Цябе жанчына просіць! Жанчына!.. Так што кінь там свае песенькі спяваць! Скажы лепш, што не ведаеш, як да мяне падкаціцца, вось і навыдумляў з поўны мех. А лепшае тваё чарадзейства, думаю,— ачко выкінуць на дзвюх картах! Думаеш, з дурніцай сустрэўся? Як бы не так! І ліпа твая — цяпер ведаю — ліпа і ёсць, чысты фокус! Можа, ты яе з каўняра выцягнуў! Лапшу на вушы вешаеш, а ўсё гэта прыгожымі слоўцамі прыкрываеш!

Яна шпурнула ліповую галінку ў лужыну.

— Нашто ты гэтак?! — пакрыўдзіўся Ён.— Я ж стараўся дзеля цябе, яна сапраўды атрымалася як жывая. Таму што... мне здаецца, што я кахаю цябе!

— Вось-вось, як жывая! — засмяялася Яна.— Фокусы-покусы адны. Яму здаецца... Колькі ўжо такога чула! А калі табе не здаецца, калі кахаеш, дык збудуй мне палац. Каб было мне дзе жыць. Каб у палацы тым было ўсё — і тэлевізар каляровы, і стэрэасістэма японская з моднай музыкай, і мэбля югаслаўская, і дываны натуральныя, і паліцы з кнігамі, і кафля на кухні з малюнкамі, і паркет дубовы...

— І кот сіямскі,— ціха дадаў Ён.

— Адкуль ты пра ката ведаеш? — здзівілася Яна.

— Ён уключаны ў набор нумар адзін з раздзела «Мяшчанская псіхалогія і побыт»,— адказаў Ён.— Пра гэта прафесар папярэджваў нас яшчэ на ўступнай лекцыі.

— Слухай, мне абрыдлі твае жартачкі! — закрычала Яна.— Ты хлусіш увесь час, не разумеючы, што надышлі тыя хвіліны, калі трэба матаць вуды і больш мне вочы не мазоліць!

— Я ніколі не хлушу! — упарта адказаў Ён.— Я сапраўды магу зрабіць і палац, і паркет у ім, і нават ката, няхай сабе і сіямскага. Мне ўвогуле без розніцы што — дыван натуральны ці магнітафон японскі. Галоўнае для мяне — як?

— Ну і як жа, цікава? — іранічна спытала Яна.

— Сумленнай працай. Тады і будзе ўсё.

— Ты — дурань! — Яна кінула гэта Яму проста ў твар.— А на дурняў у мяне часу няма!

— Чакай! — папрасіў Ён.— Нашто ты так? Я сапраўды гатовы зрабіць усё, што б ты ні папрасіла. Але нельга патрабаваць ад мяне тое, што рабіць я не маю права.

— Усё сказаў? — спытала Яна.— Выдатна!

Яна зірнула на абыякавае неба.

— Ведаеш што... Дастань ты мне вунь тую зорку... Бачыш, сярэднюю ў ручцы да карца Вялікай Мядзведзіцы. Тады і размаўляць будзем пра каханне.

— Табе патрэбны Міцар? Добра...— адказаў Ён.

Яна гучна зарагатала.

— Ты — сапраўдны дурань! Не разумею толькі, чаму я з'явілася на спатканне. Чым ты мяне прываражыў, не ведаеш?

— Міцар будзе ў цябе,— сказаў Ён.

— А я — ведаю,— не пачула Яна.— Сваёй празрыстасцю, вось чым. Цябе наскрозь відаць. Ты ж — пусты, як шкло!..

— Будзе сёння...— паўтарыў Ён.

— Ты — не мужчына, які здольны прызнаць сваю памылку, які здольны зрабіць гэтую памылку ўласнай перамогай над жанчынай. Ты — проста нішто. Хоць не... Ты — ніякі брахун. Іншыя хоць брэшуць, ды весела, заслухацца можна. А ты нават хлусіш бездапаможна.

Ён зусім не абразіўся.

— Я буду чарадзеем! Буду Майстрам!

— Майстрам па унітазах!.. Хопіць з мяне! — абарвала Яна размову.— Калі ты чарадзей, дык зірні ў канспект ды зрабі мне тры рублі. Сапраўдныя. А таксі я сама як-небудзь знайду.

Ён выцягнуў з кішэні скамечаную паперку.

— Якая казачная шчодрасць!..— з іроніяй у голасе сказала Яна.— Мяне з-за іх не арыштуюць? Спадзяюся, не бутафорскія?

— Апошнія,— адказаў Ён.— Усё, што засталося ў мяне ад стыпендыі.

— Ой, не магу! — зарагатала Яна.— Стыпендыя... Ты, чарадзей, думаў на стыпендыю палац будаваць? Дурны ж ты дурны... Куды табе да палацаў! Бывай, чарадзей, вучыся на «пяцёркі»!

Але перш чым сесці ў таксі, Яна пачула ягоны голас.

— Ты прасіла зорку!..

— Пакінь яе каля маіх дзвярэй! — крыкнула Яна і бразнула дзверцамі...

Зорку Яна ўбачыла адразу ж, як толькі выйшла з кабіны ліфта. Міцар, пераліваючыся дзівоснымі фарбамі, ляжаў на пасцілцы каля дзвярэй яе аднапакаёўкі. Нейкае незвычайнае, незямное цяпло випраменьвалася з невялічкага, з кулак велічынёй, празрыстага кавалка. Уражаная, Яна асцярожна пераступіла цераз зорку, адчыніла дзверы ў кватэру, прабегла праз пакой на балкон. Ёй хапіла імгнення, каб пераканацца: Міцара, сярэдняй зоркі ў ручцы карца Вялікай Мядзведзіцы, на месцы не было!

— Божачка!..— прастагнала Яна.— Што ж я нарабіла... Я нават не ведаю, дзе яго цяпер шукаць!..

Праз адчыненыя дзверы ў пакой лілося бледнае, дрыготкае святло абыякавай да ўсяго на свеце зоркі. Яна ўзяла Міцар у рукі, прыціснула зорку да грудзей і адразу пачула чарадзейную, таямнічую музыку.

Музыку, якую чалавек можа пачуць толькі адзін раз за ўсё жыццё...








# «наша мова такая ж людская...»

Гэтыя словы, сказаныя сто гадоў таму Францішкам Багушэвічам, і дасягоння актуальныя. Беларускі народ, ідучы да лепшых дзён праз цяжкія выпрабаванні, страціў на сваім шляху, бадай, самае галоўнае — патрэбу ў роднай мове. Асноўная ўмова захавання нацыі — захаванне яе мовы — сёння для нас, магчыма, адзіная...

Свой пункт гледжання на мінулае і сучаснае беларускай мовы выказвае Вінцук Вячорка, выкладчык Мінскага педагагічнага інстытута.

**— Зараз шмат кажуць пра неабходнасць адраджэння беларускай мовы. Але ж у гісторыі Беларусі ўжо былі такія перыяды. Важна, па-мойму, выкарыстаць вопыт 20-х гадоў. Маё першае пытанне датычыцца якраз іх, калі былі створаны найбольш спрыяльныя ўмовы для нацыянальнага адраджэння. Калі ласка, некалькі словаў аб становішчы беларускай мовы ў той час.**

— У 20-ыя гады прафесія мовазнаўцы была адной з самых папулярных у рэс-

ПОГЛЯД

публіцы, а лінгвістычныя праблемы — у цэнтры ўвагі ўсяго грамадства. Палітыка беларусізацыі стала здзяйсненнем думкі У. І. Леніна пра «дэталёвы кодэкс» ужывання і аховы нацыянальных моў. Можна сцвярджаць, што дзякуючы беларусізацыі мільёны людзей абудзіліся да культурнага і палітычнага жыцця. Беларуская літаратурная мова паступова станавілася мовай усёй сістэмы адукацыі, навукі, дзяржаўнага кіравання — карацей, паўнацэннай мовай нацыі, якая мае сваю дзяржаўнасць. І хутка папаўнялася словамі — з мясцовых гаворак, са старабеларускай літаратуры, з іншых моў, неалагізмамі. Мова адраджалася для вечнага жыцця на друкаваных старонках; мільёны беларусаў схіліліся над сшыткамі, кнігамі, вяртаючы сабе галоўную спадчыну продкаў.

З непазбежнасцю выявілася, што не ўсё адладжана ў алфавіце, правапісе, зафіксаваным Браніславам Тарашкевічам у «Беларускай граматыцы для школ» 1918 года. Браты Язэп і Антон Лёсікі выпусцілі некалькі публікатак, у якіх ставілі пытанне аб рэформе правапісу.

**— І гэта, мусіць, прывяло да склікання Акадэмічнай канферэнцыі 1926 года!**

— Так. Адной з найбольш значных падзей 20-х гадоў у навуцы стала Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Пазней, у 1931 годзе, «брыгада кафедры марксізма-ленінізма Беларускай Акадэміі навук» у складзе Л. Бабровіча, І. Шпілеўскага, В. Бандарэнка, С. Вальфсона і Я. Мацюкевіча выпусціла кніжку «Навука на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі». Акадэмічная канферэнцыя там названа «генеральным злётам нацдэмаўскіх контррэвалюцыянераў». За што «брыгада» узнагароджвала тытулам нацдэма і контррэвалюцыянера, я яшчэ скажу. Зараз жа хачу звярнуць вашу ўвагу на тое, што канферэнцыі сталіністы баяліся не дарма: яна стала святам, маніфестацыяй беларускага Адраджэння. Сабраліся вядучыя філолагі, гісторыкі, літаратары з БССР, беларускія вучоныя з Літвы, Латвіі, Чэхаславакіі: Язэп Лёсік, Сцяпан Некрашэвіч, Пятро Бузук, Язэп Воўк-Левановіч, Янка Бялькевіч, Вацлаў Ластоўскі, Уладзімір Жылка і іншыя. Госцем канферэнцыі быў, у прыватнасці, латышскі паэт Яніс Райніс, які пасля ў сваім артыкуле паведаміць, што ў зале клуба імя Карла Маркса дамінавалі бел-чырвона-белыя сімвалы. І гэта, падкрэслю, было пры Савецкай уладзе. На жаль, урад Польшчы, дзе ўстанавілася дыктатура Пілсудскага, не даў віз на выезд з Заходняй Беларусі такім вядомым вучоным, як Браніслаў Тарашкевіч, Антон Луцкевіч, Ігнат Дварчанін.

**— Якія пытанні разглядала Акадэмічная канферэнцыя!**

— Асноўная дыскусія вялася вакол рэформы беларускага алфавіту. Кірыліца не адлюстроўвала ўвесь гукавы склад беларускай мовы, яе літар не хапала на гукі «дз» і «дж», для абазначэння якіх і зараз выкарыстоўваюцца па дзве літары. Прапаноўвалася абазначаць гэтыя гукі на пісьме сербскімі літарамі, лацінскім «z». Былі і арыгінальныя прапановы. Так, паэт Уладзімір Дубоўка для графічнага выяўлення гука «дж» выказваўся за літару, якая была падобная на перакрыжаваныя серп і молат. Некаторыя ўдзельнікі канферэнцыі прапаноўвалі ў словах тыпу «яблык», «ён» карыстаецца літарай «j». Цішка Гартны, першы прэм'ер БССР, паэт, празаік і выдавец, лічыў неабходным вярнуцца да лацінскага алфавіту, якім беларусы пісалі і друкавалі кнігі на працягу XVII — пачатку XX стагоддзяў. Вацлаў Ластоўскі быў за вяртанне асаблівасцяў правапісу XV—XVI стагоддзяў. Напрыклад, ён настойваў на частковым захаванні напісання ненаціскных «е» і «о»: «зелёны», «докумэнт», якія зараз абазначаюцца праз «я» і «а». Ластоўскі ж выказваўся супраць абазначэння на пісьме мяккіх «дзь» і «ць» і прапаноўваў «д» і «т». Такім чынам, словы «дзеці» з характэрным беларускім «дзеканнем» і «цеканнем» мы павінны былі б пісаць «деті»: маўляў, беларусы і гэтак прачытаюць правільна.

Што датычыцца дыскусіі па правапісе, дык асноўная паленіка вялася вакол запазычаных слоў (як пісаць: «дэкада» ці «дакада», «канонічны» ці «кананічны»), вакол «якання» ў спрадвечна беларускіх словах (спрачаліся, як лепш: «нясьціханы» ці «несьціханы»).

Адносна мала ўвагі на канферэнцыі было да мяккага знака ў словах тыпу «сьвятло», «позьні», «дзьверы», «насеньне», «ральля». Ініцыятарам яго скасавання выступілі не хто іншы, як пазней рэпрэсіраваныя Язэп Лёсік і Вацлаў Ластоўскі. Яны кіраваліся ідэалістычным уяўленнем, што кожны беларус і без «ь» будзе вымаўляць гэтыя словы правільна. Акрамя таго, згодна з падлікамі, скасаванне мяккага знака абяцала вялікую эканомію паперы.

Іх не падтрымалі ў першую чаргу педагогі-практыкі. Напрыклад, настаўнік Мялешка заявіў, што калі некаторыя правілы выклікаюць у дзяцей цяжкасці пры засваенні, дык мяккі знак у словах тыпу «сьвет» яны пішуць аўтаматычна. (Ад сябе дадам, што мая дачка з пяці гадоў у такіх словах упарта піша мяккі знак, хоць ніхто яе гэтаму не вучыў.)

Пасля галасавання выявілася, што большасць удзельнікаў Акадэмічнай канферэнцыі выступаюць за ўвядзенне ў беларускі алфавіт лацінскай літары «j», спецыяльных літар для абазначэння гукаў «дз» і «дж», прапаноўваюць пісаць запазычаныя словы так, як і спрадвечна беларускія,— з «аканнем». Па пытанні абазначэння мяккасці зычных галасаванне не праводзілася.

Для дапрацоўкі і выканання рашэнняў канферэнцыі былі створаны камісіі — графічная і па правапісе. Адзначу, што часопіс «Узвышша» пачаў ужываць спецыяльныя літары, што абазначалі гукі «дз» і «дж», не чакаючы афіцыйнага рашэння.

**— А чаму няма сведчанняў аб выніках работы камісій, створаных Акадэмічнай канферэнцыяй!**

— Справа ў тым, што ў канцы 20-х гадоў адбыўся «вялікі пералом», палітычная сітуацыя змянілася, і гэта не магло не ўплываць на іншыя сферы грамадскага жыцця. У Савецкай Беларусі пачаліся пошукі «нацыянал-дэмакратаў», гэта значыць людзей, што, як сцвярджалася, збіраліся аб'яднаць Савецкую і Заходнюю Беларусь, аднавіць буржуазны лад і выйсці са складу СССР. Зразумела, ніякіх доказаў у абвінаваўцаў не было, яны карысталіся асобнымі выцінкамі з твораў таго ж Вацлава Ластоўскага або Максіма Гарэцкага, дзе казалася пра беларускую мову як пра нацыянальнае багацце дзесяцімільённага народа, як аб галоўнай яго спадчыне. «Брыгада кафедры марксізма-ленінізма Беларускай Акадэміі навук» вінавачіла дзеячаў беларускай культуры ў тым, што яны звярталіся да гісторыі свайго народа. «...яны,— цытую «Навуку на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі»,— стварылі культ Францішка Скарыны,ператворанага побач з Кастусём Каліноўскім у гістарычнага продка Беларускай Савецкай Рэспублікі, у асновапалажніка сучаснай беларускай культуры, у найвышэйшы аўтарытэт у пытаннях беларускай словатворчасці. Яшчэ ў 1917 годзе Язэп Лёсік у рэдагаванай ім «Вольнай Беларусі» так падносіў хвалу 400-годдзю выпуску Скарынаю біблії на беларускай мове: «В сей день его же сотвори Господь, возрадуемся и возвеселимся в оном». У тым жа нумары Максім Гарэцкі заклікаў паставіць помнік «вялікаму русіну, шчыраму сыну Белай Русі».

Пасля такога сур'ёзнага па тым часе абвінавачання заставалася перадаць справу ў ДПУ.

Многіх пісьменнікаў і мовазнаўцаў, якія выкарыстоўвалі для ўзбагачэння літаратурнай мовы народныя гаворкі, таксама абвінавачвалі ў нацдэмаўшчыне. Паводле меркавання раней названай «брыгады», трэба было запісваць мову пралетарскага горада, а не адсталай вёскі. З пункту гледжання сапраўднай навукі гэта гучыць смешна, аднак такія былі ў той час ідэалагічныя ўстаноўкі.

У 1930 годзе газеты апублікавалі праект беларускага правапісу, у распрацоўцы якога ўдзельнічалі браты Лёсікі, Вацлаў Ластоўскі, Янка Купала і Якуб Колас. Вострая палеміка ішла на гэты раз вакол мяккага знака. Купала катэгарычна выказаўся за яго захаванне. Браты Лёсікі і іх пляміннік Якуб Колас настойвалі на скасаванні графічнага абазначэння мяккасці. На этапе карэктуры камісія вырашыла прыняць прапанову Лёсікаў, аднак праект адзначаў катэгарычнае адмаўленне правіла Янкам Купалам.

Пазней становішча ў беларускім мовазнаўстве «стабілізавалася». Але якім коштам! Адзін за другім былі арыштаваныя Язэп і Антон Лёсікі, Вацлаў Ластоўскі, Сцяпан Некрашэвіч, Максім Гарэцкі, Янка Бялькевіч і шмат іншых дзеячаў беларускага Адраджэння. Янка Купала, якога АДПУ хацела зрабіць галоўным сведкам супраць «нацдэмаў», спрабаваў скончыць жыццё самагубствам, а пасля адышоў ад навуковай дзейнасці. Скончыў жыццё самагубствам прэзідэнт Беларускай Акадэміі навук, гісторык Усевалад Ігнатоўскі, якога прымушалі сведчыць супраць сумленных вучоных. Вядучымі мовазнаўцамі рэспублікі ў гэты час становяцца Язэп Мацюкевіч і да яго падобныя з «брыгады кафедры марксізма-ленінізма». Прамы вынік іх дзейнасці — рэформа 1933 года.

**— Я чытаў газеты тых гадоў і не знайшоў дыскусіі аб моўнай рэформе...**

— Надрукаваны ў газетах праект шырока не абмяркоўваўся. Ва ўсякім разе, я не ведаю аб існаванні пратаколаў нейкіх паседжанняў, прысвечаных рэформе, у інстытуце мовазнаўства нашай Акадэміі.

**— Што змяніла рэформа ў беларускім правапісе!**

— Было скасавана — на гэты раз без уліку меркавання Янкі Купалы ці каго б там ні было — графічнае абазначэнне мяккасці зычных у словах тыпу «сьлед», «зьвер», «дзьверы», «гальлё».

У праекце рэформы 1933 года не прадугледжвалася мяняць напісанне запазычаных слоў. А розніца паміж іх напісаннем і, адпаведна, вымаўленнем у рускай і беларускай мовах значная. Так, па-руску будзе «план», «Голландия», «пенсия», бо ў рускую мову гэтыя словы трапілі праз кнігі і вымаўляюцца па літарах. Паколькі наш народ непасрэдна кантактаваў з заходнееўрапейскімі, а з XVI стагоддзя ў калегіумах і школах вывучалася лацінская мова, дык запазычваліся словы ў іх жывым вымаўленні. І таму ў беларускай мове захоўвалася вымаўленне моў-арыгіналаў: «плян», «пэнсія», «газэта», «Амэрыка». Пастанова ж Савета Народных Камісараў БССР абавязвала пісаць і гаварыць «план», «пенсія», «метр». Чым гэта было выклікана? У тэксце пастановы кажацца аб «традыцыйным распаўсюджаным у БССР вымаўленні». Але гэта няпраўда. І зараз старыя людзі ў многіх раёнах Беларусі вымаўляюць запазычаныя словы па-ранейшаму. Трэба думаць, што ў 1933 годзе надта моцнае было імкненне «сближать» і «сливать» мовы.

Самым незразумелым з пункту гледжання навукі было ўмяшанне ў граматычныя правілы. Бо граматыка ж заўсёды фіксавала жывую мову, а не дыктавала, якой ёй быць. Рэформа змяніла канчаткі назоўнікаў. Паводле «Граматыкі» Тарашкевіча правільным было пісаць «у гарадох», «у кіпцюрох», «у палёх». І зараз сельскія жыхары шмат якіх раёнаў кажуць так. Пастанова СНК БССР абавязвала пісаць словы з канчаткамі -ах, -ях. На ўсходзе Беларусі ёсць дыялекты, дзе ўжываюцца такія канчаткі, але ж беларуская літаратурная мова фарміравалася на аснове цэнтральных і паўночна-заходніх дыялектаў, у якіх прыняты -ох, -ёх! І тут ідэалогія «сближения» і «сливания» перамагла.

Тыя, хто праводзіў рэформу, абвінавачвалі «нацдэмаў» у наўмысным аддаленні літаратурнай мовы ад народа, да чаго быццам бы вядзе вымаўленне запазычаных слоў, блізкае да вымаўлення ў мовах-арыгіналах («калёквіум», «мэтад» і г. д.). Аднак яны ж, рэфарматары, увялі супярэчны натуральнай беларускай мове правапіс гэтак званых інтэрнацыянальна-рэвалюцыйных слоў: «комунізм», «большэвік», «соцыялізм», «піонер», «рэволюцыя»... У пяцідзесятыя гады гэтае правіла, як найбольш абсурднае, скасавалі.

**— Якую ацэнку вы далі б рэформе правапісу 1933 года, зыходзячы з сённяшніх дэмакратычных пераўтварэнняў!**

— Я думаю, ужо таму, што рэформа шмат у чым супярэчыла рашэнням канферэнцыі 1926 года, што яе палажэнні не адпавядалі распрацоўкам, праведзеным у дэмакратычных умовах пры ўдзеле вядучых нашых мовазнаўцаў,— ужо таму яе трэба пераглядзець. У рэформе ёсць пункты, якія нават нельга назваць навуковымі. Так, калі рэгламентацыя правапісу ў прынцыпе натуральная, то дыктат над вымаўленнем і граматыкай недапушчальны. Або чым растлумачыць, што словы тыпу «камунізм», «інтэрнацыяналізм» у родным склоне рэкамендуецца пісаць з канчаткам -а, а «капіталізм», «імперыялізм» — з канчаткам -у? Вядома ж, не навуковымі, а ідэалагічнымі меркаваннямі.

**— Яшчэ адным напрамкам, па якім праводзілася нівеліраванне беларускай мовы, былі паступовыя змены ў слоўнікавым запасе шляхам калькавання з рускай мовы.**

— Так, кантраст паміж слоўнікамі 20-х і 30-х гадоў відавочны. У 30-я гады як «нацдэмаўскія штучкі» са слоўнікаў выпалі словы «суполка» («кааператыў»), «раўналежны» («паралельны») і шмат іншых. Кандрат Крапіва катэгарычна выказваўся супраць слоў «цягнік», «апавядаць», «менавіта», «апранаць» (трэба, маўляў, «поезд», «расказваць», «імення», «адзяваць»). Таму не здзіўляйцеся, сустракаючы ў слоўніках «плацце», «карандаш» і іншыя словы-русізмы.

**— Вы сказалі, што трэба пераглядзець рэформу 1933 года. Менавіта цяпер!**

— Менавіта цяпер, пакуль беларуская мова знаходзіцца ў крызісе, пакуль сфера яе ўжытку і колькасць беларускамоўных людзей мінімальныя. Падобная аперацыя будзе не гэткай балючай, чым тады, калі падвоіцца, патроіцца лік людзей, якія размаўляюць па-беларуску.

Нехта можа спрачацца, што цяпер не час займацца гэтым, трэба адраджаць сферы бытавання мовы. Але якую мову нам адраджаць — халодную, казённую ў неўласцівым ёй графічным аблічча ці мяккую, самабытную?

Выкладаючы ў інстытуце, я ведаю, з якімі цяжкасцямі пры вывучэнні беларускай мовы сутыкаюцца студэнты, асабліва тыя, хто вучыў яе толькі як школьны прадмет. Яны не разумеюць, чаму словы «свята», «шчасце», «шчырасць» трэба вымаўляць з мяккім «с». Яны не разумеюць, чаму асаблівай мяккасцю беларускай мовы захапляўся Уладзімір Дубоўка, лічачь яе цвёрдай. Стэрэатып «як чуецца, гэтак і пішацца» пераўтварыўся ў другі — «як пішацца, гэтак і вымаўляецца». Значыць, трэба вяртацца да ранейшага правапісу. На мой погляд, трэба вярнуць не толькі мяккі знак, але і мяккасць «л» і цвёрдасць іншых зычных у словах, запазычаных з заходнееўрапейскіх моў, канчаткі -ох, -ёх у творным і месным склонах, увесці (ці больш дакладна — адрадзіць) літары для абазначэння гукаў «дз» і «дж».

**— Але і без пашырэння сфер бытавання мовы таксама не абысціся!**

— Вядома. Абодва гэтыя працэсы павінны праходзіць аднычасова. Нам у рэспубліцы патрэбна непарыўная сістэма адукацыі на роднай мове, пачынаючы з дашкольных устаноў і канчаючы ВНУ. Дарэчы, прынцып непарыўнасці адукацыі на беларускай мове зафіксаваны законам, аднак на практыцы ён не ажыццяўляецца. Праўда, нейкія зрухі ўжо ёсць. Як паведамілі ў Міністэрстве народнай адукацыі БССР, у новым навучальным годзе дзевяць мінскіх школ будуць вучыць усіх першакласнікаў на беларускай мове. Гэта ўжо штосьці, хоць для паўтарамільённага горада і занадта мала.

Мне могуць запярэчыць: не кожная маці аддасць сваё дзіця ў школу з беларускай мовай навучання. Згаджуся. Але ж становішча не зменіцца да тае пары, пакуль бацькі не ўбачаць рэальнай сацыяльнай перспектывы беларускамоўнай адукацыі, пакуль яны не упэўняцца, што беларуская мова спатрэбіцца іх сыну ці дачцэ не толькі для вучобы ў тэхнікуме ці інстытуце, але і для працы на вытворчасці, у тэхнічным бюро.

Даць такія гарантыі можа толькі канстытуцыйнае замацаванне дзяржаўнасці беларускай мовы. Час зразумець, што наша мова не можа развівацца нідзе, акрамя як на нашай зямлі.

**— Ці не стане гэта чарговым навязваннем адзінага пункту гледжання ўсяму народу! Бо калі правесці рэферэндум, баюся, большасць насельніцтва рэспублікі выкажацца супраць дзяржаўнасці роднай мовы. Парадокс, вядома: беларусы супраць беларускай мовы...**

— Шмат хто не ўяўляе сабе, што такое дзяржаўнасць мовы і чым гэта для іх абернецца. Існуюць наіўныя меркаванні, быццам, калі будзе прынята такое рашэнне, з заўтрашняга для усе павінны карыстацца толькі дзяржаўнай мовай. Але ж гэта абсурд! Дзяржаўнасць мовы азначае найперш справаводства на ёй, сістэму адукацыі на ёй, навучанне мове за дзяржаўны кошт. Калі каму-небудзь і варта баяцца дзяржаўнасці беларускай мовы, дык гэта чыноўнікам, бо яны павінны будуць валодаць дзяржаўнай мовай.

Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы мог бы стаць пачаткам рэалізацыі праграмы беларусізацыі. Нашай мове патрэбна «ахоўная грамата», канстытуцыйная абарона.

У межах усенароднага абмеркавання праекта закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы можна было б весці дыскусію і аб яе рэформе. Тады рэспубліканская навуковая канферэнцыя максімальна дэмакратычна і галосна вырашыла б, якой быць роднай мове.

**Гутарку вёў**
**Аляксандр ЛІПАЙ**

зала
люстраная

## НЕ ХАПІЛА СМЕЛАСЦІ

Вось ужо 2 гады, як хачу напісаць гэты ліст. Усё ніяк не хапала смеласці, дый шчыра кажучы, лянаваўся за ручку ўзяцца. Няраз я думаў, які друкаваны орган можа гаварыць са мною. 1 год назад мне трапіў у рукі ваш часопіс. Ен мне спадабаўся, што называецца з першага погляду, і я адразу ж вырашыў выпісаць яго на наступны год. Мяркуючы па накірунку вашага «дзіцяці», вы ёсць той адзіны суразмоўца, з якім я, відаць, знайду агульную мову. Мяне пачынае трывожыць самае важнае пытанне: «Чаму з кожным днём у нас у краіне робіцца ўсё горш і горш?» Я ўжо турбуюся, што чакае мяне заўтра? Вось сядзіш часам ды думаеш: «А ці не памру я з голаду ?» З забеспячэннем таварамі ў нашым горадзе горш, чым дзе. Я шмат разоў быў у Гомелі, Віцебску, Магілёве — гэтыя гарады ў параўнанні са сталіцаю як неба і зямля. У Гомелі, напрыклад, я дзіўлюся колькасці прадуктаў, культурна-масавых тавараў на прылаўках. У мяне не хапае сіл больш жыць у Маскве. З кожным днём тут знікаюць самыя неабходныя тавары штодзённага попыту. Знік цукар, на яго ўвялі карткі, але і па картках яго няма ні ў адным магазіне. Знік сыр, звычайны сыр, які некалькі месяцаў таму быў на кожным рагу. Знікла мыла. Я ўжо даўно зразумеў, што дэфіцыт у нас вельмі выгодны для чыйгосьці шыкоўнага жыцця. У масцовых газетах пішуць пра схаваныя торбы цукру, схаваны цукровы парашок, схаваную каву, мяса і іншыя дэфіцытныя тавары. Справа ў тым, што для «гандляроў» такія аперацыі і пры раскрыцці АБРСМ (аддзелам барацьбы з раскраданнем сацыялістычнай маёмасці — рэд.) — ніяк не караюцца!!! Схаваны тавар яны могуць прадаць утрая даражэй, а то і болей. Мне абрыдла, абрыдла жыць у гэтай Маскве. Я ведаю, як з усёй краіны рвуцца ў сталіцу, але я жыць у ёй не хачу. Магу з задавальненнем саступіць каму-небудзь месца. 1 паехаць жыць да вас, на Беларусь, дзе жывуць годныя людзі, дзе жывуць мае сябры. Надрукуйце мой ліст, бо мая прапанова можа каго-небудзь зацікавіць і супадзе пункт погляду.

А што скажаце Вы, паважаныя «крынічане»?

З пашанай і глыбокай прызнанасцю,
**Дзмітрый ЦЕРАКАЎ,**
**16 гадоў, г. Масква**

## КАХАЮ ІНШАЗЕМЦА

**Я даўно выпісваю ваш часопіс «Крыніца» і заўсёды чытаю «Люстраную залу». Там пішуць шмат і аб розным, але я не сустракала адказу на сваё пытанне. Я даўно хацела напісаць, але ўсё не рашалася, а цяпер вось проста не магу не напісаць, я вельмі хвалююся (не ведаю, ці разумееце вы мяне).**

**Тое, праз што я пакутую, я не магу расказаць зараз нікому, ніхто не разумее мяне, многія пагарджаюць, але паспрабаваць зразумець не хоча ніхто. Нават маці, самы блізкі чалавек, не хоча зразумець мяне. Але пачну па парадку, каб вы зразумелі.**

**Я вучуся ў 10-ым класе. 1 вось ужо год кахаю іншаземца, так, так — іншаземца і ледзь не ўвесь гэты год жыву ў кашмары. Мы сустрэліся выпадкова і пакахалі адно аднаго. Сустракаліся кожнага дня, бо не можам жыць адно без аднаго (сустракаемся і цяпер). Я часта бываю ў яго ў інтэрнаце, а ён у мяне дома (калі бацькоў няма дома) — і мы былі шчаслівыя.**

**Але аднаго разу я пазнаёміла яго са сваёй лепшай сяброўкаю, я расказала ёй усё, што адчуваю да яго і як ён да мяне ставіцца. Паступова я расказвала ёй амаль усё пра кожную нашую сустрэчу, проста я не магла насіць гэта ў сабе (хоць гэта было б лепей). Сяброўка ставілася да маіх расказаў спакойна, не казала ні «за», ні «супраць». Але вось недзе праз месяц я адчула, што ў класе да мяне змяніліся адносіны. Спачатку я не звяртала ўвагі на гэта, але аднойчы я зусім выпадкова пачула размову пра сябе, дзе мяне «аблівалі гразёю» і параўноўвалі з прастытуткай. Пасля ўсяго пачутага я доўга не магла прыйсці ў сябе. А калі ўсё зразумела — была размова з сяброўкаю, пасля якой мне ў класе пачалі казаць у вочы ўсё, што пра мяне думаюць. Мяне пастаянна абзываюць, некаторыя хлопцы проста, не саромеючыся, сталі прапаноўваць мне грошы за адну праведзеную з імі ноч («Спіш жа з чорнымі, дык чым мы горш» — казалі яны мне). Я не магу зразумець, чаму яны так рэзка змянілі думку аба мне. Ці ўсё залежыць толькі ад колеру скуры майго сябра! Ніхто не хоча зразумець мяне. Мяне і маё каханне ўтапталі ў бруд (утоптваюць і цяпер). Калі ж я расказала ўсё маці, дык яна проста аблаяла мяне і папярэдзіла, каб я на ўсё забылася, кінула яго, а пра замужжа з ім нават і не думала. Цяпер я не веру нікому: мне здрадзіла сяброўка, прыніжаюць сябры, нават маці гатовая кінуць у любы момант, калі я «абняслаўлю» яе, так, маё каханне яна называе ганьбаю!**

**Я кахаю і сустракаюся са сваім каханым, хоць цяпер са страхам — раптам хто-небудзь з аднакласнікаў ці знаёмых убачыць...**

**Я не веру ні ў кога і ні ў што, і я рада, што ніколі не ўбачу сваіх аднакласнікаў (мы падалі заяву і, як толькі распішамся, адразу ж паедзем).**

**Цяпер мяне нішто не хвалюе — у мяне ж ёсць чалавек, які кахае і разумее мяне і хутка нас будзе трое. Я ненавіджу сваіх «сяброў», сваю маці і хачу хутчэй паехаць.**

**Я не ведаю, ці зразумелі вы мяне, але мне трэба было расказаць гэта каму-небудзь (напэўна, не адна я такое перажыла, а нехта, можа, яшчэ перажыве). Я не спадзяюся, што вы надрукуеце гэта, але такое бывае і нікуды ад гэтага не дзенешся. Можа, і ёсць людзі, якія б зразумелі мяне, але я іх, на жаль, не сустракала; большасць кажа адно, робіць другое, а думае трэцяе. Я не магу зразумець, чаму сувязь з іншаземцамі лічаць чымсьці нізкім, вартым пагарды, Чаму! Хіба яны не людзі! Чым яны горшыя за нас, а многія нават нашмат лепшыя і культурнейшыя за нашых хлопцаў.**

**Я не ведаю, як складзецца маё жыццё там, але ведаю, што ў мяне будзе плячо, на якое я змагу абаперціся ў цяжкую хвіліну, але мне так хацелася б пачуць словы падтрымкі і разумення тут...**

**З павагаю Наташа Н.**

## А ЛЮСТЭРКА Ў АДКАЗ...

Добры дзень!

Хачу спытацца ў хлопцаў, што рабіць нам, прыгожым дзяўчатам? Вы ж на нас і не глядзіце. Ці вы строга прытрымліваецеся думкі: «Прыгожая жанчына альбо разбэшчаная альбо дурная?» Бо калі пройдзеш па горадзе, дык у твой бок заўсёды адно чуваць: «Кошачка, хадзем са мною, не пашкадуеш». Як вы не зразумееце, што гідка ўсё гэта чуць.

Мне 19 гадоў, а я дагэтуль адна. Чаму? Ды таму, што ў рэстаран я не хаджу, няма ў чым, дый фінансы не дазваляюць. На дыскатэкі, дык нібыта ўжо старая для іх, там тыя, каму 14—15 гадоў. Кіно, прагулкі па горадзе? Дзе ж вас шукаць, хлопцы? Усе звычайныя, простыя дзяўчынкі вас пазабіралі. І вы кахаеце адно аднаго, і гэта цудоўна. І яна не прыгажуня, але для яго як мадона. А я і сімпатычная, але адна. Крыўдна!!! Не, я нічога ад вас не патрабую, проста я хачу, каб вы звярталі ўвагу і на сімпатычных дзяўчынак. Мы ж таксама добрыя і пяшчотныя. Мы таксама можам кахаць. І не разбэшчаныя мы, і не дурныя!

Я шмат разоў праклінала сваю знешнасць. Ну навошта яна мне патрэбная? Цяпер я пераканалася: «Не нарадзіся красівая, а нарадзіся шчаслівая». Няўжо гэта так? Так, напэўна. Я звяртаюся да вас, хлопцы. Дарагія нашы, разгледзьце ў нас тое, чаго не бачаць многія, разгледзьце дабрыню, сціпласць, нашую простую душу. Мы ж зусім не ганарлівыя, мы так хочам сустракацца з вамі, сварыцца, мірыцца, не бойцеся да нас падыходзіць!

Не, я не хачу, каб, прачытаўшы мой ліст, многія захацелі напісаць мне, пачаць перапіску. Я ў сяброўства па перапісцы не веру, быў выпадак, выявілася, што ён жанаты. Я хачу, каб вы адказалі мне і напісалі ў часопісе свае думкі, пачуцці. Можа, я не так жыву. Напішыце, якой вы бачыце сучасную дзяўчыну, што за якасці ў ёй цэніце. А то я буду думаць, што выказванне: «А что такое красота, и почему ее обожествляют люди? Сосуд она, в котором пустота, или огонь мерцающий в сосуде?» — у нашым жыцці рэальнае.

З павагаю
**А. З.**



**«Адзінокасць»** **Фота Генадзя КАРЧЭЎСКАГА** (Магілёў)

## МАМА, ЛЮБАЯ МАМА...

**Дзень добры, «Крыніца», пішу табе першы раз. Можа, і не напісала б, але я такая нешчаслівая, у мяне заўсёды адны няўдачы. Я «не пераварваю» сваю маці, яна вельмі злая, ёй ніколі нельга дагадзіць. У іншых пагледзіш, маці як маці, аж зайздрошчу. І заўсёды думаеш: «Шчаслівыя ж людзі, а я...» Справа ў тым, што мне ўжо шаснаццаць год, усе ідуць у кіно, на танцы, а я вечна сяджу дома, плачу і гляджу ім услед. Зайздросціш, не ведаю як! Ва ўсіх хлопцы, а ў мяне няма, толькі што сябрую з двума-трыма. Вось сёння, напрыклад, добры фільм, прыйшлі сяброўкі, а яна (маці): «Нікуды і ўсё!» Ну што ж я, разраўлася, не ведаю як, ажно сорамна нейк робіцца, сяброўкі нават кажуць: «Ну ў цябе і матуля, звер ды толькі». І сёння яна мяне давяла. Я ёй у твар сказала, што яна мяне зрабіла сваім рабом і што ў кожнага чалавека ёсць правы, чаму ж я не магу схадзіць у кіно, на танцы. Тая як пачула, дык яе ледзь не разарвала. Усчала гвалт, што вось ты на гэта шпаркая, а як што зрабіць, дык цябе цяжка прымусіць, калі ты збіраешся куды-небудзь пайсці, то цяпер табе дарога закрытая, будзеш сядзець дома і ўсё.**

**А мне што застаецца рабіць! Чакаць, але чаго! Я вельмі няшчасная. Што мне рабіць! Я хутка пайду з дому, я не магу так жыць, пад замком. Я ж таксама, здаецца, чалавек. Як мне быць! Што рабіць!**

**Парай, «Крыніца»!**

**Іна**

## ЯК ЖЫЦЬ ДАЛЕЙ!

Дарагая рэдакцыя!

Нікому на свеце я не магу расказаць тое, што зараз напішу ў ваш часопіс.

Некалькі дзён назад мяне згвалцілі. Пішу гэтыя словы і не магу стрымаць слёз. Тады я не плакала, у мяне не было сілы. Не так пакутавала праз боль, як балела душа. Не дай бог нікому перажыць тое, што я тады адчувала, гэта жахліва, калі табе топчуць душу, паволі забіваюць у табе чалавека! Я не ведаю, як я дайшла да дома. Я не спала ўсю ноч, слёз не было, і ад гэтага было яшчэ цяжэй. Затое з ранку і да вечара наступнага дня я не магла спыніць рыданні. Божа, за што мне такое?! Чаму гэта павінна было здарыцца менавіта са мною? Я не ведаю, што мне зараз рабіць, як мне жыць. Вельмі хочацца забыцца на ўсё, быць такой як раней. Але я сама не магу, мне патрэбная чыясьці дапамога, а расказаць бацькам ці сяброўкам я не хачу. Таму я і звяртаюся да вас. Людзі добрыя, калі засталіся на свеце такія, дапамажыце мне, дапамажыце мне паверыць у тое, што ў жыцці я яшчэ змагу сустрэць не толькі падонкаў, што пасля ўсяго я яшчэ маю права паважаць сябе! Я ж не вінаватая ні ў чым, дык чаму ж пры сустрэчы з тым хлопцам я заўсёды павінна буду апускаць вочы і дрыжэць ад страху і сораму, чаму цяпер кожны (а ён жа не змаўчыць, усім раскажа) мае права паказаць на мяне пальцам і сказаць: «Шкура»?! Таго дня, каб ведала, як пакончыць з сабою, я зрабіла б гэта не задумваючыся. Але я баюся пакут, я надта шмат перажыла пакут, хопіць на дзесятак. І потым, я толькі цяпер гэта зразумела, таму і пішу, я люблю жыццё. Я люблю жыццё, я хачу жыць, я хачу быць шчаслівай! Я, пасля ўсяго, не страціла веры ў людзей, я ведаю: ёсць недзе на свеце дабрыня, сумленнасць, шчасце, каханне, але дзе гэта — гэтага я не ведаю. Дагэтуль я верыла ў бога, верыла ў яго міласэрнасць, але ён адвярнуўся ад мяне, ён стаў апекаваць зло і жорсткасць, дык у што ж мне яшчэ верыць?

Я малю вас: надрукуйце мой ліст! У мяне толькі і засталася надзея на тое, што нехта адгукнецца, напіша мне хоць пару слоў. Я вельмі прашу, не пазбаўляйце мяне гэтае магчымасці, я адчуваю, як я замыкаюся ў сабе, як я баюся людзей, як мяне не пакідае злосць. А мне ж 17 гадоў, дык няўжо мне ўсё жыццё яшчэ трэба будзе пакутаваць?!

Мне цяжка далей пісаць, дый словамі ўсяго не раскажаш. Толькі той, хто перажываў усе прыніжэнні, што былі ў мяне ў жыцці, хто зведаў такое, напэўна, зможа мяне зразумець.

Вось і ўсё. Я буду вельмі чакаць выхаду часопіса. Для мяне будзе вялікім ударам, калі я куплю «Крыніцу» і не ўбачу там свайго ліста. Ну што ж, можа, перажыву і гэта. А ўсё-такі вельмі спадзяюся.

Да пабачэння.

**Лена,**
**г. Мінск**

люстраная
зала

зала
люстраная

**Міхась МУШЫНСКІ**

# «ахвярую сваім «Я» ва імя святога для ўсіх нас адраджэння»



## Лісты Максіма Гарэцкага з Вяткі

Прыгаданыя словы ўзяты з ліста Максіма Гарэцкага ад 1 ліпеня 1919 года да рэдактара газеты «Беларуская думка», на старонках якой невядомы аўтар, схаваўшыся пад крыптанімам «Я», у скажоным выглядзе падаў змест апавядання Гарэцкага «Ідуць усе — іду я». Крытык (відаць, «ура-рэвалюцыянер») угледзеў там пропаведзь шкоднага «хныкання», адсутнасць бадзёрасці і цвёрдасці. Пратэстуючы супраць абразлівага тону рэцэнзіі, пісьменнік не адмаўляўся ад далейшага супрацоўніцтва з газетай, бо асабістую сваю крыўду ён умеў утаймоўваць дзеля агульных інтарэсаў. І, фактычна, кожны ліст класіка беларускай літаратуры мог бы пацвердзіць сказанае: М. Гарэцкі не ў асобых выпадках, а заўжды гатовы быў ахвяраваць сваім «я» дзеля агульнай справы, калі яна звязана з адраджэннем Бацькаўшчыны, з развіццём беларускай культуры, літаратуры.

Выяўленая на сённяшні дзень перапіска М. Гарэцкага з грамадскімі, культурнымі дзеячамі, з калегамі па працы — колькасна нешматлікая. Лісты ў рэдакцыю «Нашай Нівы», да Цішкі Гартнага, рэдактара-выдаўца «Нашай Нівы» Аляксандра Уласава, акадэміка Яўхіма Карскага — вось і ўсё, што знойдзена да гэтага часу. Асноўную частку эпісталярыя складаюць «лісты з няволі» — пісьмы 1931—1932 гадоў, напісаныя ў Вятцы, куды Гарэцкі пасля беспадстаўнага арышту ў ліпені 1930 года і непрацяглага знаходжання ў менскай турме быў высланы на пяць гадоў. Думаецца, калі б «вяткаўскія» лісты змясціць разам з адказамі адрасатаў, атрымалася б выдатная дакументальная аповесць аб трагічным перыядзе жыцця М. Гарэцкага — жыцця, тыповага для многіх беларускіх пісьменнікаў, дзеячаў культуры.

Якім непадробным драматызмам павявае ад гэтых стрыманых лістоў! Часам нават здаецца, што яны напісаны бясстрасна, у іх пераважае інфармацыйнасць, бытавы план. Але гэта падманлівае ўражанне. Стрыманасць тону была вымушанай, бо належалі лісты ўчарашняму палітычнаму зняволенаму, які стаў спецпасяленцам. За кожным словам, за сухім лаканічным паведамленнем паўстае вялікая трагедыя чалавека і пісьменніка-грамадзяніна. Трагедыя — тыповая для 30-х гадоў! Чытаючы лісты, адчуваеш, якія звышчалавечыя намаганні спатрэбіліся М. Гарэцкаму, каб сабраць усю сваю волю, сілу духа і выстаяць, не паддацца скрусе і адчаю, не ачарсцвець душой, не расчаравацца ў жыцці. А прычын для адчаю было дастаткова! Перш за ўсё — несправядлівасць абвінавачання, абурэнне тым, што сярод людзей, якім пісьменнік заўжды верыў, знайшоўся нягоднік, што ўзяў на сябе ганебную ролю даносчыка. Расла і крыўда на тых, хто, не захацеўшы шукаць ісціну, паверыў гнюсным паклёпнікам, асудзіў невінаватага на пакуты, пазбавіў яго магчымасці для творчай працы. А з гэтай стратай М. Гарэцкі ні пры якіх абставінах не мог прымірыцца: «Часам находзіць на мяне вялікая злосць і крыўда, што фактычна адкінулі мяне ад літарацкае работы, як апошнюю непатрэбшчыну. Бо ці ж я магу ў сваіх цяперашніх умовах пісаць? А няўжо ж я так-такі нічога не варты, нават з самага левага пункту погляду? І вось надоечы напісаў у Менск начальніку ГПУ, каб вярнулі мне мае затрыманыя рукапісы. Але хто там пачуе мой голас, калі я не пісьменнік, якога б нехта цаніў як пісьменніка? Ну, нічога. Усё нічога. Усё добра будзе. Каб толькі мне напісаць гэту сваю «Кроніку». Гэта была б рэч, што на працягу пэўнага часу нейкую цану мае» (29 красавіка 1932 г.). «Кроніка» — гэта «Камароўская хроніка» М. Гарэцкага, змешчаная ў 4-м томе ягонага Збору твораў. Надрукавана яна з купюрамі. Як і гэты ліст. З працытаванага тут урыўка ў кнізе «Максім Гарэцкі. Успаміны. Артыкулы. Дакументы», што выйшла ў 1984 годзе, былі змешчаны толькі два апошнія сказы, а ўсё астатняе трапіла ў лік непажаданых звестак. У атмасферы застойнага перыяду лічылася нормай, што шмат якія істотныя рэчы не даходзілі да грамадскасці.

Гарэцкаму куды б лягчэй было перанесці зняволенне, калі б ён ведаў, што яго сям'я ў бяспецы. Але і жонка — пісьменніца, перакладчыца, складальніца школьных чытанак Леаніла Усцінаўна Чарняўская-Гарэцкая — з малымі дзецьмі Леанідам і Галінай на доўгі час апынулася ў цяжкім маральным і матэрыяльным становішчы, без сродкаў існавання, без падтрымкі. Турботамі пра блізкіх напоўнены кожны ліст. «Я клапачу, што вам цяжка плата за кватэру, але рады ніякай даць не магу» (20 сакавіка 1931 г.). «Між радкоў твайго ліста прачытаў я грашовы клопат І падумаў: як яна будзе жыць з дзецьмі, калі выйдзе якая замінка з перакладамі?» (11 ліпеня 1931 г.). «Мне казалі, што вы мерзлі ўзімку, купляючы па возіку дроў і мяркуючы па паленцу на дзень» (Тамсама). «Сёння я даведаўся, што ты без працы, у карэктаркі не ўзялі, і што ў цябе сумны настрой. Не бядуй! Думаю, што працу знойдзеш, а пакуль што прадавай што з рэчаў...» (30 жніўня 1931 г.).

Прывядзем і яшчэ адзін урывак, які, зноў-такі, не трапіў у ранейшую публікацыю: «Таксама непакоіць ваша бытаванне. Што вы ясцё? Дзе знаходзіце грошы на кватэру і дровы? Ці прадала ты, Лёля, за гэты час якія рэчы? 4-га паслаў вам 40 руб., каб хоць дроў купілі» (10 лістапада 1931 г.). Можна толькі ўявіць сабе псіхалагічны стан, душэўныя пакуты М. Гарэцкага, які не мог аказаць належнай дапамогі сям'і, бо і сам у той час быў бяспраўнай істотай. І сапраўды! Пасля выезду на пасяленне (25 чэрвеня 1931 г.) Гарэцкі спрабуе ўладкавацца на працу. Ен не мае прытулку і часова жыве на гарышчы недабудаванага дома. Надзея на тое, што яго возьмуць у «Вятскую праўду» карэктарам, не спраўдзілася. «У аддзеле народнае асветы адмовілі». Выдатнаму пісьменніку, вучонаму ўдалося атрымаць месца землякопа, потым узялі працаваць на фабрыку вучэбных дапаможнікаў. У 1932 годзе Гарэцкага прызначылі тэхнікам-каштарыснікам завода вучпалітэхабсталявання, потым — тэхнікам-кулькулятарам у Вяткабуд.

Калі з'явіўся сціплы заробак, М. Гарэцкі стаў дапамагаць сям'і, бацькам, якія жылі ў вёсцы, і брату Гурыку — Гаўрылу Гарэцкаму, нашаму выдатнаму вучонаму, акадэміку АН БССР, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі СССР, а тады таксама «нацыяналісту». «Адкрытку, у якой гневаешся за грошы, атрымаў. Дармо гневаешся: я ж ведаю, як і што вы ясцё. А я магу абысціся»,— звяртаўся Гарэцкі ў лісце да жонкі (13 верасня 1931 г.). «У мяне навін няма. Атрымаў за 1/2 месяца плату 52 руб. Пасылаю 25» (26 верасня 1931 г.). У сваю чаргу і блізкія імкнуліся падтрымаць яго чым маглі. «Сёння,— піша М. Гарэцкі ў лісце ад 24 кастрычніка 1931 года,— атрымаў пальто і сухары. Дзякую вельмі. Толькі нашто было пасылаць сухары, хай бы дзеці з'елі. Я харчуюся ніштосабе. Думаю, як вы там. Рэчаў пакуль што болей не прадаваў, і з пальтом прыдзецца пачакаць». «Я харчуюся ніштосабе» — гэта, вядома, той няхітры падман, які сведчыць пра цярплівасць М. Гарэцкага, яго здольнасць да самаабмежавання. «Я ўсё чакаў, каб падмарозіла, але цяпер мне ўжо не бяда: купіў калёшы. Праўда, на левую нагу № 15, а на правую № 12, але заплаціў усяго 5 руб., і вельмі здаволены гэтым набыткам» (10 лістапада 1931 г.). І зноў хочацца адзначыць, што звесткі пра розны памер галёшаў былі выкраслены з ранейшай публікацыі ліста.

У 1932 годзе выявіліся вынікі калектывізацыі: агульнае матэрыяльна-бытавое становішча і харчовае забеспячэнне ў Вятцы (дый у Менску) значна пагоршылася, і гэта адразу адчулі спецпасяленцы, у тым ліку і М. Гарэцкі. У лісце ад 9 лютага ён паведамляе: «Увесь час стаяць вялікія марозы, за 35° (па Цэльсію). Халодна. Дровы падаражэлі. Сёння хадзіў купляць і не купіў. Абеды ў нашай сталоўцы таксама падаражэлі. І наогул усё падаражэла. А як у вас? Няўжо таксама? Як жа вы жывіцё? У блізкім часе пастараюся вам выслаць хоць рублёў 20». У лісце ад 22 красавіка — зноў тыя ж скупыя трывожныя звесткі: «У нас падняліся цэны, падаражэў хлеб, пуд мукі каштуе 40 рублёў, а служачым прадуктовых картак I/IV у нас ужо не выдалі,— як у вас! Толькі вы пра мяне не клапаціцеся, мне прыбавілі пенсіі, і зарабіў яшчэ вечаровую работаю. Прадаў тое бобрыкавае паліто». Каб звесці канцы з канцамі і мець магчымасць выслаць хоць бы мізэрную суму блізкім, М. Гарэцкаму прыходзілася эканоміць на ўсім — варыць сабе ежу на прымусе, цыраваць зношаную бялізну, купляць дровы па самай таннай цане.

Якую ж, аднак, трэба было мець маральную, грамадзянскую загартоўку, як трэба было верыць у праўду жыцця, каб у такіх вось невыносна цяжкіх умовах зноў узяцца за творчую працу! «Я спрабую пісаць, але пісанне маё мне не дужа ўдаецца. Думаю кінуць гэта, што пішу, і ўзяцца за што другое,— можа пойдзе лягчэй» (24 верасня 1931 г.).

У кастрычніку 1931 года М. Гарэцкі звяртаецца да жонкі: «Як будзеш мець час, Лёля, вышлі мне бандэроллю мае нататкі пра «Віленскіх камунараў» (калі іх табе вярнулі з усімі рукапісамі); можа я іх тут апрацую да друку (а напішу і па-руску і па-беларуску — дзе-небудзь прымуцьь)». А ўжо ў лістападзе М. Гарэцкі паведамляе: «Цяпер якраз прыводжу да ладу рукапіс «Камунараў». Яшчэ канчаткова не ведаю, у якім плане напішу. Ці гэта будзе нешта падобнае да нарыса ці нейкае сыраватае аповесці з розных абразкоў і сцэнак».

Пісьменнік, думаецца, не выпадкова выказаў асцярогу адносна мастацкага ўзроўню свайго твора: у тых канкрэтных умовах не так і лёгка было дасягнуць дасканаласці, унутранай цэласнасці твора, да якой ён заўжды імкнуўся. Але аўтара турбавалі не толькі пытанні майстэрства, кампазіцыйная зладжанасць, але і рэчы болей складаныя: «Канчаю апрацоўваць «Камунараў». Цяжка мне іх пісаць для друку, усё баюся, каб не зрабіць якой памылкі ў асвятленні» (10 снежня 1931 г.). Вось яно, паралізуючае ўздзеянне атмасферы масавых рэпрэсій на духоўнае жыццё грамадства, на творчае адчуванне мастака, які скаваны бояззю дапусціць памылку «ў асвятленні». Тым вышэйшы творчы подзвіг Гарэцкага-пісьменніка, калі ён у абстаноўцы, зусім не прыдатнай для нармальнай творчай працы, здолеў стварыць праўдзівую гісторыю рэвалюцыйнай барацьбы беларускіх і літоўскіх «камунараў» і не паступіўся ісцінай у імя карыслівых мэт, хоць многія з тых, хто яшчэ заставаўся ў 30-я гады на волі, пісалі фальшывыя панегірыкі ў гонар рэвалюцыі, скажалі праўду. Аб высокай прафесійнай патрабавальнасці М. Гарэцкага сведчаць і некаторыя іншыя яго выказванні і ацэнкі ў лістах: «...канчаю апрацоўваць «Віленскія камунары». Нічога выйшаў нарыс, але папрацую яшчэ» (16 снежня 1931 г.). «Камунараў» напісаў, але нешта нездаволены ўжо. Хай паляжыць» (27 снежня 1931 г.). «Ляжалі» «Камунары» аж да жніўня 1933 года, але не без руху. Паводле сведчанняў Галіны Максімаўны, дачкі пісьменніка, апрацоўка твора ішла і ў 1932 годзе, калі Максім Іванавіч жыў у прахадным пакойчыку на дзевяць квадратных метраў на вуліцы Свабоды. У жніўні 1933 года рукапіс «Віленскіх камунараў» М. Гарэцкі паслаў у выдавецтва ў Менск і пачаў працаваць над рускім варыянтам твора — над «Виленскими воспоминаниями», якія вясной 1935 года былі накіраваны ўжо ў адно маскоўскае выдавецтва. Але надзеям пісьменніка ўбачыць свой твор надрукаваным не наканавана было збыцца.

Недаравальным спрашчэнствам і праявай непавагі да светлай памяці М. Гарэцкага было б падаваць тут справу так, што, маўляў, хоць і цяжка жылося яму ў Вятцы, але працаваў ён натхнёна, плённа, і сумненні не наведвалі яго. Не, легкадумнасці і казённаму аптымізму не месца там, дзе гаворка ідзе пра лёс бяспраўнага пісьменніка, пастаўленага па-за нармальнымі ўмовамі існавання. І сумненняў хапала. Не раз думаў учарашні палітзняволены, чым займацца далей, бо не бачыў перспектывы ў сваёй пісьменніцкай працы. Быў намер вывучаць тэхнічныя дысцыпліны. І ўсё ж назаўсёды развітацца з літаратурай М. Гарэцкі не мог. У лісце, пазначаным 9 лютага 1932 г., ён зноў звяртаецца да Леанілы Усцінаўны з просьбай выслаць матэрыялы, але ўжо да другога мастацкага твора, праца над якім была распачата даўно,— сшытак «Камароўскай хронікі»: «Хоць я яго троху спарадкую. Не ведаю, ці вярнулі табе мае рукапісы з успамінамі пра дзіцячыя гады, вучэнне ў Крушні і Норках. Усё гэта я пісаў там. І гэта ўсё мне цяпер бы спатрэбілася. Але нічога: калі няма, дык я напішу ізноў». Калі М. Гарэцкі даведаўся, што патрэбныя матэрыялы не прапалі, ён быў дужа ўсцешаны. «Атрымаў бандэроль, надта вам дзякую. Як быццам роднае нешта маё прыйшло да мяне ў хату. І хоць усімі сіламі хачу скараціцца, каб хутчэй, і хапаюся, але прыемна мне, і радуюся, што на лад пісанне маё патрошку пайшло» (26 лютага 1932 г.). Радасць пісьменніка зразумелая: ён глядзеў на «Хроніку» як на галоўную справу свайго жыцця, свой галоўны твор, які быў задуманы ім як шырокая мастацкая панарама. Праз гісторыю пэўнага сялянскага роду намерваўся М. Гарэцкі паказаць не толькі працу, побыт народа, яго мары і надзеі, але і поступ самой Гісторыі.

І яшчэ колькі слоў на заканчэнне нашае размовы. Сёння перад кожным, хто лічыць сябе прыхільнікам беларускага прыгожага пісьменства, каго па-сапраўднаму турбуе заўтрашні дзень беларускай культуры, лёс беларускай мовы, паўстае неадкладная задача — як найхутчэй сабраць і выдрукаваць усё, што напісана рукою Максіма Гарэцкага, у тым ліку і яго прыватную і дзелавую перапіску, бо і ў мастацкіх творах, і ў лістах выдатнага майстра слова ўвасоблена суровая праўда часу, праўда пра беларускі народ, пра яго мары і памкненні. Гэтая праўда — вялікая духоўная каштоўнасць. Яна вельмі патрэбная на сучасным этапе нацыянальна-культурнага будаўніцтва. Ідэйна-эстэтычны, маральны вопыт Гарэцкага, мастака і грамадзяніна, мае непераходнае значэнне. Дужа хацелася б, каб у гэтай высакароднай справе пошукаў неацэннага скарбу і яго вывучэнні, прапагандзе ўдзельнічала і моладзь, чытачы часопіса «Крыніца». У гэтым кірунку адкрываюцца неабмежаваныя магчымасці, шырокае поле дзейнасці.

Пётр РОГАЎ

# жыццё і смерць дракона па імені БРУС ЛІ









Ён памёр так нечакана і недарэчна, што, нягледзячы на афіцыйныя паведамленні газет і тэлебачання, мільёны прыхільнікаў палічылі іх няўдалым жартам. Бо ж яшчэ напярэдадні тае раніцы, калі служачы ганконгскага гатэля ўбачыў на падлозе труп самага знакамітага каратыста свету, Брус Лі правёў чарговы фантастычны паядынак, у якім сваім знакамітым «шуто», сякучымі ўдарамі паралізаваў волю саперніка з Японіі, на рахунку якога было багата перамог з трагічным фіналам для праціўнікаў.

І ўсё-такі ў смерць прыйшлося паверыць. І фільм «З'яўленне дракона», дзе Брус Лі іграў галоўную ролю, трыумфальна прайшоў па экранах і відэатэках планеты ўжо без яго. Найвыдатнейшы фільм маленькага кітайца, які стаў кумірам для мільёнаў і заняў у кінематографе такое ж высокае месца, як і ў сваім смяротна небяспечным спорце — у каратэ.

Што ж паслужыла прычынаю таямнічае смерці! Перада мною кніга, што выйшла ў Лондане, адна з многіх, прысвечаных Брусу Лі. Аўтар прапануе самую, бадай, рамантычную версію смерці Бруса Лі. Ён згадвае, што на пачатку 70-х гадоў Лі выступіў у крывавым прадстаўленні, дзе яму процістаяў жудаснае сілы і агрэсіўнасці бык. Гэта была своеасаблівая карыда, але на азіяцкі капыл, з адным магчымым фіналам — жывы павінен застацца або бык, або каратыст. Падобнае ўдавалася нямногім, але ўжо пасля першых секунд шалёнае каруселі Брус Лі ўзляцеў і няўлоўным ударам пяткаю, з бяздоннага арсеналу кун фу, збіў быку рогі. Звер зваліўся як падкошаны і ад балявога шоку скончыў у той самы момант зямное сваё існаванне. Бруса Лі віталі як найвялікшага ў свеце байца. Праўда, нехта напісаў яму запіску з прапановаю памерацца сіламі, прычым бой павінен быў ісці да смерці. Брус Лі прыняў выклік і, выйшаўшы на сцэну аднаго з ганконгскіх кафэ, прапанаваў праціўніку зрабіць тое ж самае. Ніхто не адгукнуўся. Затое назаўтра, калі Брус Лі ў трэніровачнай зале адпрацоўваў удары на манекене «мук-джунге», да яго наблізіўся стары гадоў васьмідзесяці, за якім пачціва ішлі некалькі чалавек. Па паставе старога было відаць, што калісь гэта быў прафесійны каратыст.

— Сэнсэй,— пачціва звярнуліся да Бруса Лі спадарожнікі старога,— наш Сэнсэй хацеў бы паказаць табе сёе-тое. Апошнія шэсцьдзесят гадоў ён жыў у манастыры, але, пачуўшы пра цябе, прыйшоў сюды.

«Манастырскае каратэ» — гэта асобы від барацьбы, які захоўваецца ў глыбокай тайне, знаёмыя з ім толькі некалькі чалавек ва ўсім свеце. Брус Лі, натуральна, узрадаваўся і, калі стары, зацягнуўшы кімано, рушыў яму насустрач, прыняў баявую стойку. Але стары і не думаў змагацца. Пакланіўшыся Брусу, ён падышоў да яго, няўлоўнымі рухамі дакрануўся да магутнага, жылістага цела кітайца і рэзка адскочыў назад.

— Ты вялікі баец,— сказаў стары і, велічна пакланіўшыся, пайшоў.

Вось гэты невялікі эпізод многія, у тым ліку і аўтар кнігі, схільныя лічыць разгадкаю таямнічае смерці Бруса Лі. Лёгкія дотыкі спецыяліста па «манастырскім каратэ» маглі азначаць жахлівае сілы ўдары «запаволенага дзеяння», якімі валодаюць носьбіты страшнага і старажытнага мастацтва забіваць. Гэта не проста малаадчувальныя ўдары, гэта снарады камулятыўнага дзеяння, згусткі энергіі, якія праз некалькі дзён пасля дотыку разрываюцца ў сэрцы і мазгавых сасудах ахвяры.

Вядома, гэтая крыху рамантычная версія нічым не пацверджана, але, мажліва, яна мае права на існаванне, як і многае звышнатуральнае, звязанае з усходнімі баявымі адзінаборствамі.

Нават знакаміты амерыканскі кінаакцёр Чак Норыс, бліжэйшы сябар Бруса Лі, аддае даніну гэтай версіі, лічыць, што медыкаментознае атручванне — гэта занадта «прэснае тлумачэнне» для гібелі такога ўнікальнага чалавека, як Брус Лі. Галівудская зорка Норыс зняўся разам з Брусам Лі ў некалькіх тэлесерыялах, а іх знакамітая схватка ў Калізеі па праву лічыцца самым значным кінаперастварэннем «класічнага каратэ». Думаю, што многія з вас бачылі гэты відэафільм «Вяртанне дракона» і памятаюць у дэталях драматычны паядынак, дзе Брус Лі як заўжды іграе добрага генія каратэ, а Чак Норыс — бязлітаснага забойцу. Як і належыць у кіно, Брус Лі перамог свайго праціўніка і жудаснымі ўдарамі забяспечыў трыумф дабра.

На жаль, рэальны, а не экранны лёс вялікага кітайскага спартсмена і акцёра быў менш ружовы. Смерць у трыццаць два гады, калі здавалася, што Брус Лі яшчэ не раз прымусіць хвалявацца мільёны сэрцаў, паставіла кропку ў канцы шляха, які пачаў хлопчык, што паставіў мэтаю абараняць усіх слабых з дапамогаю каратэ і трыумфальна прайшоў па планеце ў відэакасетах фірмы «Соні».

Сёння з'явіліся відэафільмы, у якіх маральную лінію ўсходняга Робін Гуда — Бруса Лі — працягвае яго сын, каратыст і акцёр Брандан Лі. Ці будзе сын мець бацькаў поспех! Паглядзім. А пакуль на экранах тэлевізараў зноў і зноў з'яўляецца бясстрашны Брус Лі і перамагае ўсіх праціўнікаў. Геній гэтага акцёра і яго баявыя поспехі такія вялікія, што дагэтуль не даюць згаснуць палеміцы, чаму ж так рана, у зеніце славы пайшоў з жыцця той, хто на здымачнай пляцоўцы і па-за ёю быў сапраўдным уладаром чужых жыццяў!



# людзі каля вады



Анатоль КУДЗЕЛЬСКІ,
доктар геолага-мінералагічных навук

*...не изменяйте мир, оставьте днесь, земля вращается, но мир пущай стоит, каким он был и, слава богу, есть.*
Алжас СУЛЕЙМЕНАЎ

Добры клімат «стварыў» чалавека, вада ўспаіла, узгадавала яго і ва ўсе часы дарыла яму... нашчадкаў. Рух будучага чалавека да ягонага роду-племені, паводле архаічных уяўленняў заходнесуданскіх дагонаў, пачынаўся задоўга да сустрэчы яго будучых бацькоў. Усё пачыналася з праклёву маляўкі сома ў абшчыннай сажалцы, працягвалася па законах рыбінага мікракосму і аднаго разу сустрэлася з рухам невада маладога дагона. Сом падносіўся будучай нявесце і з'ядаўся ёю. Лічылася, што сом вертыкальна становіцца ў яе грудзях, утвараючы будучы плод. Пасля замужжа плод пачынаў развівацца, прычым першы фарміраваўся грудны плаўнік. На пяцідзесяты дзень цяжарнасці цела рыбіны набывала канчатковыя абрысы і з гэтага часу, як лічылі дагоны, дзіця плавае ў грудзях у маці як «жывая рыба», творачы вялікую таемнасць пераходу чалавека з воднай стыхіі да людскога грамадства...

Адзін мастак-ілюстратар навуковай літаратуры намаляваў Акіян і Чалавека ў выглядзе сіямскіх блізнят з замкнутаю сістэмаю крыватоку. Ён угледзеў сутнасць, у якой закадыраваны асноўны прынцып ахоўы жыцця на зямлі...

Нам ёсць што ахоўваць і захоўваць. Мы (яшчэ) п'ём чыстую ваду і жывём сярод лясоў, напоеных прахалодаю і вільгаццю грыбных дажджоў. Мы ведаем, што недзе на роўнядзі азёраў і ў вадаграях лясных рэчак няяснымі пісьмёнамі пачуццяў

і мройлівых успамінаў запісаны лад душы нашай. Разгадваючы гэтыя пісьмёны, мы востра адчуваем сваю непарыўнасць з прыродай, мы робімся самі сабой — дзецьмі бацькоў сваіх, праўнукамі прадзедаў нашых, супляменцамі.

Даўно гэта было. Па берагах Сожа, дзе сёння Слаўгарад Магілёўскай вобласці, жыло племя волатаў. Моладзь гулі гуляла, а ўвосень, як яно павялося, сватоў пасылалі.

Пасваталіся да красуні Кацярыны два хлопцы, волаты Сцяпан і Марка. Сцяпан быў статны, ад позірку яго пяшчотных вачэй у Кацярыны сэрца замірала, вусны перасыхалі, дыхаць было цяжка. Магутны Марка страх наводзіў. Прыйшла пара рашаць ёй, за якога замуж ісці. Пайду, думае, за Сцяпана — Марка заб'е; пайду за Марка — Сцяпана шкада. Думала Кацярына, думала і надумала... Дала ім кожнаму камень і сказала — кідаць. Чый камень далей заляціць, за таго і пайду, кажа. Сцяпану камень дастаўся меншы — з добры стол, нéлюбу Марку большы — з печ мужыцкую. Пачалі волаты камяні шпурляць цераз Сож, кінулі за дзевяць вёрстаў. Пайшлі глядзець, чый далей упаў. Першы Кацярына ўбачыла Сцяпанаў камень. Стала яна на яго — слёзы з каменя выступілі, да гэтай пары, кажуць, відны,— глядзець пачала: нелюбаў камень, з мецінай рукі валатоўскай, ляжыць далей сажняў на пяцьдзесят. Вочы сінія пацямнелі, бровы сабаліныя выгнуліся, шэпт сосны пачулі: «Чым даставацца мне нелюбу, вадою пайду людзям служыць!» — упала з каменя, вадою расплылася, пад зямлю пайшла. А вёрстаў за пяць ад Слаўгарада, бліжэй пад Сож, прабілася з-пад зямлі, зашумела — за дзве вярсты чуваць — вада чыстая, блакіту вачэй дзявочых. Блакітная крыніца*...

Гэта — казка. Прыгожая, паэтычная пераасэнсоўка лёсу людзей, чысціні кахання і помыслаў далёкіх нашых. Гэта як прывітанне ад іх, магутных і гордых, як запаведзь нам, дзецям XX стагоддзя,— захоўваць хараство і жывасную сілу хуткаплынных крыніц бацькаўшчыны нашай...

Што мы ведаем пра ваду, сілаю і моцай якое дайшлі да нас праз ліхачассе гісторыі і неабсяжныя лясы, і смарагдасць лугавога разнатраўя, і блакітнае з белым высокае неба, якое заглядвае ў патайныя люстэркі азёраў? Ведаем, што ў кожным возеры, вялікім і малым, у кожнай рачулцы і ў кожнай ручаіне, у балотах, збарвавелых ад ягад, жыў бог, часцінка вялікага бога — абаронцы нашых продкаў. Што пакланяліся яны добраму богу-возеру, богу-рацэ, прыносілі ім ахвяры. Яшчэ ў XVI стагоддзі архіепіскап Макарый скардзіўся Івану Грознаму: Людие во многихъ русскихъ мьстахъ обычая держахуся отъ древнихъ прародителей. Суть же скверны молбища ихъ и рьки и блата, источники (жерела) и озера. Поклоняхуся яко богу и жертву приношаху кровную: волы и овцы и всякь скоть и птицы». Пакланяліся і адчувалі сябе малой часцінкай навакольнага лесу, высокага неба і празрыстых водаў, што цякуць з краю ў край ойкумены.

* З 1985 г.— помнік прыроды, пад аховай дзяржавы.

Потым прыйшоў час веры ў богасына, бога ў абліччы чалавека, вера ў яго дабрыню і страх перад жорсткасцю яго. Час прыспешыў свой бег, прабітыя ў лясных нетрах дарогі пашырылі свет засялення і адводзілі ад раней такіх зразумелых багоў, ад лесу, ад луга, ад ракі. Рваліся жыццёвыя повязі з імі, сыходзіла не выказанае словамі разуменне і пачатковае веданне. Нараджалася новае веданне — веданне прыродазнаўцаў...

Год 1778. Чэшскі доктар медыцыны Станіслаў Пінас Элі, які служыў у Расіі, пабываў у Шклове і ўпершыню апісаў серна-жалезістую крыніцу. З паштовай аказіяй па дарогах, якія ў нашым уяўленні былі зусім не дарогамі, у рыпучых вазах пачалі сваю доўгую вандроўку ў Пецярбургскую медыцынскую калегію ўзятыя С. П. Элі пробы вады на хімічны аналіз.

Год 1786. Андрэй Мейер, відаць, немец паходжаннем, даследчык і вайсковец па прызванні, завяршае «Апісанне Крычаўскага графства...», у якім расказвае і пра сваё наведванне Міхееўскай або Святой крыніцы на Пятроўскім лузе пад Крычавам. Мясцовыя жыхары верылі ў цудадзейную сілу гэтай крыніцы, купалі ў яе вадзе дзяцей і, пакідаючы ў купелі іх адзежу, спадзяваліся, што разам з ёю застаюцца ўсе немачы і хваробы. Кінутыя ў ваду медныя манеты пакрываліся бліскучым налётам, набывалі выгляд нядаўна чаканеных. Відаць, меркаваў Мейер, гэта тлумачыцца прысутнасцю ў вадзе «серных і жалезных часцінак».

Апісанне лекавых водаў Беларусі знаходзім мы і ў «Запісках» акадэміка В. Севергіна. Пабываўшы ў Сянне, ён адзначыў, што: «Побач з домам Серакоўскага, за паштовым дваром, стаіць на гліністым пагорку калодзеж, вада ў якім мае серна-пячоначны пах, пры гэтым празрыстая і саланаватая, калі піць яе па дзве шклянкі з раніцы, яна паслабляе і палягчае ў грудзях».

Крыніцу каламутнай, з белесаватым адценнем, сернай вады бачыў В. Севяргін і ў маёнтку езуітаў «Спас» паблізу Полацка.

Незвычайную для Беларусі крыніцу вуглекіслых водаў* знайшоў вучоны-падарожнік на поўначы ад Магілёва за вярсту ад Палыковічаў, што пры дарозе на Шклоў. Крыніца была пад доглядам мясцовых царкоўных службітоў, якія паставілі тут невялічкую каплічку, у якой збіраліся людзі, што верылі ў гаючую сілу вады.

* З 1983 г.— помнік прыроды, пад аховай дзяржавы.

Паводле архіўных дакументаў, знойдзеных беларускімі вучонымі У. П. Грыцкевічам і А. І. Мальдзісам, рэгулярнае выкарыстанне мінеральных водаў пачалося ў першай палове XIX стагоддзя. Запісы даносяць да нас, што 15 студзеня 1819 года аршанскі уніяцкі біскуп А. Галаўня, які цярпеў на раматус, выехаў на лячэнне сернымі водамі ў раён мястэчка Відзы. З архіўных крыніц мы ведаем, што другі уніяцкі біскуп Лужынскі 3 чэрвеня 1830 года ўведаміў сваё начальства пра неабходнасць, спрычыненую абвастрэннем хваробы, выехаць «у Баркоўшчыну для прыняцця сама меншае трыццаці ваннаў». У наступныя гады мінеральныя воды Баркоўшчыны (Ушацкі раён Віцебскай вобласці) набываюць шырокую вядомасць. Іх вывучае медык і хімік Янт (1843 год), урач Неміроўскі ў 1855 годзе адкрывае на беразе Доўжыцкага возера курорт, дзе вылечвалі залатуху, паралюш, раматус. Лячэнне заўсёды было паспяховае, інакш швейцарскі прафесар Рабаў не згадваў бы курорт сярод найлепшых еўрапейскіх курортаў таго часу. Амаль сто гадоў, да самай Вялікай Айчыннай вайны, водалячэнне на курорце Баркоўшчына дарыла людзям гаенне. У вайну курорт знішчылі фашысты.

Праўда, цікавы, тужлівы і павучальны гэта рух па крузе: значныя веды і біялагічная сувязь чалавека са сваім домам, сваёй калыскай-прыродай пад корань высякаліся догмамі рэлігіі, плод халоднага, рацыянальнага ведання прыродазнаўцаў знішчаны варварамі новай фармацыі. Але калі гэта сапраўды рух па крузе, дык як бы патрэбна і здорава было, калі б усіх нас, занепакоеных сучаснымі тэндэнцыямі паглыблення супярэчнасцяў паміж прамысловасцю і прыродай, рух гэты прывёў да таго пачатку, дзе было яшчэ такое цудоўнае абагаўленне прыроды і вады, было неўсвядомленае, але трывалае адзінства з імі і дзе кожны мог паўтарыць словы старажытнага егіпцяніна:

Я не лавіў рыбу багоў у сажалках яе,
Я не спыняў ваду ў пару яе,
Я не засланяў дарогу плыўнай вадзе.
. . . . . . . . . . . . .
Я чысты, я чысты, я чысты, я чысты!

Мы ўсе разумеем, што гэта, на жаль, немагчыма, і што словы «я чысты» чалавецтва даўно ўжо не мае права браць на свой конт. Але прымярацца ў сваёй дзейнасці з магчымасцямі прыроды і найважнейшага яе кампаненту — прыродных водаў — чалавецтва, кожны з нас проста абавязаны. Другога выбару няма.









# хіратонія

**Традыцыі праваслаўя маюць на Беларусі багатую гісторыю. Дастаткова згадаць імёны ігуменні Ефрасінні і епіскапа Тураўскага Кірылы, якія ўвайшлі ў нашу гісторыю як асветнікі, як людзі высокага духу. Нельга не ўспомніць, што ад самага пачатку Вялікага княства Літоўскага валадары гэтае дзяржавы прымалі праваслаўную веру. Вялікі князь Віцень шмат зрабіў для таго, каб праваслаўная царква на нашай ды літоўскай зямлі стала незалежнаю ад мітрапаліта, які меў рэзідэнцыю ва Уладзіміры-на-Клязьме, а потым пераехаў у Маскву. Канчаткова самастойнаю царква стала пры Вітаўце Вялікім.**

**Як і ўсякі сацыяльны інстытут, царква перажыла складаную гісторыю. Мы не будзем казаць тут аб прычынах заняпаду праваслаўя у XVI ст., аб уніяцкай (грэка-каталіцкай) царкве, якая да канца XVIII ст. сабрала ў сваім улонні тры чвэрці беларускага народа. Не будзем акцэнтаваць увагу на дзейнасці епіскапа Слуцкага Віктара, які ў XVIII ст. абяцаў выкараніць з праваслаўя беларускую мову, а святароў, што ёю карыстаюцца, сасланць у ссылку. Заўважым адно, што русіфікацыя праваслаўнай царквы на Беларусі (а да яе належала ў канцы XVIII ст. каля 7 працэнтаў насельніцтва), распачатая пры Кацярыне II, мела свой лагічны працяг: у 1839-м і наступных гадах сотні і сотні тысяч беларусаў сілком былі вернутыя ў праваслаўе.**

**Рознае можа быць стаўленне да цэркваў. Сярод беларускай інтэлігенцыі пэўнай сімпатыяй карыстаецца каталіцызм, бо ён быў актыўным чыннікам нацыянальна-вызваленчага руху ў пачатку XX ст. і ў Заходняй Беларусі. Шмат хто сур'ёзна гаворыць аб патрэбе адрадзіць грэка-каталіцкую царкву на Беларусі. І гэтыя сімпатыі, гэтыя размовы маюць пад сабой адзін грунт: праваслаўная царква, калі не лічыць асобных яе дзеячаў у Заходняй Беларусі, працяглы час адчужалася ад нацыянальных праблем нашага народа, яго культуры.**

**Рознае можа быць стаўленне да царквы. Але інтэлігенцыя, сумленныя людзі не маглі згадзіцца з праследамі святароў, з ператварэннем храмаў у стайні і майстэрні, з абмежаваннямі на душпастырскую дзейнасць. Цяпер мы ўсе зразумелі, што вернікі Хрыстовы такія ж савецкія людзі, як і атэісты. Цяпер мы ведаем, што нельга забараняць хвораму і вязню спавядацца ў шпіталі і ў турме, бо гэта іх чалавечае права. Мы зразумелі нарэшце, што царква навучае агульначалавечым — а таму і вечным — ісцінам і каштоўнасцям. Царква пачынае займаць годнае месца ў жыцці грамадства. І ўжо нікога не дзівіць, што на З'ездзе народных дэпутатаў СССР засядаюць патрыярх Пімен, мітрапаліты Аляксій і Піцірым, іншыя духоўныя асобы, што мітрапаліт Мінскі і Беларускі Філарэт выступае ў друку і па тэлебачанні.**

**Праваслаўная царква, здаецца, павярнулася тварам да нацыянальнае культуры. Па прапанове ўладыкі Філарэта перакладчык Васіль Сёмуха, які данёс да беларускага чытача «Фаўста» Е. В. Гётэ, цяпер перакладае на нашу мову Біблію. З вуснаў святароў мы пачулі беларускае слова.**

**Царква пачынае новую старонку сваёй гісторыі. Ужо чуюцца размовы пра тое, што добра было б, каб наш мітрапаліт стаў экзархам Беларусі. А пакуль што адраджаюцца старыя епархіі. У ліпені ў духоўным цэнтры праваслаўнае Беларусі — у Жыровічах — адбылася хіратонія двух новых архірэяў: архіепіскапа Магілёўскага і Мсціслаўскага Максіма ды епіскапа Полацкага і Віцебскага Дзімітрыя. (Яшчэ раней кафедра была ў Пінску і Брэсце. Цяпер яе займае епіскап Канстанцін.) Радуючыся гэтай падзеі, вернікі і тыя, хто ведае гісторыю Беларусі, успамінаюць, што ад старых часоў епіскапскія кафедры былі ў Тураве і Слуцку, у Навагрудку.**

**Новых архіпастыраў блаславілі патрыярх Антыёхіі Ігнацій IV, які наведаў Мінскую і Беларускую мітраполію з братэрскім візітам, а таксама ўладыка Філарэт.**

**У ліпені адбылася яшчэ адна важная падзея. Папа рымскі Ян Павел II, кажучы па-свецку, прызначыў апостальскага адміністратара для католікаў Беларусі. Праз шмат дзесяцігоддзяў на Беларусі зноў будзе біскупская катэдра. Можна было б парадавацца, калі б польскі патрыёт Кароль Вайтыла, які займае цяпер пасад апостала Пятра, прызначыў на гэтае служэнне чалавека, вядомага сваёй заангажаванасцю ў справе беларускае культуры. Але біскупам стаў таксама польскі патрыёт — ксёндз Тадэвуш Кандрусевіч. У колах беларускае інтэлігенцыі і беларускіх святароў гэта выклікала расчараванне. Хацелася б верыць, што яго эксцэленцыя памяняе свае погляды, што ксяндзы польскай арыентацыі не будуць патрабаваць ад парафіянаў беларускае нацыянальнасці, каб тыя спавядаліся папольску. Спадзяемся, што монсеньёр Тадэвуш пастараецца ўлічваць інтарэсы католікаў як польскае, гэтак і беларускае нацыянальнасці, каб паміж імі запанавалі мір і братэрства, бо яны жывуць у адным доме, назва якому — Беларусь.**






## ТАВАРЫ ВЕКУ ЭЛЕКТРОНІКІ — У «ЭЛЕКТРОНІЦЫ»

Ад наручных гадзіннікаў, калькулятараў, магнітафонаў — да бытавых камп'ютэраў — у ФМС «ЭЛЕКТРОНІКА».

Для тых, хто захапляецца канструяваннем, радыёдэталі, наборы і канструктары — у ФМС «ЭЛЕКТРОНІКА».

Усё, што з'яўляецца новага сярод бытавой электроннай тэхнікі,— у МІНСКІМ ФІРМЕННЫМ МАГАЗІНЕ-САЛОНЕ «ЭЛЕКТРОНІКА».

Тэл. для даведак: 62-21-42.

ФМС «ЭЛЕКТРОНІКА».
Беларускае РПП «Союзреклама».




Спартсменам і ўсім, хто займаецца аздараўляльным бегам, гімнастыкай, аэробікай, хто сочыць за сваім здароўем,— пульсметр «Электроника — 56» МІНСКАГА ЗАВОДА «ЭЛЕКТРОНІКА».

Ен дапаможа выбраць аптымальную нагрузку, пракантраляваць работу сэрца, пазбегнуцьператамлення.

ЯГО МАГЧЫМАСЦІ:

— вымярэнне і індыкацыя пульсу ў межах ад 31 да 202 удараў у хвіліну;

— заданне рытму рухаў гукавымі сігналамі ў дыяпазоне 31—240 імпульсаў у хвіліну;

— секундамер з дыскрэтнасцю ліку 0,1 С;

— цякучы час з гукавым указаннем заканчэння кожнае гадзіны;

— стабільная работа ад двух элементаў харчавання СЦ — 32 на працягу 1,5 гадоў.

Цана «Электроники — 56» — 85 руб.

«Электроника 56А» (без вымярэння пульсу) каштуе 50 руб.

Абедзве мадэлі можна набыць у фірменных магазінахсалонах «Электроника», у спецыялізаваных магазінах «Гадзіннікі», а таксама на самім заводзе (па безнаяўным разліку).

Яго адрас: 220127, завод «Электроника», аддзел збыту.

Мінскі завод «Электроника»
Беларускае РПП «Союзреклама»




Індэкс 74824
«Крыніца» 1989, № 11, 1—44
Цана 25 кап.